


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

3 САКАВІКА 2000г. № 9/4041 КОШТ 75 РУБ.


## ПРЫВАТНЫЯ РАЗВАГІ АБ АРЦЕЛІ І РАМАНТЫЗМЕ...

***Вольга ІПАТАВА: "Тую літаратуру, якая была, і тую, якая існуе сёння, не выкінеш, як непатрэбнае смецце. Яна ў многім вызначала светапогляд народа, а ў нас на Беларусі, магчыма, была адзіным сапраўдным апірышчам беларускасці — не казённай, а той, якая ішла ад любові, ад ахвярнасці, якая думала пра пераемнасць пакаленняў. Ну хто сёння ў краіне паклапоціцца пра 100-годдзі, скажам, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Дубоўкі, Сымона Баранавых, Нічыпара Чарнушэвіча?"***

**4**

## СУДАКРАНАННЕ...

***Ганна ЗАПАРТЫКА: "О, колькі было задумак і рамантычных мар! Мы спадзяваліся, што ў нас будзе сапраўдны музей — з выставачнымі заламі, з пастаяннымі экспазіцыямі па гісторыі літаратуры і мастацтва, з прэзентацыямі архіўных фондаў... На жаль, заўсёдная наша беднасць не дазволіла нам матэрыялізаваць усе гэтыя мары".***

**5, 12**

## ПАЭЗІЯ МАЛАДЫХ

***Вершы Ганны ПАНАМАРЭНКІ, Алеся НІНЬКІ і Тамары КРУЧЭНКІ***

**8**

## КСЁНДЗ

***Апавяданне Вячаслава АДАМЧЫКА***

**9, 15**

## ГОЛАС І СЛОВА

***З кнігі афарызмаў Георгія МАРЧУКА***

**13**



*Вясна...*

Фота В. ЦУРАНАВА.



# КОЛА ДЗЁН

***Час імчыцца, як у аэратрубе. Не паспелі, здаецца, азірнуцца, а ўжо і сакавік надышоў, пачалася вясна. Вясна гэтак трывожна і гулка стрэчанага загадкавага 2000-га. Час імчыцца, але ўсё роўна як міма нас. Правільней, праз нас. Пакідаючы нас з нашай беднасцю. Падумаць толькі: у нас лічыцца багатым той, хто атрымлівае 25 долараў у месяц. І тыя з нас, хто зарабляе гэтыя 25 долараў у двух ці трох месяцах, павінен самахоць ісці ў падатковыя камісіі і прылюдна, у лічбах фіксаваць гэтую сваю беднасць. Ды самае страшнае, што беднасць матэрыяльная спараджае беднасць маральную. Спараджае духоўную нэндзу. А гэта — лянота, абыякавасць, адчай, беспрасветнасць, ныццё, зайздрасць. Мы ўсё болей і болей гатовы і пачынаем зайздросціць усім і ва ўсім, ныць і скардзіцца на свой нялёгкі лёс. Пачынаем шукаць вінаватых. Беднасць — гэта тупік. Палітычны, сацыяльны, эканамічны. Тупік, з якога няма выйсця. Бо бяднець можна да нейкай пэўнай мяжы. А затым наступае смерць. Фізічная. Круг замыкаецца...***

***А час, між тым, імчыцца. І ўсё міма, міма, міма...***

### СТОП-КРАН ТЫДНЯ

У стандартны набор прадуктаў, які мінчукі нясуць з Камароўкі, уваходзяць алей, рыс, грэчка, мука, рыба. Дык вось: неўзабаве грэчкі ў ім можа не быць. Адзіны ў Беларусі завод у Гомелі, які займаўся дапрацоўкай грэчкі: спынены: няма заказаў. Расійцы і ўкраінцы гатовы працаваць з гамяльчанамі, але іх спыняе новы НДВ, празмерная папяровая валакіта пры вывазе заказчыкам з краіны сваёй жа прадукцыі. З-за чаго церпім, спадарове? З-за сваёй жа ўласнае дурноты...

### РЭКОРД ТЫДНЯ

Нумар "Советской Белоруссии" за 1 сакавіка выйшаў рэкордным на сённяшні дзень тыражом — 500635 экзэмпляраў. Віншуем калег з "совбелки" з поспехам, рады за іх. Ды, калі праўдзе, радасць гэтая — "са слязамі на вачах". Бо і гэта — адзін са шматлікіх нашых парадоксаў. Добрая, цікавая, высокапрафесійная газета "СБ", але ж — і магутны сродак русіфікацыі нашага і без таго ўшчэнт зрусіфікаванага народа.

### ЗВАРОТ ТЫДНЯ

У 1999 годзе ў краіне асуджана 6110 непаўналетніх, у тым ліку 3614 навучэнцаў школ і ПТВ. На 38 працэнтаў вырасла колькасць асуджаных *за знарочыстае забойства*, на 10 — *за згвалтаванне, прытым больш* паловы асуджаных — зноў жа навучэнцы. За крадзяжы асуджана 3885 непаўналетніх. Становішча — вельмі трывожнае, калі не сказаць — жахлівае. У сувязі з гэтым Міністэрства юстыцыі выступіла са зваротам да кіраўнікоў школ, тэхнікамаў, ПТВ, каледжаў і да юрыстаў, суддзяў і адвакатаў правесці кампанію па ліквідацыі сярод гэтага кантынгенту прававой непісьменнасці. Што ж, мо й гэта трэба. Аднак жа прызнаемся: галоўная прычына ўсплёску злачыннасці моладзі — не ў няведанні ёю правоў і законаў. Прычына — у бездухоўнасці, у адсутнасці жыццёвых мэт і ідэалаў, у нашай беднасці і беспрасветнасці. А ўсё гэта не выправіш нават самай актыўнай і дзейснай кампаніяй...

### КОЛЕРЫ ТЫДНЯ

Новае аблічча набываюць газеты Барысаўскага, Крупскага, Смалявіцкага раёнаў і горада Жодзіна. Дзякуючы ўвядзенню ў дзеянне новай афсетнай машыны ў Барысаўскай узбуйненай друкарні газеты набылі магчымасць выходзіць у двух колерах. Колькі часу назад такая ж машына пачала працаваць і ў Баранавічах. Мы, натуральна, радуемся гэтаму, бо для нас і два колеры на газетных старонках — дасягненне. І не задумваемся, што зусім блізка ад нас, у Еўропе, ужо не адзін дзесятак гадоў газеты выходзяць у шматколерным выкананні.

### ПРЫКЛАД ТЫДНЯ

У адным з цікавейшых нашых гарадоў, маецца на ўвазе Гродна, склалася ці не трагічная сітуацыя. Гіне унікальная архітэктура гістарычнага цэнтра горада, разбураюцца будынкі, якія вызначалі аблічча Гродна, старэюць, прыходзяць у заняпад ландшафтныя помнікі — паркі. Старшыня гарвыканкама А. Пашкевіч прыгадаў колішні вопыт і праз газету звярнуўся да прадпрымальнікаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўсіх гараджан з просьбаю і прапановаю агульнымі намаганнямі ратаваць родны горад. Што ж, гэтак рабілі нашы далёкія і не вельмі далёкія продкі. Сіла, як пісаў паэт, у грамадзе. З усіх па нітцы — голаму сарочка. Ці не варты гэты прыклад для пераймання іншымі?

### РЭАЛІІ ТЫДНЯ

З-пад лёду здабываюць кармы жывёлаводы саўгаса "Краснаполле" Расонскага раёна. Кожны дзень на мелкаводнае возера Дзёміна выязджаюць брыгады нарыхтоўшчыкаў, якія прабіваюць пелькі і віламі выцягваюць з дна багатыя на вітаміны водарасці. За дзень такім чынам здабываецца каля дзвюх тон раслiннага корму, які каровы любяць і каштуе які ў пяць разоў танней, чым прывазная салома. Вось такая, амаль радасная, інфармацыя змешчана ў адной з нашых салідных газет. А якая ж тут радасць? Ратуемся, як можам. Водарасці, дастаныя з дна возера, з-пад лёду — хоць нейкая магчымасць дажыць тым саўгасным каровам да вясны. Дык і пра гэта мы не можам сказаць па-чалавечы, а — б'ем у барабаны...

### ЗАБАСТОЎКА ТЫДНЯ

Еўропа здзіўляла нас, гарапашных, заўжды, здзіўляе і сёння. І самым нечаканым чынам. З таго боку, з якога аніяк не чакаеш. Вось, калі ласка. У Швецыі святары прыгразілі аб'явіць забастоўку, калі не будуць выкананы іх патрабаванні. Патрабуюць жа служкі царквы паляпшэння ўмоў працы. Канкрэтна? Не хочуць шведскія святары працаваць без дакладна вызначаных часавых рамак і звышурочна бясплатна. Што на гэта можна сказаць? Адно хіба: нам бы іх праблемы!

### ПАТОП ТЫДНЯ

Лічба — уражвае, змушае скалануцца. Удумайцеся, спадарове: летась на рэках, азёрах і іншых вадаёмах Беларусі ўтапілася больш чым тысяча чалавек. У адным спякотным чэрвені — 553 чалавекі. Прычыны? На жаль, найперш вінавата звычайная чалавечая дурнота. Дастаткова сказаць, што 660 тапельцаў былі п'яныя. Вада абарвала жыцці 103 дзяцей да 10 гадоў. Хто вінаваты? У большасці выпадкаў — бацькі, іх няўвага. І гэта пры тым, што ў краіне дзейнічаюць 61 выратавальная станцыя і 31 пост. Мы проста самі сябе не цэнім і не беражом. Гэта вельмі красамоўна пацвярджае такі факт. У нас на 100 тысяч чалавек штогод патанае 10—16 чалавек. У Германіі ж, на 200 тысяч — усяго адзін тапелец.

### ШЛАГБАУМ ТЫДНЯ

Усё менш беларусаў пакідаюць радзіму ў пошуках заробкаў. Напрыклад, калі ў Чэхію ў 1997 годзе выехалі 564 чалавекі, то ўжо ў наступным — 179, а ў мінулым — усяго 123. Падобная ж карціна з выездамі нашых грамадзян у Польшчу і іншыя краіны, у тым ліку на Украіну і ў Прыбалтыку. І гэта зусім не таму, што беларусы не хочуць аніхуды ехаць. Абставіны не пускаюць. Прычынамі сталі, як досыць цьмяна тлумачыць афіцыйныя асобы, "праблемы ў пошуку замежных партнёраў і ў заключэнні ўзаемавыгадных кантрактаў з замежнымі работадаўцамі". Не надта ўцямна? Калі прасцей, дык — не ўмеем мы шукаць партнёраў і працаваць з імі. Дзякаваць Богу, што хоць у расійскі бок няма шлагбаўму...

КАНФЕРЭНЦЫІ

# Супрацьь "анямення"

Сёлета спаўняецца дзесяць год, як быў прыняты "Закон аб мовах" (26 студзеня 1990 г.), згодна з якім беларускай мове надалі справядлівы статус дзяржаўнай. Гэтая адметная дата, разам з усімі яе наступствамі, надзвычай злучана з айчыннай моўнай і палітычнай перспектывай. Больш за тое — пакуль не ўдаецца рэальна пазбегнуць зваротнасці таго працэсу. Пакуль...

26 лютага ў сталічным Доме літаратара Таварыства беларускай мовы разам з Саюзам пісьменнікаў, Таварыствам беларускай школы і іншымі грамадскімі аб'яднаннямі была праведзена навукова-практычная канферэнцыя "Закон аб мовах" — вынікі і перспектывы".

Мерапрыемства атрымалася досыць прадстаўнічым: пісьменнікі, мовазнаўцы, юрысты: ад дырэктара Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Падлужнага да прадстаўнікоў усіх рэгіянальных структур ТБМ. Па словах старшыні гэтай арганізацыі спадара Трусава, яна становіцца "больш мабільнай". Напрыклад, з Ліды прывезлі сабраныя за адзін толькі тыдзень каля тысячы подпісаў, у тым ліку чыноўнікаў і міліцыянтаў, у падтрымку ідэі стварэння Нацыянальнага універсітэта.

Дарэчы, дастаткова лаяльна паставіліся да правядзення канферэнцыі ўлады. Дом літаратара далі бясплатна, а настаўнікам, што зацікаўлены прыехаць, нават выпісвалі афіцыйныя камандзіроўкі. Мо таму, што супраць русіфікацыі з'явіўся нават фармальны козыр — вынікі леташняга агульнанацыянальнага перапісу, пра што вельмі часта гаварылі на канферэнцыі? На 37% насельніцтва, што гавораць дома па-беларуску, вочы не заплюшчыш.

Падчас канферэнцыі наладзілі шэраг суправаджальных акцый. Як, напрыклад, прэзентацыя першага нумара газеты "Наша свабода" і прэзентацыйны продаж разнастайнай літаратуры. У тым ліку толькі што выдадзенай. Так была прадстаўлена доўгачаканая, рыхтаваная некалькі гадоў і выдадзеная літаральна гэтымі днямі ў Вільні "хроніка знішчэння беларускай мовы" — зборнік "Анямене".

Удзельнікі канферэнцыі аднагалосна прынялі некалькі высноў, якія гучаць прыкладна так:

1. Закон аб мовах у рэдакцыі 1990 года адпавядаў задачам нацыянальна-культурнага адраджэння і дынамічнага развіцця беларускага народа. Ажыццяўленне закона на практыцы сведчыла, што прадугледжаныя ў ім тэрміны ўвядзення беларускай мовы ў сферы грамадскага жыцця зусім рэальныя і забяспечвалі ёй нармальныя ўмовы для функцыянавання, што не парушала нацыянальных інтарэсаў усіх этнічных меншасцей. Закон аб мовах наблізіў Рэспубліку Беларусь да ўсіх краін, дзе ўжо не існавала праблем з вырашэннем моўнага развіцця тытульнага народа.

2. Канферэнцыя канстатавала, што Закон аб мовах 1990 г. адпавядаў палажэнням сацыялінгвістыкі ў плане канцэпцыі кампенсацыйнай моўнай палітыкі, якую рэкамендуецца праводзіць у сітуацыі шматмоўя для падтрымкі т. зв. мінарытарных моў у цывілізаваных краінах. Прынятыя змены і папраўкі фактычна выхаласцілі сутнасць гэтага закона.

3. Пашырэнне грамадскіх функцый беларускай мовы прадугледжвае адначасовае ўдасканаленне яе структуры. Найбольш важнымі напрамкамі ў гэтым плане з'яўляюцца падрыхтоўка разнастайных навучальных дапаможнікаў, распрацоўка тэрміналогіі і выпрацоўка канвенцыйных і як мага больш стабільных норм літаратурнай мовы.

4. Адукацыйная сістэма з'яўляецца найважнейшай сферай, у якой рэалізуецца моўная палітыка дзяржавы. Сённяшняя моўная сітуацыя патрабуе бесперапыннай сістэмы нацыянальнай адукацыі, і першым звяном стварэння беларускіх ВНУ стане адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта.

**К. П.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На ўрок, прысвечаны творчасці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна прыйшлі ў пісьменніцкую бібліятэку вучні СШ N 28 г.Мінска. Пра творчасць выдатнага майстра айчыннай літаратуры гаварылі Генадзь Бураўкін, Казімір Камейша, Алесь Бадак і Навум Гальпяровіч, які быў вядучым урока. Гучалі вершы паэта, прысутныя змаглі пазнаёміцца з выставай кніг Рыгора Барадуліна, прысвечанай яго 65-годдзю.

•

Семінар журналістаў, якія асвятляюць пытанні культурнага жыцця, прайшоў у інстытуце праблем культуры. Ладзілі яго Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўны камітэт па друку.

Сярод тых, хто выступіў перад удзельнікамі семінара, быў і намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навум Гальпяровіч. Ён расказаў пра дзейнасць старэйшай творчай арганізацыі краіны, адказаў на пытанні прысутных.

•

Ледзь змагла змясціць усіх жадаючых бібліятэчная зала на ўроку творчасці паэта Алега Бембеля. Затаіўшы дыханне, слухалі школьнікі аповед паслушніка Жыровіцкага манастыра, яго вершы. Пра творчасць Алега Бембеля гаварылі Ірына Багдановіч, Людка Сільнова, Іван Чыгрын, народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч. Вяла ўрок Вольга Іпатава.

•

Гасцямі вучняў сярэдняй школы N 75 былі Навум Гальпяровіч і Яўген Каршукоў. Старшакласнікі з цікавасцю слухалі іх расказ пра работу творчай суполкі, вершы ў выкананні аўтараў.

•

Саюз беларускіх пісьменнікаў прыме актыўны ўдзел у культуралагічным праекце "Траецкі кірмаш", які накіраваны на захаванне і пераемнасць традыцыйных відаў беларускіх рамёстваў, народнай культуры ўвогуле. Сярод удзельнікаў дэлегацый раёнаў, якія з 22 красавіка *па 7 кастрычніка* кожную суботу мяркуюць паказваць свае дасягненні ў галіне народнай творчасці, будуць і літаратары — удзельнікі мясцовых літаратурных аб'яднанняў і гурткоў.

Культуралагічны праект "Траецкі кірмаш" быў разгледжаны на пасяджэнні калегіі Міністэрства культуры і ўключаны ў дзяржаўную праграму падтрымкі народнага мастацтва на 2000—2005 гг.

•

Цікавы дыялог з чытачамі, сярод якіх былі студэнты і выкладчыкі, супрацоўнікі Нацыянальнай акадэміі навук, атрымаўся на сустрэчы, прысвечанай творчасці крытыка, празаіка, драматурга Пятра Васючэнкі. У ім прынялі ўд. Ганна Кісліцына, Галіна Тычка, Лявон Баршчэўскі і іншыя. Адбылася прэзентацыя новай кнігі П. Васючэнкі "Прыгоды аднаго губашлёпа".

**Н. К.**

ПАДЗЕІ

# Думаючы пра вечнае

Янка Брыль — прызнаны класік беларускай літаратуры, выдатныя творы якога сталі нацыянальным набыткам нашага народа. Гэтая думка не раз гучала падчас прэзентацыі "Выбраных твораў" народнага пісьменніка Беларусі, якія выйшлі ў выдавецтве "Беллітфонд" у серыі "Беларускі кнігазбор". Да выдання "Выбранага" спрычыніўся і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Словы пра жыццёвы і творчы шлях Івана Антонавіча гаварылі — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі, паэт і выдавец Кастусь Цвірка, крытык Серафім Андраюк, пасол Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч.

Сапраўды, чытаць Янку Брыля — вялікая асалода, высокая работа душы. Глыбокі інтэлект, паэтычнасць, высокае майстэрства робяць яго творы цікавымі для новых пакаленняў чытачоў.

У кнігу ўвайшлі аповесці "Ніжнія Байдуны", "Золак, убачаны здалёк", "Мунштук і папка", апавяданні, эсэ і, вядома, мініяцюры.



Выступіў на вечарыне і сам аўтар. Як заўсёды, яго выступленне было цікавым і насычаным непаўторным брылёўскім гумарам.

Вяла вечарыну в.а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

**Н. К.**

*Фота М. КЕНЬКІ*

ФЕСТЫВАЛІ

# У Магілёве — "зорна"!

## 5 САКАВІКА ЗАВЯРШАЕЦЦА II АДКРЫТЫ ФЕСТЫВАЛЬ ФАРТЭПІЯННАЙ МУЗЫКІ

Яго афішы ўпрыгожаныя імёнамі "зорак" і "зорачак", і ад гэтага ў музычнай атмасферы Магілёва, дзе адбываюцца фестывальныя імпрэзы, па-сапраўднаму святочна. У конкурсных праслухоўваннях удзельнічаюць амаль трыццаць юных выканаўцаў з усёй Беларусі, прадстаўнікі Летувы і Расіі. Сярод іх — і лаўрэаты іншых фартэпіянных спаборніцтваў. Адбываюцца майстаркласы знаных педагогаў-піяністаў, якія спалучаюць заняткі з працай у журы. Дарэчы, яго ўзначальвае прафесар Л. Шаламенцава (Мінск), а ў ліку яе калег — дырэктар Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі У. Кузьменка, мастацкі кіраўнік Цэнтральнай музычнай школы пры Маскоўскай кансерваторыі В. Бельчанка, педагог Віленскай гімназіі мастацтваў імя М. Чурлёніса Ю. Курасайтэ, іншыя прадстаўнікі фартэпіяннай школы Беларусі, Польшчы, Расіі.

З раніцы фестывальныя імпрэзы размяркоўваюцца па некалькіх пляцоўках горада. Апроч заняткаў і праслухоўванняў праходзіць навуковая канферэнцыя Беларускай асацыяцыі педагогаў фартэпіяна пад кіраўніцтвам прафесара В. Яканюка. А ўвечары — абавязкова канцэрт. Праграмы, шмат у чым дзякуючы кіраўніцтву абласной філармоніі, разнастайныя. З удзелам маладых беларускіх піяністаў — лаўрэатаў міжнародных конкурсаў; з удзелам лаўрэатаў I Адкрытага фестывалю; "Век раяля" — прадстаўленне гісторыі развіцця інструмента ад спінета, клавесіна да "караля сцэны"; "Джаз і раяль" (назва не мае патрэбы ў тлумачэннях); заключная цырымонія з ушанаваннем сёлетніх пераможцаў і выступленнямі гасцей..

Імёны? Піяністы В. Шацкі, К. Шараў, А. Эскін (са сваім трыо), А. Малакаедаў ("зорка" летувіскага джаза), дырыжор Зубаў (з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі, які ён сёння ўзначальвае). Адмысловыя выканаўцы твораў на фартэпіяна ў 4—8 рук. Г. Гетманава, Н. Пазнякова, Т. Лазуткіна, Н. Максіменя, салісты Ю. Бліноў, М. Рамейка, К. Красніцкі. Спіс можна доўжыць, але пакуль нельга дадаць да яго імёны новых лаўрэатаў: іх назавуць толькі ў нядзелю...

**Н. К.**

ВЫСТАВЫ

# У пошуках Язэпа Драздовіча

Вось ужо чацвёрты год мастакі-аднадумцы збіраюцца летам на Дзісеншчыне, радзіме дзядзькі Язэпа. Удзельнікі штогодніх Нацыянальных мастацкіх пленэраў імя Я. Драздовіча намагаюцца знайсці ў тых некранутых урбанізацыяй мясцінах сляды прысутнасці слыннага мастака і адлюстраваць яе ў сваіх творах. Таму творчая праца заўжды пачынаецца з усё той жа пункі, стажкоў на лузе, абавязковай ліпы, адзінай сапраўднай сведкі жыцця майстра.

У гэтым годзе ўпершыню да летніх вандровак дадаўся і зімовы выезд на радзіму Язэпа Драздовіча. Вынікі зімовай часткі чацвёртага Нацыянальнага мастацкага пленэру былі нядаўна паказаны ў галерэі Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра навучэнцаў. Зімовыя пейзажы ўразілі сапраўднай свежасцю, жывасцю, іскрыстым зззяннем свету, непадобным да змрочнай прахалоды прыглушанага беларускага лета.

Мяркуецца, што зімовая частка пленэраў будзе пастаяннай. А новая галерэя — сталым месцам і выставаў з новых пленэраў Драздовіча, і выставаў сяброў суполкі "Пагоня", якая была ініцыятарам правядзення гэтых пленэраў.

**Н. Ш.**



*На здымку: А. МАРАЧКІН "Партрэт Язэпа Драздовіча"*

ІМПРЭЗЫ

# Музычны феерверк

Духавы аркестр — вялікая магічная сіла! Тры канцэртныя аддзяленні доўжылася яго праграма, а хацелася слухаць яшчэ. Напэўна, калі б тая самая праграма прагучала ў Вялікай зале сталічнай філармоніі і наступным вечарам, яе ўздзеянне на публіку было б такое ж: прыцягальнае (аншлаг!) і магічнае (адчуванне палёту і шчасця!).

Гэты музычны феерверк расквеціў філарманічную залу акурат у свята — 23 лютага. Яго чыннікамі былі высакакласныя выканаўцы: галоўны духавы аркестр Узброеных Сіл Беларусі, нядаўна створаны пры ім біг-бэнд, Мінскі аркестр духавых інструментаў "Няміга", — пад кіраўніцтвам дырыжораў У. Фёдарава, М. Бярсана, П. Вандзілоўскага, з удзелам салістаў. Калектывы гралі паасобку і разам: уяўляеце эфект ад гучання падвоенага складу, напрыклад, меднагалосых трубаў ці трамбонаў?!



Феерверк заўсёды ўражвае несчаканасцю спалучэння разнакаляровых агнёў, ліній, рытмаў... Так было і падчас гэтага грандыёзнага канцэрта: элементы тэатралізацыі, імправізаваная музычная гульня спалучаліся з акадэмічнай дасканаласцю і віртуозным майстэрствам, дэмакратычны дух — з глыбінёй сур'ёзнага мастацтва; у праграме суседнічалі творы І. Лучанка, класічны джаз, мелодыі з кінафільмаў і мюзіклаў, маляўнічыя сімфанічныя партытуры...

Духавыя аркестры "салютавалі" з нагоды афіцыйнай каляндарнай урачыстасці. Хочацца ж, каб такія канцэрты былі часцей, бо іх вялікая магічная сіла можа пераўтварыць звычайны будзённы вечар — у святочны. А святаў для душы, якая ўвесь час у клопатах, ніколі не бывае зашмат.

**С. Б.**

*Фота М. ПРУПАСА*

# Чырвонаармейскай — імя Багушэвіча!

Ужо не першы год у нашай краіне ідзе наданне новых найменняў старым вуліцам, плошчам і іншым аб'ектам гарадскога асяроддзя. Тое-сёе даўно зроблена, але шмат яшчэ працы наперадзе. Вядомы мастак і грамадскі дзеяч Мікола Купава, дзякуючы якому зроблена шмат у справе перайменавання вуліц, ізноў звярнуўся ў Мінгарвыканкам з заявай, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: "Яшчэ ў 1992 годзе імя Ф. Багушэвіча прапанавалі надаць вуліцы Чырвонаармейскай. Такі выбар быў невыпадковы і дасканала прадуманы. Вуліца зусім блізка прылягае да гістарычнага цэнтра горада. На ёй размешчаны Нацыянальная бібліятэка Беларусі і корпус БДУ. Гэтая сітуацыя вельмі зручная і для далейшай мемарыялізацыі імя вялікага паэта, тут з цягам часу можа паўстаць і помнік Ф. Багушэвічу. Канцэпцыя была перададзена ў Мінгарвыканкам для яе ажыццяўлення, але там жа і была пахавана. Праўда, дзве нашыя прапановы ўсё ж былі ажыццёўлены: годную, вартую імя вялікага паэта вуліцу, а галоўнае на якой ён нарадзіўся, назвалі імем Максіма Багдановіча і было вернута гістарычнае найменне вуліцы Залатая Горка.

У сувязі з гэтым вялікае здзіўленне выклікае прапанова Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны аб наданні вул. Інтэрнацыянальнай імя Ф. Багушэвіча. Гэта вуліца мае гістарычныя назвы (два канцы ад Дамініканскай (Энгельса)) Панцырная або Вялікая Зборавая ды Валоцкая або Валокі Полацкія. Вуліца ў гістарычным цэнтры горада і назвы яе ўяўляюць вялікую гістарычную і культурную каштоўнасць. Таму адраджэнне назваў гэтай гістарычнай вуліцы як і ўсяго гістарычнага цэнтра Мінска абавязак грамадскасці горада, гэта наша мэта і бліжэйшая культурная перспектыва. Але ўжо сёння неабходна перaадолець пагрозу знішчэння гістарычнай назвы адной са старажытных вуліц беларускай сталіцы, узнікшай з лёгкай падачы ТБМ, арганізацыі, якая не павінна была выходзіць з такой неабдуманай прапановай.

Адсутнасць жа ў Мінску вуліцы Ф. Багушэвіча — гэта тое ж самае, каб у Маскве не было вуліцы Пушкіна! Але пра Пушкіна і ў Мінску не забыліся! Ды яшчэ як! Спадзяёмся, што Мінгарвыканкам нарэшце знойдзе ў сабе смеласці і грамадзянскай мужнасці, каб вуліца з нязначнай назвай, але вельмі дынамічная і важная ў гарадскім асяроддзі з Чырвонаармейскай пераўтваралася ў вуліцу класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча".

**Н. К.**

АБСЯГІ

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## У дзень нараджэння народнага

Аматары беларускай паэзіі — літаратары, школьная і студэнцкая моладзь, бібліятэчныя работнікі, актывісты Таварыства беларускай мовы — сабраліся на мінулым тыдні ў літаратурным музеі Віцебска на вечарыну, прысвечаную творчасці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Аб славутым земляку гаварылі Анатоль Канапелька, Сяргей Рублеўскі, Уладзімір Папковіч, Франц Сіўко, Яўгенія Мальчэўская. Вёў вечарыну Давід Сімановіч. Дарэчы, у абласной газеце "Народнае слова" ў дзень нараджэння шаноўнага Рыгора Іванавіча былі надрукаваны нататкі Сяргея Рублеўскага "Вечаровыя пацеркі з ніткі дзядзькі Рыгора".

**Святлана ГУК**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Слаўся, Марыя!

Гэты покліч стаў лейтматывам незвычайных урачыстасцей, што адбыліся ў літоўскім культурна-асветным цэнтры ў вёсцы Пеляса Воранаўскага раёна. Жыхары навакольных вёсак, госці з Вільнюса адзначылі 80-гадовы юбілей тутэйшай сялянкі Марыі Крапене. У яе гонар адслужылі малебен. А потым пані Марыя правяла добрую палову дня на сцэне цэнтра. Юбілярку віталі і віншавалі аднавяскоўцы і школьнікі, самадзейныя артысты і навукоўцы, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Літвы ў Беларусі Йонас Паслаўскас і старшыня Беларускага аб'яднання літоўскіх суполак Вяргінія Тарнаўскайтэ. Нястомная праца М. Крапене па захаванні ў палескай старане літоўскага асяродка ацэнена дастойна. Простая жанчына і зараз дбае аб развіцці нацыянальнай адукацыі і фальклору, прапагандуе літоўскую песню, папаўняе новымі экспанатамі мясцовы музей.

## Воранава — Шальчынінкай

Загадчыцы аддзелаў культуры Воранаўскага раёна Гродзеншчыны і Шальчынінкайскага суседняй Літвы Ніна Лісоўская і Соф'я Гразнова падпісалі дамову аб супрацоўніцтве ў галіне культурнага абмену. У адпаведнасці з ёю плануюцца правядзенне ў сумежных раёнах Дзён беларускай і літоўскай культуры, абмен канцэртамі, кніжнымі фондамі, арганізацыя выстаў народнай творчасці. Для пераймання вопыту суседзяў мяркуецца наладзіць сустрэчу загадчыкаў бібліятэк, настаўнікаў музычных школ, а таксама правесці ў кожным з раёнаў экскурсіі работнікаў культуры.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Помнік-бюст Смірнову

Адным з самых жаданых гасцей Брэсцкай крэпасці заўсёды быў рускі пісьменнік Сяргей Смірноў — аўтар кнігі "Брэсцкая крэпасць", якая ў 65-ым была ўганаравана Ленінскай прэміяй. А нагода ўспомніць Смірнова наступная. Жонка маскоўскага скульптара Андрэя Кастраміціна (на жаль, яго няма ўжо) перадала ў музей Брэсцкай крэпасці-героя бюст пісьменніка. Намеснік дырэктара музея Алена Харычкава паведамляе, што тэма Брэсцкай крэпасці, яе абаронцаў займала ў творчасці Кастраміціна адно з важных месцаў. Ён з'яўляецца аўтарам помніка-бюста абаронцу цытадэлі капітану Івану Зубачову. А помнік-бюст Смірнову ўрачыста перададзены дырэктару музея Валерыю Губарэнку ў маскоўскім пасольстве.

## Напярэдадні свята

Рэдакцыя абласной беларускамоўнай газеты "Народная трыбуна" аб'явіла творчы конкурс, прысвечаны 55-гадоваму юбілею Перамогі... Для нас, дажыўшых да памежжа тысячагоддзяў, што значыць далёкі дзень 9 мая 45-га? Якой была вайна, што так кардынальна паўплывала на лёсы тысяч людзей і гістарычны шлях не аднаго дзесятка дзяржаў свету? Як жывуць сёння ветэраны? Пра гэта расказвайце ў фотаздымках, замалёўках, рэпартажах, апавяданнях, нарысах, вершах і дасылайце на конкурс "Перамога была! Ёсць! Будзе!" Рэдакцыя газеты "Народная трыбуна" чакае лістоў з пазнакаю "Конкурс" да 1 мая на адрас: 224013, Брэст, пр. Машэрава, 75/1.

**Уладзімір ТАРАСЮК**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Мастак жыве ў карцінах

Гамяльчанін Віктар Казачэнка дэбютаваў на рэспубліканскай выставе аж у 1946 годзе. Вельмі сябраваў з народным мастаком Беларусі Віталем Цвіркам, з якім разам напісаў шмат карцін. Пасля вайны ўзначальваў арганізацыю мастакоў Гомельшчыны. Стаў выдатным каларыстам, а яго творы набылі розныя музеі, у тым ліку і наш Нацыянальны. Казачэнка актыўна працаваў у галіне індустрыяльнага і лірычнага пейзажу. Два гады таму памёр. Памяці мастака прысвечана выстава яго работ, якая адкрылася ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў.

## "Свет нацюрморта"

Менавіта так названа экспазіцыя ў абласным краязнаўчым музеі. Яна ўключыла творы вядомых мастакоў-землякоў. Сярод іх — Акім Шаўчэнка, Алена Самойленка-Машкоўцава, Валерыя Жолтак, Валянцін Крылоў, Алег Пятроў...

## Новая праграма Камернага

Камерны аркестр мастацкага каледжа імя Н. Сакалоўскага (мастацкі кіраўнік і дырыжор — Аляксандр Мазепін) выступіў перад землякамі з новай праграмай "Шэдэўры заходне-еўрапейскай музыкі і паэзіі". У канцэрце бралі ўдзел вядучыя салісты абласной філармоніі, выкладчыкі каледжа, акцёры драмтэатра.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Будуць спаборнічаць піяністы

З 1 па 5 сакавіка ў Магілёве праходзіць другі фестываль фартэпіяннай музыкі "Творчая моладзь — дваццаць першаму стагоддзю". Яго падрыхтавалі Міністэрства культуры, Беларуская акадэмія музыкі і мясцовы аблвыканкам. У рамках фестывалю запланаваны конкурс маладых піяністаў. Спаборнічаць будуць 29 выканаўцаў з Беларусі, Літвы і Расіі. Сярод іх — чацвёра магіляўчан: выхаванцы музвучылішча і гімназіі-каледжа музыкі і харэаграфіі.

## Прафесійнасць аматара

У Кіраўскім Доме культуры адкрылася персанальная выстава мастака-аматара Івана Грамовіча. На ёй прадстаўлена 41 работа — у асноўным пейзажы. За дваццаць апошніх год жывапісец стварыў амаль паўтары сотні карцін. Шмат работ Грамовіч падараваў арганізацыям, музеям і прыватным калекцыянерам.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

СПАДЧЫНА

***Кажуць, што ўсё ў свеце дзеецца воляю выпадку, што нават і сама Зямля, жыццё на ёй таксама ўзніклі зусім выпадкова. Можа быць, усё гэтак і ёсць. Ды толькі ад усведамлення гэтага робіцца горка і тужліва, душа наша не хоча і не можа мірыцца з такім станам рэчаў. Кожны з нас, дзеля сцвярджэння сваёй праўды, прыгадае дзесяткі момантаў, якія красамоўна сведчылі: ну невыпадкова адбыліся тая ці іншая падзея, з'ява, сустрэча, перамога альбо параза, а акурат як з Божае ласкі ці па прычыне нейкае іншае вышэйшае наканаванасці.***

***Вось і гэты факт, які папрасіўся на запеўку майго газетнага допісу. Надта ж моцна ўзрушыў ён мяне і змусіў каторы раз падумаць пра сапраўды дзівосныя супадзенні, вытлумачваць якія адной выпадковасцю аніяк не выпадае. Зрэшты, мяркуйце самі.***

***У Мінску, ці не на самым высокім месцы старажытнага Верхняга горада, збярогся, ацалеў цудам касцёл святога Язэпа і кляштар бернардынаў пры ім. Ацалелі, само сабою, будынкі. А паўтары сотні гадоў назад у іхніх сценах віравала духоўнае жыццё: манахі-бернардыны ўтрымлівалі школу, бібліятэку, займаліся асветніцтвам і дабрачыннасцю. Вальнадумныя, патрыятычныя настроі 1860-х гадоў не абышлі святыя муры ў Верхнім горадзе. У касцёле неадноўчы бывалі многія перадавыя, прагрэсіўныя людзі таго часу, у тым ліку Дунін-Марцінкевіч і яго ная дачка Каміла, многія іншыя ўдзельнікі паўстання, кіраўніком якога на Беларусі быў малады і прыгожы і не па гадах мудры і мужны Кастусь Каліноўскі. У трагічныя дні паўстання патрыёты, стаўшы на калені на прыступках касцельнага алтара, праспявалі рэвалюцыйны гімн. Такога царскія сатрапы дараваць не маглі. Касцёл быў апаганены і разрабаваны, бібліятэка знішчана, манахі пераведзены ў Магілёўскі кляштар, а Мінскі кляштар бернардынаў стаў неўзабаве... турмою, куды зняволівалі паўстанцаў. І сярод іх — удзельнікі згаданай герайчнай акцыі на прыступках касцельнага алтара. З жніўня 1864 года вязні аднае з камер, развітваючыся з жыццём, пісалі адзін аднаму памятныя запіскі-аўтографы. Пісалі на лістках з запісной кніжкі, якая нейкім чынам зберагалася ў кагосьці...***

***І вось — дзіва: лісткі тыя — не прапалі, не былі знішчаны следчымі-жандарамі, дайшлі да нашага часу. Але яшчэ большае дзіва, што ў 1992 годзе, праз 128 гадоў, яны зноў — містыка дый годзе! — апынуліся ў тых самых сценах, у якіх пісаліся, — у сценах колішняга бернардынскага кляштара. У сценах, у якіх зараз месціцца Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі.***

***Гісторыю гэтую я й пачула тут, у архіве-музеі, з вуснаў дырэктара Ганны Запартыкі, і не ўстрымалася, усклікнула:***

# Судакрананне, альбо Дыялогі ў святых сценах былога храма

**— Ганна Вячаславаўна, дык гэта ж сапраўдны дэтэктыў! Гэта ж цікавейшы матэрыял для гістарычнай аповесці! Дзе нашы майстры гістарычнага жанру, чаму яны не вырвалі ў вас з рук гэты фантастычны сюжэт?!**

— Хочацца спадзявацца, што гэты сюжэт, як вы кажаце, сапраўды зацікавіць каго-небудзь з пісьменнікаў і ў выніку народзіцца цікавая, займальная кніга, асабліва патрэбная і карысная для моладзі. А што да дэтэктыву... Дэтэктыў напісала само жыццё. А фінал яго, пакуль што не канчатковы, такі. У 1992 годзе ў Мінск прыязджала дачка Каруся Каганца (Казіміра Кастравіцкага) Галіна Казіміраўна Пуцята. Прыязджала на адкрыццё надмагільнага помніка бацьку. І тады яна перадала нам фотаздымкі бацькі, ягоную візітоўку з аўтографам, а таксама бацькаў нататнік, ці, як мы прывыклі гаварыць, запісную кніжку. У ёй аказаліся лісткі, якія сваім памерам, фактурай і колерам паперы адрозніваліся ад іншых. Пры старанным вывучэнні не засталося сумнення — гэтыя лісткі з іншай запісной кніжкі. З якой? Высветлілася, што акурат з той, якая аказалася ў камеры ў аднаго з паўстанцаў 1863—64 гадоў і ў якой напярэдадні пакарання яны пакінулі свае аўтографы. Як гэтыя лісткі аказаліся ў нататніку Каруся Каганца? Мо калі-небудзь раскрыецца і гэтая таямніца...

У абыходкавым разуменні архіў-музей (няхай сабе і з дадаткам — літаратуры і мастацтва) — установа сумная. Прызнаюся, і сама была схільная гэтак думаць, хоць і разумела, што не так гэта. Старанна захаваны рукапісны лісток, стары фотаздымак, кніга з аўтографам ужо самі па сабе цікавыя, выклікаюць на роздум. Узнікае жаданне даведацца, як пісаў паэт, кім той лісток вырваны з сшытка ці блакнота, чыёй рукою, калі і дзеля чаго... Такія архіўныя дакументы, як яны афіцыйна называюцца, дапамагаюць больш глыбокаму разуменню гістарычных падзей і асоб, згубленых у далечы часу. Дакрананне да іх не толькі дадае ведаў, але і ўзбагачае душу, натхняе на пошукі, прыводзіць да ўсведамлення таго, што ўсё створанае чалавечым розумам і сэрцам трэба зберагаць і шанаваць. З гадамі, дзесяцігоддзямі яно набывае невымерную каштоўнасць як ацалелыя сведкі "дзён, што ў нябыт адышлі". Як і тыя лісткі з нататніка К. Каганца, пра гісторыю адшукання якіх расказала мне Г. Запартыка. Аповед яе, у дадатак, набываў асаблівую ўчувальнасць і з тае прычыны, напэўна, што адбываўся ў будынку, пад скляпеннямі якога цягам доўгага часу лунала высокая духоўнасць. Адчуванне, што дакументы, сабраныя тут, зберагаюць у сабе цяпло, энергію, жыццядайную аўру творцаў, узмацнялася акурат разуменнем таго, у якім будынку яны захоўваюцца.

Усё гэта і падштурхнула мяне пагаварыць пра ўстанову, якую ўзначальвае мая суразмоўніца, больш падрабязна.

**— Ганна Вячаславаўна, давайце пачнём нашу гутарку з самага традыцыйнага пытання. Калі і кім быў створаны ваш архіў-музей? Якая гісторыя яго стварэння, што паслужыла штуршком для гэтага?**

— Створаны архіў (музеем ён стаў пазней) у 1960 годзе, і такім чынам нам сёлета спаўняецца 40 гадоў. Створаны ён быў гэтак, як тады стваралася ўсё, — рашэннем ЦК КПБ і, фармальна, пастановаю Савета Міністраў. На той час такія архівы ўжо былі ў Маскве, Кіеве, Вільні, — вось прыйшла чарга і да Беларусі. Першай дырэктаркай была Клара Сціпанаўна Жорава. Асноўнай задачай навастворанай установы было сабраць асабістыя архівы пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў, кампазітараў. Першымі фондамі, якія паступілі, былі фонды М. Машары і М. Васілька. Адным з першых значных паступленняў, якое не адразу ацанілі нават самі архівісты, быў фонд ужо й тады сумнавядомага Лукі Бэндэ. У фондзе былі зроблены самім Л. Бэндэ копіі унікальных дакументаў са сховішчаў Пецярбурга, Масквы, Чарнігава, а таксама багаты збор дакументаў дзеячаў нашай літаратуры XIX — першай паловы XX стагоддзяў. Шляхі набыцця ім гэтых дакументаў былі самыя розныя, у тым ліку, так бы мовіць, і не самыя "чыстыя", аднак жа ў гэтым фондзе мы маем унікальнейшыя рукапісы В. Тапчэўскага, хрэстаматыю Б. Эпімаха-Шыпілы, аўтографы М. Гарэцкага, частку архіва П. Труса — не адну сотню дакументаў. На сённяшні дзень фонд Л. Бэндэ цалкам распрацаваны. Мы ўдзячны многім, хто працаваў з ім, — гэта і Г. Кісялёў, і А. Мальдзіс, і У. Содаль, і Я. Саламевіч, і іншыя, што дапамаглі ідэнтыфікаваць многія старонкі збору.

У 1976 годзе архіў па ініцыятыве Саюза пісьменнікаў і самых архівістаў ператвараецца ў архіў-музей літаратуры і мастацтва. На той час у нас было ўжо шмат асабістых фондаў, а таксама фондаў тэатраў, іншых устаноў культуры. Тады ж паступіў да нас і фонд музея імя І. Луцкевіча з Вільні. Адным словам, у нас была ўжо досыць грунтоўная дакументальная база для стварэння архіва-музея.

**— Што мелася на ўвазе, калі рабілася гэтая рэарганізацыя? Архіў і музей адначасова — як стыкуюцца гэтыя два статусы адной па сутнасці ўстановы?**

— О, колькі было задумак і рамантычных мар! Мы спадзяваліся, што ў нас будзе сапраўдны музей — з выставачнымі заламі, з пастаяннымі экспазіцыямі па гісторыі літаратуры і мастацтва, з персанальнымі выставамі да розных юбілейных дат, з прэзентацыямі архіўных фондаў... На жаль, заўсёдная наша беднасць не дазволіла нам матэрыялізаваць усе гэтыя мары. Хоць мы і сёння марым, песцім спадзяванне, што ў Мінску нарэшце пабудуюць архіўны гарадок (ужо нават каштарысная дакументацыя распрацоўваецца), дзе мы ў рэшце рэшт займеем сваё, адпаведнае прызначэнню, памяшканне і дзе мы зможам рэалізаваць свае планы і задумы.

Але я хачу звярнуць увагу вось на што. Возьмем, напрыклад, літаратурныя музеі. Усе экспанаты ў іх, прынамсі, пераважная большасць іх, зроблены на падставе асабістых архіваў пісьменнікаў, на іх базе. А сёння мы маем каля 400 асабістых архіўных фондаў самых знакамітых, выбітных дзеячаў літаратуры і мастацтва, а гэта значыць, што мы маем, па сутнасці, 400 вялікіх і малых музеяў. Для таго, каб на падставе любога асабістага фонду (І. Мележа, П. Панчанкі, А. Куляшова, М. Танка...) зрабіць выстаўку, неабходна ўсяго толькі мастацкая фантазія, веданне творчасці пісьменніка ды жаданне. У таких выстаўках могуць адсутнічаць, вядома, чыста музейныя прадметы-экспанаты, аднак жа і ў літаратурных музеях такіх музейных рэчаў і прадметаў, на жаль, няшмат. Згадаем выдатны музей нашага Максіма Багдановіча. Там выдатнае вырашэнне музейнай экспазіцыі, але ж не скажаш, каб у ёй было шмат нейкіх матэрыяльных рэчаў. А вось ужо дакументы (а гэта значыць, архіўныя матэрыялы) там сабраны сапраўды цалкам.

**— Тым не менш, вы ўсё ж і самі штосьці робіце, акурат як музей?**

— Безумоўна! І не гэтак мала, як каму можа падацца. На творчых вечарынах пісьменнікаў у Доме літаратара нашы шматлікія юбілейныя выстаўкі былі вельмі папулярныя. Былі нашы выстаўкі і ў Саюзе мастакоў Беларусі, і ў Саюзе кампазітараў. Зараз, у сувязі з рэзкім пагаршэннем эканамічнай сітуацыі ў краіне, гэты абсяг нашай работы звузіўся. Тым не менш сёе-тое робіцца, цікавасць людзей да архіўных матэрыялаў не зменшылася, нават ці не павялічылася. Наладжваем выстаўкі ў сваіх сценах. Вось і зараз працуюць у нас дзве экспазіцыі, прысвечаныя А. Бабарэку і М. Лынькову — у сувязі з іх юбілейнымі датамі. Праводзяцца ў нас і мастацкія выстаўкі. Згадаю хоць бы дзве апошнія, прысвечаныя творчасці Г. Бараноўскай і В. Налівайкі. У нас праходзяць творчыя сустрэчы архівістаў з літаратарамі, акцёрамі, музыкантамі, мастацтвазнаўцамі. На жаль, вялікіх масавых мерапрыемстваў ладзіць мы не можам, няма куды запрасіць мноства людзей, аднак жа лакальных, як кажуць, сустрэч, у часе якіх узнікаюць цікавыя і карысныя дыскусіі і абмены думкамі, у нас праходзіць нямала.

**— Ганна Вачаславаўна, а якія канкрэтна цікавыя, каштоўныя дакументы, рукапісы, фота, ноты, карціны ў вас захоўваюцца? Чым можаце найперш пахваліцца?**

— Ну, для нас, архівістаў, кожны дакумент па-свойму каштоўны. Галоўнае, каб ён утрымліваў пэўную інфармацыю, каб выклікаў даследчыка на дыялог, задаваў яму пытанні і адказваў на іх. У кожным паступленні ёсць тыя ці іншыя адкрыцці, нечакана з'яўляюцца невядомыя дагэтуль літаратурныя помнікі, нават тыя ж газеты, кнігі — дуйно страчаныя, якіх ужо не знойдзеш у сховішчах. А сярод сапраўдных залацінак, якія служаць нашай гуманітарнай навуцы, можна назваць унікальныя дакументы з асабістага архіва таго ж Каруся Каганца, гэткую ж унікальную калекцыю літаратурных помнікаў XIX стагоддзя, фонд музея Луцкевіча, многія матэрыялы якога доўгі час былі сакрэтныя, недаступныя шырокай навуковай грамадскасці. У гэтым фондзе ёсць надзвычай рэдкія і таму унікальныя дакументы з асабістых архіваў Цёткі, В. Ластоўскага, А. Смоліча, Я. Лёсіка, братоў Луцкевічаў і многіх іншых дзеячаў культуры. У гэтым фондзе ёсць рэдакцыйны архіў "Нашай Нівы", у тым ліку многае з таго, што прыносілася і дасылалася ў рэдакцыю, але не трапляла на старонкі газеты. Ёсць агульнае справаводства рэдакцыі, што дае магчымасць меркаваць, як вырашаліся фінансавыя, кадравыя, творчыя праблемы выдання. У гэтым жа фондзе ёсць і матэрыялы многіх іншых выданняў і выдавецтваў першай чвэрці XX стагоддзя, і многае іншае, у тым ліку матэрыялы беларускіх палітычных партый і рухаў. Карацей кажучы, для многіх навукоўцаў там знойдзецца цікавая, захапляючая праца.

У шэрагу цікавейшых і каштоўнейшых фондаў не магу не назваць фонды Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова, унікальную архіўную калекцыю нашых эмігранцкіх пісьменнікаў і. навукоўцаў, якая з кожным годам фарміруецца і папаўняецца. Гэта таксама і архівы нашых славутых дзеячаў тэатра Ф. Ждановіча, Б. Платонава, Л. Рахленкі, Л. Ржэцкай, С. Станюты, З. Стомы і многіх іншых, гэта і фонды Я. Цікоцкага, Р. Пуксты, П. Падкавырава, М. Аладава, зусім нядаўна памерлага Я. Глебава.

Урэшце не магу не сказаць пра фонды рэдакцый газет і часопісаў, вядучых нашых устаноў і арганізацый у галіне культуры і мастацтва, з якімі наша ўзаемадзеянасць будуецца на дзяржаўным узроўні, у адпаведнасці з законам аб нацыянальным архіўным фондзе.

**— Хачу вярнуцца да другой часткі назвы вашай установы — музей. Вы ўжо трошкі гаварылі пра гэта, але можа больш падрабязна раскажаце пра матэрыяльныя рэчы і прадметы ў вашых зборах?**

— Ну але, разам з архіўнымі фондамі мы маем і музейныя фонды. Скажам, пры архіўным фондзе нашай слыннай паэткі Канстанцыі Буйло ёсць і невялічкі музейны фонд яе асабістых рэчаў і прадметаў быту. Пры архіўным фондзе сям'і Багдановічаў таксама ёсць даволі ладны збор музейных рэчаў, якія сведчаць пра ўмовы жыцця сям'і паэта, пра іх побыт найперш у Яраслаўлі. Музейныя рэчы ёсць пры многіх фондах. Само сабою, гэта ўсё неаб'ёмныя рэчы: атраманты, друкарскія машынкі, акуляры, паясы, гальштукі, кавенькі і г. д. Да ўсіх такіх прадметаў мы адносімся з вялікай увагай, яны ў нас праходзяць адпаведную навуковую апрацоўку, на кожны з іх складзены адпаведны вопіс. А самыя багатыя прадметныя зборы — гэта бібліятэкі фондаствавальнікаў. Уласная бібліятэка — гэта своеасаблівы помнік творцу, які шмат гаворыць пра яе ўладальніка і збіральніка: пра яго густы, абсягі інтарэсаў, кола сяброў і знаёмых (пра апошняе гавораць кнігі з дарчымі аўтографамі). Бібліятэкі ёсць амаль пры ўсіх архіўных фондах нашых пісьменнікаў, сярод іх кніжных збораў нямала сапраўдных рарытэтаў, унікальных выданняў 20—30-х гадоў. Напрыклад, у нас ёсць літаральна ўсе выданні нестаровічага "Тараса на Парнасе"...

**— Ганна Вячаславаўна, а хто найперш карыстаецца вашымі зборамі? Які галоўны кантынгент вашых, так бы мовіць, кліентаў?**

— Працуюць у нас пераважна навукоўцы — супрацоўнікі Інстытута літаратуры НАН, супрацоўнікі філалагічных, гістарычных, мастацтвазнаўчых факультэтаў нашых ВНУ, аспіранты, дактаранты і, нарэшце, студэнты, якія робяць свае першыя навуковыя спробы. Сёння жыццё наша нялёгкае, ідзе пераацэнка каштоўнасцей, але тым не менш інтарэс да дакументаў не прападае, а ці не павялічваецца. Калі гадоў 5-6 назад у нас працавала прыкладна 50-60 чалавек, дык летась — ажно 90. Тым не менш, настрой у людзей — іншы: шмат ныцця, незадаволенасці і, што самае страшнае, абыякавасці, раўнадушша. Зрэшты, тлумачыцца гэта той жа беднасцю. Мы, архівісты, вельмі адчуваем гэта і па сваіх жабрачых зарплатах, і па тых мізэрных сумах, якія выдзяляюцца нам на набыццё абсталявання і іншыя патрэбы. Аднак жа не скажу, што гэта змяніла нашы адносіны да працы. Нашы супрацоўнікі любяць сваю працу да самазабыцця. Штат наш — 24 чалавекі, пераважна філолагі па адукацыі. Наша работа не можа не захапляць. Застаешся самнасам з дакументамі, а па сутнасці з чалавекам, які пакінуў гэтыя дакументы, унікаеш у ягонае жыццё, творчасць, спазнаеш накірунак ягоных думак, пошукаў, радуешся і засмучаешся разам з ім, ён становіцца табе родным, блізкім, і ён сам, і яго сям'я, сябры і калегі, і — забываешся на сваё ўласнае, зусім невясёлае па сённяшнім часе жыццё. Такое пачуццё зведваеш, калі, скажам, працуеш над арганізацыяй выставы таго ці іншага творцы. А раней мы ладзілі іх вельмі часта — і дома, як кажуць, і на выезд. Апошнія рабілі на аблегчаных стэндах і вазілі ці не па ўсёй рэспубліцы. Шмат выставак рыхтавалі сумесна з музеямі — літаратурнымі, музычнымі, тэатральнымі. Цяпер з-за адсутнасці сродкаў гэтая наша дзейнасць стала сціплейшай, але ж дакументы нашы па-ранейшаму выкарыстоўваюцца музеямі ўсёй краіны, у тым ліку гімназіямі, якія ствараюцца з ініцыятывы тых жа настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ў школах. Апошнім мы дапамагаем з асаблівай ахвотаю (скажам, музею Б. Эпімаха-Шыпілы ў Ветрынскай школе на Віцебшчыне).

*(Працяг на стар. 12)*

## "Пасведчанне аб нараджэнні"

**Пасведчанне аб нараджэнні атрымалі два маладыя паэты дзякуючы рэдакцыі часопіса "Маладосць", якая прадаставіла ім старонкі дванаццатага за мінулы год зборніка сваёй "Бібліятэкі...". Абодва — родам з Ганцаўшчыны. Абодва нарадзіліся**



**ў 1976 годзе. Толькі Толь В. (так падпісвае свае творы Анатоль Трафімчык) — у вёсцы Вялікія Кругавічы, а Віталь Псеўданім (сапраўднае прозвішча Чабатарэнка Віталь) нарадзіўся ў вёсцы Шашкі. Абодва скончылі Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут. Толь В. настаўнічаў у Дзяніскавіцкай сярэдняй школе, цяпер вучыцца ў аспірантуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Віталь Псеўданім працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Малькавіцкай сярэдняй школе, служыў у арміі. Абодва друкаваліся ў "Маладосці" і іншых перыядычных выданнях. Калі быць дакладным, "Пасведчанне аб нараджэнні" — назва кнігі Толя В. А Віталь Псеўданім свае вершы (у тым ліку і прозавершы) аб'яднаў назвай "Цянёты". Прадстаўляе маладых паэтаў іх зямляк лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Віктар Гардзей. Свой артыкул ён назваў "Набістыка — ад воклічу "На біс!" і даў яму падзагаловак "Постмадэрнізм вачыма рэаліста". Як высвятляецца з гэтых разваг, традыцыяналіст па складзе свайго таленту, зразумела, у творах (як паэтычных, так і празаічных), В. Гардзей няблага разбіраецца ва ўсіх найноўшых (праўда, што яны найноўшыя, найчасцей падаецца самім маладым літаратарам, а на самай справе ўсё даўно ўжо было на гэтым грэшным свеце) літаратурных плынях. Але, як трэба здагадацца, чытача найперш цікавіць, што такое — набістыка.**

**В. Гардзей тлумачыць: "У эпісталярнай дэкларацыі мала яшчэ каму вядомыя паэты абвяшчаюць сваё творчае крэда: галоўны крытэрый — пісаць добра, таленавіта, нават пішучы кепска, трэба пастарацца напісаць добра і таленавіта кепска, каб тое, напісанае кепска, нікім не змаглося напісацца яшчэ горш; тэарэтычна афармленне нашага напрамку пачынаецца ўжо з яго назвы (кажам для тых, хто не звярнуў увагі), якая змястоўна адлюстроўвае ўсё, што вы хочаце знайсці ў нашых а-шэдэўрах (і нават тое, чаго вы не хочаце, і нават тое, чаго мы не хочам, і нават тое, чаго яны не хочуць, і нават не тое)". А набістыка і з'явілася ад жадання ўспрымаць свае творы "на біс!" Што ж, жаданне заканамернае і для маладых аўтараў зразумелае. Але больш ухвальна, што згаданыя паэты не толькі нешта дэкларуюць, а і пішуць і гэтае нешта ў лепшых іх творах вартае таго, каб на яго звярнуць увагу. А гэта для іх выйгрышна. У параўнанні, скажам, з тымі ж "бум-бамлітаўцамі", якія чуюць толькі сябе і хочуць, каб іх чулі іншыя. З "іншых" жа іх чуюць хіба тыя, хто хоча толькі засведчыць сваю прыхільнасць да нейкай новай літаратурнай плыні. У прыхільнікаў "набістыкі" — вершы, якія не могуць не кранаць сваёй непасрэднасцю, шчырасцю, а калі аўтары іх і хочуць падаць у чымсьці арыгінальнымі, дык гэта не супярэчыць звычайнаму жаданню звычайнага маладога паэта вылучыцца не толькі з асяродку сваіх сяброў па пяры, а і ўспомніць даўняе: "у рожкі са старымі".**

**Як у сувязі з гэтым не ўспомніць знакамітае лынькоўскае: "Дзярзайце, юнашы!" А, як відаць з першых кніжак, абодва аўтары валодаюць задаткамі таленту. І гэта радуе. І знаходзіш нямала вершаў, што хочацца перачытваць. Ёсць, канечне, і тое, што інакш як сведчаннем "пераходнага ўзросту" і не растлумачыш.**

**Для прыкладу, у Віталя Псеўданіма: "Месяц на небе аладкай Стыне, і зор не відно. Ноч афрыканскім азадкам Лезе ў маё акно. Плішчыцца ў холад шыбаў, Кажа пра новы верш, Нечы раптоўны выйгрыш, Гэты пакой, і найперш, Што нас у пакоі двое — Ты і паэт-набіст, І мы ва ўнісон з габоем Кахання схацелі на біс, Што дзве філіжанкі кавы Застылі ў трагічнай журбе... Прабач, цыяністы калій Я ўсыпаў толькі табе"**

**Юрась ВАЙСЁНАК**




*Паэткі прыйдуць! Калі падуць ланцугі стогадовага рабства жанчыны, калі яна пачне жыць для сябе і сабою, калі мужчына, які дасюль паводзіў сябе ў дачыненні да яе гнюсна, верне ёй свабоду, яна таксама звернецца да паэзіі. Жанчына адкрые яшчэ не вядомы свет!..*

**РЭМБО**

# "О, не баюся я жыцця!.."

НАТУРАЛЬНАСЦЬ узнікнення жаночага эксперыменту на Беларусі ў адрозненне ад заходняга варыянту, дзе жаночая актыўнасць узнялася як антымаскулінны рух, які не мог больш справіцца з сусветным гармідарам, як апазіцыя, якая прынцыпова падкрэслівае полавыя разыходжанні, тлумачыцца спазненнем развіцця нашага нацыянальнага руху, ягонай аморфнасцю і слабасцю. Менавіта таму полавыя антаганізмы адышлі ў нябыт ці на другі план, бо недахоп у людзях і жорсткія ўмовы існавання нароўні з іншымі нацыянальнымі рухамі (яўрэйскі, польскі, рускі ці літоўскі) прымусілі тагачасную беларускую інтэлігенцыю аб'яднацца і быць скансалідаванай хаця б у гендэрным пытанні. Больш таго, можна смела сцвярджаць, што на пачатку 20-га стагоддзя беларуская інтэлігенцыя бадай што адзіная здолела безбалючна абысці праблему мужчынскай "вышэйшасці" і жаночай "ніжэйшасці". Праўда, зараз на Беларусі з'яўляюцца асобы, якія прынцыпова падзяляюць літаратуру па полавым крытэрыі. Напрыклад, Адам Глобус, Славамір Адамовіч, ад якіх даведваешся, што "мужчынская літаратура — больш дасканалая". Хіба ж, паўтараючы векавую аднабаковасць, можна прэтэндаваць на арыгінальнасць? А таму беларускі жаночы рух і асабліва жаночая паэзія эксперыментуюць у досыць памяркоўным рэчышчы. Жаночая паэзія выглядае стрыманай, што тычыцца антаганізмаў полаў і відавочна рэвалюцыйнай у нацыянальным пытанні.

Эксперыментаваць — гэта значыць шукаць новае, невядомае, дасканалае. Каб пачаць эксперымент у літаратуры, трэба мець грунтоўныя веды ў класіцы, мець салідныя напрацоўкі. Жаночая паэзія не мае моцных гістарычных зачэпак, спадчыну ў тысячы тамоў кніг, як мужчынская. А той факт, што выбітных паэтак у гісторыі няшмат, тлумачыцца вельмі проста — татальным дамінаваннем мужчын і заўсёдным удзеўбаннем жанчынам аб іх грэшнасці, "недаробленасці", недасканаласці і, нарэшце, нечалавекападобнасці. Затое яны маюць мора пачуццяў, уражанняў, на працягу вякоў жанчыны бачылі і маўчалі, адчувалі і маўчалі, пакутавалі і зноў маўчалі. Ці не таму:

***...А думкі і настроі — як сычы.***
***І ўсё, што пераЖыта ў Нашай Эры,***
***Мне ані ў чым не можа памагчы.***

*(Галіна Каржанеўская)*

Жанчыны прадэманстравалі падрыхтаванасць, адаптаванасць да сучасных праблем (цягавітасць, працягласць жыцця на дзесяцігоддзе большае за мужчынскую), тады як мужчыны трапілі ў сапраўдны маскулінны палон (дыскрэдытаванне вайны, разбурэнне міфу аб заўсёднай іхнай магутнасці, што выдатна ілюструецца ў часы эканамічных крызісаў). Такім чынам, на працягу ўсяе гісторыі, уключаючы 19-ае стагоддзе, у жанчын не было часу на эксперымент, бо самі з'яўляліся аб'ектам мужчынскіх эксперыментаў.

Сапраўды, творчы эксперымент змог ажыццявіцца толькі ў 20-ым стагоддзі, калі тэндэнцыя паслаблення імперскасці, у Еўропе галоўным чынам, суправаджалася ўзмацненнем нацыянальна-вызваленчых рухаў. Толькі тады сталася магчымым ганарыцца беларускім паходжаннем. Тады і ўзнікла вера ў слова, што "цемру праніжа наскрозь":

***...Веру, братцы: людзьмі станем,***
***Хутка скончым мы свой сон,***
***На свет божы шырэй глянем,***
***Век напіша нам закон...***

*(Цётка)*

Прароцтва Рэмбо спраўдзілася: Яна прыйшла і выказала такі боль, які дагэтуль не адчуваўся. Верш Цёткі "Вясковым кабетам" — не проста наш першы феміністычны твор, сквіл супроць мужчынскага ігнаравання праблемы, хай сабе і выбітных нацыянальна свядомых беларусаў.

Аднак тым большы іх грэх, бо сапраўдны чалавек — той, хто разумее ўсе "скаргі з губ збялелых", робіць усё дзеля таго, каб "срэбра ў косах густых" было менш. Дзякуючы Алаізе Пашкевіч, пачатак эксперымента стаўся бадзёрым, дынамічным. Яна не замкнулася на жаночым пытанні і, на дзіва ўсім, абышла любоўную тэматыку, таму што эксперымент са словам, з нацыянальным абуджэннем патрабаваў ахвяры. Безумоўна, выбіраючы між альтанкай з кветкамі, чуллівымі позіркамі і дрыжыкамі пасля атрымання любоўнай цыдулкі, з аднаго боку, і цёмна-фіялетавымі лабірынтамі ўласнай фантазіі — з іншага, яна спынілася на апошнім:

***...Хачу, арлы, ляцець з вамі***
***Над гарамі, над мурамі,***
***Крыллем хмары рассякаці,***
***Смела ў неба заглядаці;***
***Жыць ў аблоках над зямлёю,***
***Скрыдлы раніць ў страшным бою,***
***Кроў з-пад сэрца людзей піці***
***І ўгару к сабе ўзнасіці...***

*(Цётка)*

Не здаецца вам, што зусім не жаночая гэта паэзія? Памылковым будзе казаць, што мае яна маскулінныя рысы. Насамрэч, нашу першую паэзію жанчын можна вызначыць як андрагінную, бо па-майстэрску чаргуе моц і рахманасць, чуллівасць і эмацыянальную сквапнасць. Паслядоўніцы славутай Цёткі таксама вызначаліся андрагіннасцю, бо не зацыкліваліся на жаночых слязах, няшчасным каханні і г.д. Ларыса Геніюш наогул урэзала ўласныя інтарэсы ў імя пошуку шчасця Радзімы:

***Не згінай мяне, я не сагнуся,***
***не баюся ні страхаў, ні зла.***
***Нездарма я з зямлі беларускай***
***Непахіснай сасною ўзрасла...***

Канстанцыя Буйло хаця і стварыла шмат рамантычных, любоўных вершаў, усё ж такі захавала андрагіннасць:

***...О, не баюся я жыцця,***
***не будзе страшна мне ніколі,***
***Я столькі вынесла бяды***
***і зведала так многа болю,***
***Што не баюся я цяпер***
***глядзець і смерці ў злыя вочы...***

Шчодрасць і звядзенне ўласнага да агульнанацыянальнага, усебеларускага — прыкметная рыса тых паэтак:

***Мне б твае праменні, зорка, мець,***
***Я б не так іх скупа рассявала.***
***Запаліла б іх ва ўсю я моц***
***І распырскала б у ноч шырока...***
***...Над зямлёй Радзімы яснавокай...***

*(К. Буйло)*

На вёсцы жаночая актыўнасць была абмежавана печчу і парогам, але вайна запатрабавала рук на заводах на месцы мужчын, тады і адбылася канчатковая легітымізацыя раўнапраўя на савецкі капыл. Прыкладна ў гэтыя гады Ларыса Геніюш піша свой моцны верш "Беларуска", дзе кроў, боль успрымаюцца аднолькава ўсімі поламі, а фізічная прыродная моц мужчын не грае ніякай ролі перад смяротнай зброяй:

***...Бо гэтак, як стрэльбы***
***і кулі як звонкай,***
***як сіняе сталі мяча,***
***заўсёды патрэбна для нашай старонкі***
***адважных хлапцоў і дзяўчат.***

Новая генерацыя паэтак, якія нарадзіліся і выраслі пасля вайны, характарызуецца вяртаннем да традыцыйнага, што тычыцца полавай дыферэнцыяцыі, ад якой адышлі паэткі-пасіянарыі. Сучасныя паэткі — дынамічныя і жаноцкія аднachасова, але ж іх смеласць тлумачыцца навукова-тэхнічным прагрэсам, а не духам першаадкрывальніцтва. Раіса Баравікова, Яўгенія Янішчыц, Галіна Булыка — сапраўдныя, класічныя жанчыны. Выкарыстоўваючы тэрмін сп. Баравіковай — "гетэры", але ж не тыя паслухмяныя, угодлівыя і пасіўныя, якіх мы сустракаем у старажытным Рыме, сярэдневяковай Еўропе, не. Яны больш не згодныя хавацца за мужчыну — прыгожага і стэрыльнага аднachасова:

***...Не, я цяпла не папрашу,***
***мяне ад сцюж затуліць хата,***
***мець стала модна мецэната,***
***мне б — толькі родную душу...***
***...Ён прада мной — як за спіной,***
***а лепш — за небакраем,***
***куды ўзмужнелы голас мой***
***па песні выбягае...***

*(Р. Баравікова)*

Галіна Булыка — своеасаблівая асоба. Як адзначыў Рыгор Барадулін: "Яна прымірыла фізікаў і лірыкаў". Будучы хімікам, яна напісала 2 зборнікі цудоўных вершаў. Адразу адзначым, што яна трымаецца досыць непапулярнай сярод феміністаў пазіцыі ў пытанні спаронаў. Галіна не прызнае толькі за жанчынай права выбару на захаванне дзіцяці, бо мужчына таксама мае права вырашаць. Чытаючы яе верш "Ненароджаны", трапляеш у жахлівы і фантасмагарычны свет і поўнасцю згаджаешся з тым, што: "Агнём аплывае святы мацярык". У гістарычна-нацыянальным кантэксце, здаецца, Булыка працягвае лінію Алаізы Пашкевіч. Для прыкладу хапае аднаго яе верша "Балты". Яўгенія Янішчыц — заўсёды маладая, струменістая. Ясельда беларускай паэзіі — любіла не толькі мужчын, абяцала не толькі ім:

***Абяцаю снежань па вясне,***
***Абяцаю верасень зімою.***
***Абяцаю: у самым лепшым сне***
***Мы яшчэ сустрэнемся з табою...***

Можа, яе любоў да Радзімы была куды значней за кароткачасовае каханне да прадстаўнікоў супрацьлеглага полу. Для іх яна засталася марай, "лепшым сном", тады як яе ўвага была скіраваная на бацькаўшчыну. Навошта жыццё, каханне, калі:

***Ёсць міг такі,***
***Калі не страх памерці,***
***А страх —***
***Цябе сабой не засланіць.***

Нарэшце, зусім маладыя беларускія паэткі кідаюць выклік чалавечай залежнасці ад рэчаў, матэрыяльнасці, бляску тканін і футраў, у якіх тонуць чуллівасць і гуманнасць:

***...Ім зіма — гэта толькі каштоўнае***
***цёплае футра...***
***Лета ім — чаргаванне адбіткаў на***
***шкле акуляраў...***

*(Лера Сом)*

Альбо адказ Р. Баравіковай:

***Сяброўкі абсталёўваюць кватэры,***
***я п'ю ў лясах на досвітку расу***
***і незалежна, з выглядам гетэры,***
***чыёсьці сэрца ў кошыку нясу.***

Усё яшчэ без адказу застаецца вельмі распаўсюджаная тэндэнцыя апошняга часу — біялагізацыя паэзіі, як і сацыяльна-палітычнага жыцця, прыроднае тлумачэнне рознасці поглядаў, інтарэсаў. Можа, гэта таму, што мы жывём у мірны час, калі няма пагрозы звонку і людзі звыкліся са стабільнасцю, якая катастрафічна зменшыла колькасць пасіянарыяў. А можа, таму, што мы ніколі не мелі магчымасці быць "сапраўднымі" мужчынамі і жанчынамі, бо войны, ідэалагічны ціск не дазволілі быць самім сабою. Таму дыяметральна розныя працэсы адбываюцца на Захадзе і ў нас — адмаўленне ад біялагізацыі грамадскага жыцця, тэндэнцыя падабенства — у іх і прынцыповая факусіроўка на полавых асаблівасцях — у нас. Яскрава вышэйпералічаныя сучасныя паэткі даказваюць гэту тэндэнцыю. У доказ спынімся на зборніку "Каханне" Р. Баравіковай. Няма ў ім альтанак з кветкамі, якія выраслі ад слёз пакінутай жанчыны, няма ў ім стэрэатыпнай сентыментальнасці і надзвычайнай чуллівасці, якія звыкліся бачыць у жаночай паэзіі. Тым не менш, жаночы след высвятляецца:

***...Ну і пагляд — курам на смех!***
***Адкуль такая падазронасць?***
***Хіба я белая варона?***
***— Жанчына я. І ў гэтым — грэх!***

Выдуманая, навязаная грэшнасць з цемры вякоў праследуе нашых жанчын, а мужчыны, калісьці нацкаваўшы гэтага сабаку, — ужо і забыліся на гэта. Тым часам, як на ўсходзе жанчына і каня спыніць на лёце, і ў лазню вогненную зойдзе, а на Захадзе супроць гвалту, насілля кожная жанчына мае адваката і стос законаў, абараняючых іх правы, беларуска чакае, маўчыць, і паўстае толькі тады, калі цягавітасць выходзіць уся (быкаўская Сцепаніда, мележаўская Ганна і іншыя). Маці Баравіковай з верша "Птушачка" — тая ж самая:

***...ды знаў бы хто, —***
***жыццё прайшло ў палёце,***
***хоць і было ў ім — печка ды парог.***

У наступным вершы "Кулёма" паэтка паўстае супроць кансерватызму вёскі, прымхлівасці беларусаў. Здаецца, вера ў забабоны засталася непахіснай з часоў Цёткі. Дваістасць паэткі найбольш яскрава назіраецца ў вершы "Жанчыны". Не зважаючы на ўпэўненасць, моц, доўгі шлях, які адолела сп. Баравікова, каб даканаць міф аб прадвызначанасці лёсу беларускай жанчыны, яна згаджаецца:

***...мы сёстры аднае цяпер дзяржавы,***
***пад назваю даўно не новай "рэўнасць".***
***Б'е ў вочы фар насмешлівых святло,***
***спрабую быць і мудраю, і добрай,***
***а ўслед, напэўна,***
***выгукнула б: "Кобра!",***
***каб у самое джала не было.***

Напэўна, цяжка быць жанчынай у краіне,

дзе нават мужчынам не лёгка?! А, можа, гэта зноў перабольшванне, памылковы погляд? У арміі, на прадпрыемствах, у сям'і дастаецца больш мужчынам, спадзяюцца больш на іх. Праўда, ад гэтага жанчынам не вальней. Трэба звярнуць увагу на заклік Наталлі Арсенневай і, сапраўды, ужо "до сварак і гаргатні". Ці не час адкінуць прымхі вакол полу і пачаць жыць па-сапраўднаму? Тады больш часу будзе на ўласнае жыццё, на эксперымент, нарэшце. Хаця зноў жа, беларуская жаночая паэзія дэманструе надзвычайны ўздым у тыя перыяды, калі асабліва цяжка і невыносна, калі няма ніякай прыкметы сацыяльнай стабільнасці. Як бачым, паэзіі не ўласцівыя законы, а таму складана прыйсці да пэўнае высновы, тым больш калі размова ідзе пра даволі маладую, дынамічную, неўтаймаваную жаночую паэзію. Бо нашы жанчыны не сказалі яшчэ апошняга слова, не кінулі эксперыментаваць дзеля быццам бы "галоўнага прызначэння" — родаў. Хаця сп. Глобус "выдатна ведае мясцовых мужчын", на жаль, ён зусім сляпы ў прагнозах гендэрнага развіцця нацыі. Мабыць, ён апошні з магікан, апошні з аднабаковых мужчын, якіх, на вялікі жаль, хапае ў беларускай літаратуры.

Тым не менш, літаратурныя вынаходкі яшчэ не вычарпаныя, і назапашванне ў скарбніцах як мужчынскай, так і жаночай паэзіі далёка ад заключнай стадыі. Загадзіцеся, што даволі складана рабіць высновы, калі працэс ідзе, пастаянныя змяненні, дынаміка замінаюць аналізаваць і структураваць тую ці іншую ягоную стадыю. Але нават не ведаючы прагнозаў на будучыню, можна смела сцвярджаць, што жанчына — больш схільная да постмадэрных пераўтварэнняў, больш стойкая перад усімі сучаснымі трансфармацыямі. Адзначым, што не толькі больш схільная, але ж адначасова з'яўляецца стваральніцай умоў для замацавання постмадэрнізму на Беларусі. (Рэч у тым, што гэтак званая фемінізацыя, здабыўшы ў 60-ыя гады моц і абгрунтаваную папулярнасць, цяпер прапануе вырашыць не толькі "жаночыя праблемы", але і мужчынскія супярэчнасці. Рэканструкцыя жаночай тоеснасці паралельна перагледае, легітымізуе паслабленне мужчынскага суперстатуса, суперабавязкаў і суперкампетэнцый, а гэта значыць, імкнецца ўсталяваць эгалітарныя прынцыпы ў краіне.) Пры гэтым не пакінем па-за ўвагай вялікую ролю некаторых беларускіх выданняў, якія мэтаю свайго існавання лічаць мадэрнізацыю і еўрапеізацыю Беларусі — "Наша Ніва", "Спадчына" і шэраг іншых. Аднак яны выбралі аднабаковую мадэрнізацыю — моўную, гістарычную, але толькі не эканамічную, палітычную і сацыяльную. Ігнаруючы гэтак званае жаночае пытанне, яны пакрысе згубілі свой ідэал — Сярэднюю Еўропу, бо вядома, што яна — пераважна мужчынскае парадкэнне, якое сёння існуе ў галовах пісьменнікаў, філосафаў, геапалітыкаў-мужчын. Здаецца, што яны не зразумелі сутнасці постмадэрнізму, не апусціліся на яго глыбіню, бо для Заходняй Еўропы — гэта, у першую чаргу, разбурэнне міфаў, стэрэатыпаў, якія кіравалі нашым жыццём у дамадэрныя стагоддзі. Мадэрнізацыя — не адмаўленне ад мінуўшчыны, а просты перагляд фактаў, так бы мовіць, ураўнаванне поглядаў (акадэмічнага і новага, правінцыяльнага, калі размова ідзе аб лінгвістычнай дэміфізацыі ў беларускай мове). Дык вось, гендэрныя стэрэатыпы ляжаць па-за ўвагай нашай "прасунутай" інтэлігенцыі, і яны застаюцца моцнымі, дзейнымі, як сярод вясковцаў, так і гараджанаў. Нацыянальныя рухі Расійскай імперыі пачатку стагоддзя разбурылі старыя імперскія стэрэатыпы, а пасля стварылі новыя, ад якіх цяжка пазбавіцца сёння. Менавіта ў гэты прамежак часу зараджаецца постмадэрнасць, раўнапраўе (з'яўляюцца і сыходзяць галоўныя жаночыя постаці сярэдняеўрапейскай мадэрнасці — Марыя Канапніцкая, Цётка, Эліза Ажэшка). На жаль, камуністычнае прыйсце замарозіла сярэдняеўрапейскую мадэрнасць і беларускую ў прыватнасці. Не зважаючы на выкарачэнне ідэі Сярэдняй Еўропы камуністычнай уладай, цяга і жаданне быць прычыненым да сучаснага захаваліся ў пэўных колах — тых, хто сачыў за бегам часу, але ж жыў і трапляў у ГУЛАГ. Калі ў матэрыяльным плане савецкім людзям так і не давялося адчуць сябе развітымі, мадэрнымі, дык у духоўным нацыянальным эліты пабудавалі сучасныя літаратуру, мастацтва, філасофію. Застаючыся штодня аб'ектам камуністычнага эксперыменту, эстонскія, беларускія ці армянскія інтэлігенты працягвалі ўласны эксперымент са словам, формай. Ці не ў гэтым моц Чалавека? Хто, як не яна, ведае кошт чалавечай годнасці, каму, як не ёй, верыць:

***...Грyганы ўжо не над намі крачуць,***
***нашы слёзы адплылі ў вякі,***
***мужныя не жаліцца, не плачуць,***
***мужныя сціскаюць кулакі.***

*("Кроў збяжыць рабінамі на вусны")*

**Уладзіслаў ІВАНОЎ**

ЧАСОПІСЫ

# "Маленькі чалавек" на віхурных скрыжаваннях

Назва больш чым сціплая — "Из дневников", ды і не самім аўтарам дадзеная. У дадатак, аўтар запісаў Іосіф Голубеў, як быццам, нейкіх асаблівых адкрыццяў і не робіць. Нават занатоўваючы асобныя выпадкі з пражытага, сумняваўся, ці не займаецца марнай справай: "Я теперь стал задумываться над тем, для чего все это пишу, кому это нужно, что я тогда-то голодал и тогда-то был комиссаром, тогда-то председателем и так далее, и тогда-то был рабом капитализма и своей страсти". Праўда, адначасова нібыта і апраўдваўся "И все это я записываю разве только для того, чтобы знали, что я был сам маленький человечек с самым маленьким мировоззрением. И меня это смущает, но я не могу себя остановить, чтолибо не записывать. Я в этом нахожу некоторое успокоение и как будто что-то я сделал или, может, потому, что мне не с кем поговорить по душе и излить свою печаль".

Чаму ж у такім разе тры нумары часопіса "Нёман" за мінулы год — дзевяты, дзесяты, адзінаццаты, у якіх гэтыя матэрыялы апублікаваны, не хочацца адкладваць убок? Чаму чытаеш запісы І. Голубева, як цікавую кнігу? А таму, што гэта і сапраўды — КНІГА. Кніга аднаго жыцця, жыцця таго ж "маленькага чалавека", які воляй абставін (а абставіны гэтыя ўзніклі ў выніку найвялікшых сацыяльных зрухаў у жыцці грамадства) апынуўся ў эпіцэнтры важных падзей. Падзей, да якіх не заўсёды быў гатовы і не заўсёды ўсведамляў іх значнасць і супярэчлівасць. Аднак адступаць не было як і не было куды. "Маленькага чалавечка" падхапілі хвалі новага жыцця. На грэбні іх ён узняўся даволі высока. Але, каб утрымацца на плыву, трэба было ўмела "грабсці", чаго ён рабіць часам не ўмеў. І прыходзілі расчараванні, і з'ялялася няўпэўненасць, і хацелася з кім-небудзь "поговорить по душе и излить свою печаль", ды — не было з кім. Страшна, калі сярод сваіх ты — чужы. А ён быў часта чужым. З-за сваёй сумленнасці, прынцыповасці, шмат яшчэ з-за чаго, што нярэдка і словамі перадаць немагчыма. А таму і заставаўся непрыкаянцам, чалавекам у сабе. І — зноў перажываў па прычыне гэтай адзіноты: "Как стыдно смотреть на то, как названные коммунисты один другого съедают. И вот, смотря на эту процедуру, становится слишком тяжело".

Камуністам ён быў з 1 жніўня 1917 года да 17 жніўня 1921-га. З партыі выйшаў добраахвотна. Прычына выхаду у многім бачыцца з гэтага запісу, зробленага 31 ліпеня таго ж 1921-га: "Довольно переносить несправедливости, да еще от молокососов, коммунистов, которые никаких жертв не понесли, а брехать языком — это очень легко. Пусть себе работают во славу свою, я мешать им не буду. К чему старые большевики стремились, того не достигли, а получилось что-то иное, что не соответствует нашей программе. Это очень печально. Вот и получилось разочарование старых коммунистов-большевиков. А с рабочими совершенно становится говорить невозможно, да и неудивительно. 4 месяца не дают пайка, жалованье 2500 в месяц, на 1 фунт хлеба. Вот тут и живи как хочешь, а поэтому рабочие и слова не дают сказать в защиту настоящего положения, ничему не верят. Очень грустно".

Аднак гэты запіс, на многае адказваючы, у сваю чаргу, ставіць і новыя пытанні. Прынамсі, адно з іх асабліва відавочнае. Як жа сталася, што гэты "маленькі чалавечак" так хутка паддаўся абяцанням аб шчаслівым жыцці, каб пасля абяцаць такое жыццё іншым? Ды якраз жа абяцаць ён і не ўмеў. Правільней, не хацеў, бачачы, што жаданае разыходзіцца з рэальным. Адсюль і яго пастаянны канфлікт і з асяроддзем, у якое трапіў, і з сістэмай, якой мусіў служыць. І няхай да рэзка адкрытага супраціўлення гэта не даходзіла, сутнасць ад таго не нашмат мяняецца. Калі нелады ў душы — не менш страшна. А што напачатку паверыў, дык — верылі многія. І Голубеў тут — не выключэнне.

Сама па сабе біяграфія яго так і просіцца ў мастацкі твор (асноўныя вехі жыццяпісу І. Голубева згадвае ва ўступе да публікацыі Алесь Пашкевіч). Нарадзіўся 4 красавіка 1873 года ў сяле Кулебакі Ніжагарадскай губерні. Вайсковую службу праходзіў у Брэст-Літоўску. Ажаніўся і ў 1900 годзе прыехаў у Мінск, працаваў столярам у чыгуначным дэпо. Пазней узначальваў першы атрад чырвонаармейцаў-чыгуначнікаў, які ў 1917 годзе ахоўваў участак дарогі Барanavічы — Орша, быў начальнікам аднаго з аддзелаў ЧК. А яшчэ пазней, у 1932 годзе, адным з першых атрымаў ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Памёр у 1962 годзе. Імем Голубева названа адна з вуліц у мікраёне Паўднёвы Захад у стольным Мінску.

Дзённікавыя ж запісы, прапанаваныя чытачу, ахопліваюць куды меншы прамежак часу. Першы з іх пазначаны І студзеня 1916 года, апошні — 14 студзеня 1923-га. Але І. Голубеву, як відаць з таго ж запісу ад 1 студзеня 1916 года, даваraў свае думкі паперы даўно: "Вот уже продолжаю записывать кое-что 16 год, начиная с 1900 года по 1916-й". Але ўнук Іосіфа Пятровіча, кандыдат тэхнічных навук Аляксандр Клышка, дзякуючы якому і з'явілася гэтая нёманская публікацыя, выбраў для друку старонкі, якія ўяўляюць, несумненна, найбольшую цікавасць, з якіх відаць, як адбывалася станаўленне І. Голубева. Чалавекам ён быў, як бачна, не без таленту: "Веду свой скромный дневничок, хотя я темный мужичок, но свои мысли излагаю, что по-своему я знаю, житье-бытье я понимаю, иногда в рифму ударяю..."

І гэтае "темный мужичок", і "маленький человечек" — лішняе пацвярджэнне, што І. Голубеў належаў да тых, хто і за словам у кішэню не лезе, і цану сабе ведае. А таму і можа гэтак паблажліва пакпіць з самога сябе: "тёмный мужичок", "маленький человечек". На самай жа справе з пачатку жыццёвага шляху меў выразныя маральныя арыенціры. А яны найперш у тым, што трэба "стараться быть ближе к Богу". Але, кажучы словамі Івана Буніна, прыйшлі "окаянные дни", а па словах Лукаша Калюгі — час, калі "мелюць косці", і зніклі гэтыя арыенціры, і трывалая глеба пайшла з-пад ног. І І. Голубеў, як і іншыя, апынуўся на духоўных ростанях: "Я теперь часта над этим задумываюсь, и мне становится грустно-грустно, что сердце потеряло прежнюю теплоту, искреннюю веру в Бога. Какой-то холод охватил и мою душу от Бога удалил. О как мне хочется приблизиться к Творцу, к создателю и моему Отцу, дабы почувствовать его силу и милость, и теплоту. Поэтому моя жизнь становится невмоготу. Уж слишком стал тернистый путь, так, что негде мне совсем и отдохнуть. О Боже мой, пошли мне утешение и укрепи мой слабый ум".

Усведамленне ілюзорнасці таго, што адбываецца, узмацняецца, калі разумееш, што многае ад яго не залежала. Хочацца герою нешта перайначыць на лепшы лад, ды... "Горькие думы. Тяжело и печально настало теперь время для трудящих и бедных людей. Только тем и живется хорошо и спокойно, кто потерял и сознание, и совесть свою. Да животным акулам, живущим в тылу. Да купцам-живоедам ненасытным в мировую беду. И есть еще крокодилы под эмблемой закона и власти, вот они и пожирают все, что в зубы попадает, и нисколько не стесняясь, что уже допивают людскую кровь". А гэта ўжо і крык душы — душы сумленнай, адкрытай, прагнай да справядлівасці: "Тяжело человеку тому, который видит страдания и горе людей, а помочь он не может страданью людей и облегчить тяжелую их муку..." І ўсведамленне, што нешта трэба рабіць. Гэтае ўсведамленне пакуль, праўда, усяго ў душы, яно толькі гучыць, як канстатацыя безвыходнага становішча — іншых і свайго ўласнага: "Да терпеливо он смотрит на тяжелую жизнь и на голую и полуголодную семью, и на горькую и несносную долю свою. Да работает он без оглядки и поту, все старается своим тяжким трудом заглушить свои горькие думы, как и чем прокормить свою бедную семью да подальше отогнать голодовку, и немножко в квартиру тепла захватить, накормить и приодеть бедных деток своих".

Іосіф Голубеў, канечне ж, як і многія, хацеў лепшага жыцця. І не яго віна, што паддаўся спакуслівым абяцанням. У той час, як яму падавалася, гэта было адно з прымальных выйсцяў — быць разам з тымі, хто, як высвятлілася пасля, толькі прыкрываўся гучнымі лозунгамі. А яшчэ (пра гэта гаварылася вышэй) ён належаў да сумленных людзей, а такім заўсёды цяжка. Цяжэй, бо яны не могуць адмовіцца, калі на іх спадзяюцца іншыя, цяжэй і па абавязку звычайнага сумлення, і таму, што падначальваўся партыйнай дысцыпліне. А ў выніку трапляў у становішча, калі, здавалася, няма аніякага выйсця: "Выходит так, оправдывается предсказание: кого любит народ, то для того человека несчастье".

Старонкі дзённіка І. Голубева — шчырая споведзь сумленнага чалавека. І хоць у яго запісах нямала выпадковага, аднак жа нязменна прысутнічае ў іх рацыянальнае зерне. І паўстае перад намі лёс аднаго з тых, каму давялося жыць у скрушны час, каму трэба было да многага даходзіць самому, ісці па жыцці і праз чужыя памылкі, і праз уласныя сумненні і шуканні. Але гэта ўсё ж не быў акурат яго шлях. З уласным стаўленнем да падзей. Са сваёй ацэнкай іх. Апошняе вельмі важна. Асабліва калі глядзець з рэалій сённяшняга дня. Сёння мы ўсё яшчэ пераасэнсоўваем тое мінулае, якое ўвайшло ў гісторыю пад назваю савецкага. Але адна справа, калі гэта робяць людзі, так сказаць, староння, і зусім іншая, калі ацэнка даецца непасрэдным удзельнікам падзей, прытым з тых, хто ўсё ж не быў пакрыўджаны лёсам. Такія сведчанні вельмі важныя, яны набываюць важкую гістарычную каштоўнасць.

І, думаецца, няма патрэбы шукаць у запісах І. Голубева тое, чаго ў іх проста не магло быць. Гэта я адносна правамернасці заўвагі аўтара прадмовы: "К сожалению, "не замеченными"... оказались судьбоносные события белорусского национального движения в Минске... Первый всебелорусский съезд и его разгон большевиками, санкционированный Карлом Ландером (одним из "героев" дневника), бегство из Минска самого Ландера и всего Реввоенсовета Западной области и фронта перед вступлением в город немецких войск, а антибольшевистское выступление рабочих минского депо, а также провозглашение Белорусской Народной Республики". Што ж, мо і шкада, што пра ўсё гэта нічога не сказана ў запісах. Але ж Іосіф Голубеў пісаў пра тое, пра што лічыў неабходным пісаць. І не трэба "патрабаваць" ад яго таго, да чаго ёсць цікавасць сёння.

Перад намі — "маленькі чалавек" на віхурных скрыжаваннях часу. Перад намі Чалавек, які, насуперак усяму, застаўся самім сабой, а, значыць, у многім і абагнаў свой час. І ў гэтым найперш каштоўнасць дзённікаў Іосіфа Голубева.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# "Беларуская думка", N 2

"Чым жыве беларускі тэатр?" — гэтае пытанне задае назвай свайго артыкула, змешчанага ў другім нумары часопіса "Беларуская думка" Т. Гаробчанка, і запрашае чытача зрабіць вандроўку па тэатральнай афішы апошняга дзесяцігоддзя. Даследчыца прыходзіць да высновы, што "галоўная адметнасць сцэнічнага мастацтва Беларусі апошняга дзесяцігоддзя выяўляецца ў яго жанравай і тэматычнай разнастайнасці, шматмернасці розных стыляў, плыняў, накірункаў. Тэатр пашырае межы традыцыйнага метаду псіхалагічнага рэалізму і плённа засвойвае мадэрнісцкую эстэтыку сучаснага андэграўнда. Ён актыўна выкарыстоўвае сваю сінтэтычную прыроду і вынаходліва запазычвае выразныя сродкі іншых відаў мастацтва — пластыку, харэграфію, пантаміму, цыркавую буфанаду, вакал і нават увасабляе на драматычнай сцэне сучасную оперу". У раздзеле "Літаратура і жыццё" прапануюцца вершы Г. Сакалоўскага і артыкул А. Марціновіча "Салдат вялікай вайны... Генерал вялікай літаратуры...", у якім прасочваецца жыццёвы і творчы шлях народнага пісьменніка Беларусі І. Навуменкі. Як ідзе працэс абнаўлення беларускай журналістыкі, пра новае ў рэспубліканскім і мясцовым друку разважаюць Б. Стральцоў ("Комплексны вобраз выдання") і В. Дубовік ("Беражыце думкі ў чысціні"). "Чароўнае свята гравюраў Скарыны" — назва артыкула У. Паўловіча. "Вёска памаладзела" — развагі А. Махнача аб жыцці сельскіх працаўнікоў Уздзеншчыны. В. Анціпенка ("Прызванне — не званне: талент неабходны") гутарыць з намеснікам начальніка Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, а да ўсяго паэтам-песеннікам І. Басецкім. У. Глушакоў прапануе публіцыстычныя нататкі "Ёсць такая прафесія — абараняць Айчыну". А адкрывае нумар інтэрв'ю першага намесніка міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь С. Мартынава галоўнаму рэдактару "БД" У. Вялічку "Архітэктура еўрапейскай бяспекі ствараецца ўмелымі рукамі дойлідаў".

## “Мяне вецер шукае”

**Эпіграфам да сваёй першай кнігі “Мяне вецер шукае”, якая выйшла ў “Беларускім кнігазборы”, Валеры Скакун паставіў уласныя радкі:**

*Мне здаецца:*
*я — там,*
*дзе быў учора.*
*А дзе зараз я —*
*тут мяне няма...*

**Адно несумненна — ён у краіне паэзіі, хоць уваходзіць у яе няспешна, магчыма, нават у нечым марудна. Чалавек даволі сталага веку, В. Скакун належыць да тых, хто болей піша для сябе. Толькі ў 1995 і 1996 гадах выступіў з нізкамі вершаў у часопісе “Першацвет”. Ды і па сваім асноўным**



**занятку ён, як быццам далёкі ад літаратуры. Як сказана ў выдавецкай анатацыі, “усяго толькі рабочы з сярэдняй адукацыяй”. Ды паэзія такая рэч, што адукацыя ў дачыненні да яе не з'яўляецца чымсьці вызначальным. У інстытутах і універсітэтах пісаць вершы яшчэ ніхто не навучыў, хоць, як вядома, і сёй-той з беларускіх паэтаў скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. А тое, што атрымалі яны ў яго сценах, можна набыць і настойлівай самаадукацыяй, калі не сядзець склаўшы рукі, а звяртацца і да гісторыі прыгожага пісьменства, і да ўсяго таго, што дапамагае стаць чалавекам эрудзіраваным, культурным. Але гаворка не пра тое, каб усумніцца ў неабходнасці мець належную адукацыю. Размова пра тое, што адсутнасць яе не перашкаджае В. Скакуну ў лепшых вершах выяўляць сваю творчую індывідуальнасць. Яму ўдаецца ствараць запамінальныя, а галоўнае арыгінальныя паэтычныя малюнкі. Хоць бы гэты, у якім паэту ўдалося па-свойму перадаць той момант у прыродзе, калі яна знаходзіцца ў стане буйства:**

*Неба*
*арлом кружляе.*
*Мяцеліцца вецер,*
*бы снег.*

**У лірычнага героя В. Скакуна свая філасофія. Гэта філасофія чалавека, які разумее ўласнае месца ў жыцці, але не імкнецца да чагосьці немагчымага. Канстатуючы існасць менавіта гэтай, а не іншай сваёй прысутнасці ў свеце, ён па-свойму ставіцца да таго, што было, што ёсць і што будзе: “Няма акрэсленай мяжы між тым, што ёсць, і тым, што будзе. Былое мірсціцца ў імжы, а прышлае — шалее ў блудзе. Не гаспадар я і не госць — такая выпала мне доля... Між тым, што будзе, і што ёсць — я просты сведка. І не болей”. Удаюцца В. Скакуну вершы, у якіх лірычны герой знаходзіцца сам-насам са сваімі пачуццямі:**

*На тваіх далонях*
*затрымаўся вецер,*
*зблытаў мае пальцы*
*ў барадзе сваёй,*
*і застаўся з намі,*
*нібы нехта трэці,*
*і ніяк не хоча*
*нас пакінуць ён.*

*Вусны пацалункам*
*быццам і не рады,*
*сэрцы схаладзелі —*
*вецер студзіць іх...*
*Шаптуны, шаптухі*
*нам даюць парады,*
*ды між намі вецер —*
*ён мудрэй за ўсіх.*

**Тым больш шкада, што побач з такімі шчырымі радкамі можна сустрэць і агульныя: “Бывай... Пакінуўшы мяне, не страціш ты нічога. Як жыць нам у маны ярме — каханне судзіць строга і не дарує яно нам таго, што мы, чужыя, дзялілі шчасце папалам, імгненні дарагія”.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

ПАЭЗІЯ

Ганна ПАНАМАРЭНКА



## “Дзеля святой цішыні...”

●

*Не трэба ганьбіць боскі падарунак*
*І мудраваць над стратамі жыцця.*
*Боль — гэта шлях, і, выбраўшы кірунак,*
*Ты мусіш шлях трымаць да небыцця.*

*Але, глядзі, — мо дрэўца пры дарозе,*
*Ручай халодны, буякоў дурман*
*І ёсць той самы светлы боскі позірк,*
*Які пасланы для гаення ран.*

●

*Мы нараджаемся ад болю.*
*Мы паміраем ад святла.*
*Нам выбірае нехта долю,*
*Сусвет і меса ля стала.*

*Нам нехта кроіць шлях і веру,*
*Сяброў, радзіму, нават кроў.*
*Я ж, апантаная, не веру,*
*Што можна выкраіць любоў.*

*Мы нараджаемся ад смагі.*
*Мы паміраем ад хлусні.*
*Жывём для наталення прагі.*
*Пазнання, страсці і вайны.*

*Нас нехта торгае за паскі*
*І мы сыходзім у нябыт,*
*Дзе кожны з нас вачамі цацкі*
*Глядзіць у сонечны блакіт.*

*Хто ж нараджаецца для цуда,*
*Той паміраe на крыжы...*
*Навошта быў патрэбен Юда?*
*Дзеля пракрэслення мяжы.*

### Невыразнае

*Ледзь адчуваю таленту біццё,*
*Пад сэрцам не бруіць*
*крыніца свята,*
*І ападаюць словы ў небыццё,*
*Нібы лістота тапалёвых шатаў.*

*Да паднябення бы прымёрз язык,*
*І нізкі думак блытаюцца цьмяна,*
*І верш — бы гук адзін,*
*бы цяжкі крык,*
*І вуснаў злом — агаленая рана.*

*Тэатр ценяў — таямнічых сіл,*
*Якія срэбрам вэзгаюць па скронях.*
*О, невыразнае, — нябёсаў сіні пыл,*
*Суквецці зор у стомленых далонях.*

*І тое, што баліць, — ды не ў душы,*
*І тое, што хвалюе, — ды не ў сэрцы.*
*Яно хваробай носіцца ў крыві*
*І не дае заснуць або памерці.*

●

*Муза мая,*
*ты адкрый мае вочы*
*на скарб бессмяротнай душы,*
*напрыканцы вялікоднае ночы —*
*смерці й жыцця на мяжы.*

*Момант быцця той імклівы,*
*няўлоўны —*
*промнем на шклянцы вады.*
*Муза мая, пакладзі на далоні*
*вугаль сардэчнай нуды.*

*Хай ён прапальвае тонкую скуру,*
*марай атручвае кроў.*
*Муза мая, у пакоі панурым,*
*ведаеш, стыне любоў.*

*То не каханне —*
*усплеск пачуццёвы,*
*вузел нястрыманых рук,*
*то безвыходнасці ціхія словы,*
*вечнага, зорнага рух.*
*Муза мая,*
*на мяжы абуджэння*
*любым паглядам зірні*
*не для чаканага*
*ўваскрашэння —*
*дзеля святой цішыні.*

Алесь НІНЬКА



## Патрэсканы келіх

●

*Душа ажывае замглёнай самотай,*
*Няпэўнасцю зраненай поўная,*
*І прагне спасцігнуць няўрымслівы*
*дотык*
*Маўчання няўмольнае поўні.*

*І позірк мой сочыць за прывідным*
*вокам,*
*І прагна пільнуе пустэчу.*
*А думка баіцца сурочыць папрокам*
*Цвярозасць прыдуманых рэчаў.*

●

*Сустрэну ўзыход*
*Цыгарэтнай аскомай.*
*Злых думак клубок —*
*Татальная стома.*

*А сонца праменні*
*Трымцяць над імжою*
*Апошнім маленнем,*
*Аскепкамі мрояў.*

●

*Ты песціла слых*
*мой песнямі,*
*Пяшчота струменіла вуснамі,*
*І ціха, пакуль неакрэслена*
*Усё цела трымцела спакусаю.*

*Лагодай прымроеным*
*вечарам*
*Сустрэча была непазбежнай,*
*Бо разам шукалі мы велічы,*
*Бо разам*
*мы праглі бязмежжа.*

●

*Твой вобраз спавіты*
*Начным туманом,*
*Адценнем блакіту*
*І мройнасцю сноў.*

*Адвечны вандроўнік*
*Між дзікай пустыні,*
*Я ўбачыў твой позірк —*
*Ты цнотай свяціла.*

*І мне падалося —*
*У бяздонных вачах*
*Я ўбачыў нябёсы,*
*Я ўбачыў прасцяг,*

*Што клікаў пяшчотай*
*І водарам траў...*
*І спеў асалоды*
*Гукаў і чакаў.*

●

*Ізноў насцярожана слота*
*Цікуе пад дахам кавярні,*
*Імжой заварожанай. Позірк*
*Чакае світання марна.*

*Душа пазірае з аблокаў*
*Разгубленай зданню.*

●

*Патрэсканы келіх*
*Адвечных маленняў,*
*Напоўнены нечым*
*Старым і забытым,*

*Я крочу між ценяў,*
*А словы малітваў*
*У шэрай пустэчы*
*Канаюць бясследна.*

●

*Патрэбна адно*
*толькі слова,*
*Патрэбен адзін*
*толькі рух —*
*І станеш ты*
*чыстым і новым,*
*І мудрым,*
*як вечнасці дух.*

*Ты будзеш*
*смяяцца і плакаць,*
*І вечную музыку слухаць...*
*Ты ўжо*
*чысціню не заплямиш*
*Ні словам, ні рухам.*

Тамара КРУЧЭНКА



## З лірычнага сшытка

### Табе

*Твае рукі ўзляталі, як крылы,*
*Над шумлівым гасцінным застоллем,*
*І тады для сябе я адкрыла,*
*Што імкнешся ўзняцца над доляй.*
*Як паранены птах беласнежны,*
*Ты спяваў у бярозавым гаі...*
*Ды хіба Украіна замежжа,*
*Калі песні адны нас яднаюць?!*
*Колькі мной*
*і табой пражыта,*
*Расказаць за хвіліну ці можна?*
*Сняцца мне васількі у тым жыце,*
*Што за Сенькаўкай і за таможняй.*

●

*А бывае ў жыцці, як у казцы...*
*Бы з кляновых лісточкаў далоні,*
*Рух тваіх і маіх невыказнасць,*
*І пытанне ў вачах:*
*“А ці помніш?”*
*Юны, той, ты з паднебнае высі*
*Праз віхуры гадоў і падзеяў*
*Мне вясною студэнцкай з'явіўся*
*І натхненне вярнуў, і надзею.*

●

*Павуцінкай бабінага лета*
*Да цябе дакрануся, мой любы, —*
*І да зор узлятаю паэткай.*
*Гэта шчасце ніхто не загубіць.*
*Я імчуся з віхуры вакзала*
*Ў цемень ночы,*
*у квецень вяргіняў,*
*Быццам штосьці яшчэ не сказала,*
*Быццам вось, праз хвіліну, загіну.*

●

*Мы ад вітанняў і песень ахрыплі*
*У той незвычайны чэрвеньскі вечар...*
*Ах, як тужліва плакала скрыпка*
*Ля манумента нашай сустрэчы.*
*Зноў нас развіталі сцежкі-дарожкі,*
*Што толькі ўранку звязалі, як стужкі...*
*“Да пабачэння! — кажу, — найдаражэйшы*
*Брат-славянін,*
*не завяне хай дружба!”*
*Сонца садзілася шарам барвовым*
*За беларускай суседнюю вёскай,*
*Песні чароўныя — нашыя мовы*
*Рэзалі сэрца раздзеленых лёсам.*
*У неба зірну, скаланууся ад жалю —*
*Мкнецца душа твая*
*ў бок украінскі...*
*І, падымаючы пыл, ад'язджае*
*Наша машына у бок майго Мінска.*

●

*Абараніце мяне ад любові,*
*Ад вадаспада нясказаных слоў...*
*Не патурбую Вас болей ніколі,*
*Вольнаму — воля... Мяне аднясло*
*З замка твайго, непрыступны мой княжа,*
*Аж на заснежаны бераг Сажа...*
*І ўжо ніводная мытня не скажа,*
*Як пераходзіцца гэта мяжа.*

## Багаслоўе ў фарбах

**Выстава “Іканапіс і разьба Беларусі XV—XVIII стст.”, якая адкрылася днямі ў Нацыянальным мастацкім музеі, будзе працаваць да канца наступнага месяца. На адкрыцці Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх Усёй Беларусі Філарэт назваў яе “нацыянальным беларускім багаслоўем у фарбах”, акрэсліўшы, такім чынам, сваё разуменне сутнасці беларускіх абразоў.**

**Нарэшце спрэчкі пра беларускую школу іканапісу завяршыліся. Няма сумневу, што на Беларусі на працягу XV—XVIII стагоддзяў усталяваўся адмысловы стыль, яркі, сакавіты, які прачытваецца нягледзячы на магчымыя запазычанні ў суседзяў, моц уздзеяння багаслоўскага аскетызму і неабходнасці прытрымлівацца канонаў.**

**Абнадзейвае вынік работы аддзела старажытнабеларускага мастацтва музея на чале з доктарам мастацтвазнаўства Н. Высоцкай, супрацоўнікі якога на працягу дваццаці год збіралі абразы, выратоўвалі іх з аварыйных памяшканняў, вышуквалі нават у знятых з рэгістрацыі цэрквах. Фонд музея на сённяшні дзень налічвае каля 2000 абразоў, многія з якіх ячшэ і зараз патрабуюць рэстаўрацыі. На жаль, гэта не так ужо многа, калі ўлічыць колькасць існаваўшых на Беларусі цэркваў. Зусім мала захавалася іканастасаў. Па сутнасці музейныя супрацоўнікі адшукалі толькі адзін цэльны іканастас — шэрашаўскі XVIII ст.**

**З’яднанне ў экспазіцыі іканапісу і разьбы па дрэве было натуральным, бо ў ансамблі беларускага іканастасу яны былі заўжды непадзельныя. Абразы XV—XVII стст. размешчаны асобна, каб падкрэсліць яскравую адметнасць абразоў XVIII ст., насычанасць іх фарбаў, дэкаратыўнасць, свецкае гучанне, ачалавечанасць і выразны нацыянальны каларыт. Самы ранні экспанат выставы — скульптурная кампазіцыя “Рафаіл з Товіем” 1740-х гадоў, што ўзыходзіць яшчэ да традыцый готыкі. У іканапісных помніках XVI ст. (“Спас Уседзяржыцель”, “Маці Боская Адзігітрыя Перыўлепта”) ужо досыць відочна прачытваецца ўплыў рэнесансу. Асноўная частка экспанатаў XVII—XVIII стст. адносіцца да барока, які стаў перыядам найбольшых праяваў нацыянальных асаблівасцей іканаграфіі на Беларусі. У гэты час беларускія іканапісцы і разьбяры актыўна працавалі ў Маскве, і гэта нават было адзначана спецыяльным тэрмінам “беларуская скразная разьба”. На выставе прадстаўлены вельмі рэдкі, датаваны 1700 годам, фрагмент разьбы, шэраг царскіх варот, групы абразоў, створаных майстрамі з Юрцава, Зелава, Аброва, Латыгава і г. д., творы Маркіянавіча, Яна, Сілініча, Сазма, інш. Гэтыя творы адрозніваюцца яркімі і індывідуальнымі почыркамі майстроў, іканаграфічнымі навацыямі на стыку ўсходніх і заходнееўрапейскіх традыцый. Некалькі абразоў канца XVIII ст. прадстаўляюць на выставе стылі ракако і класіцызму. Такім чынам выстава здолела ахапіць своеасаблівасць і арыгінальнасць культуры беларускага народа ў значны прамежак часу.**

**“Шмат пытанняў у музея ўзнікала пасля 1991 года, — распавяла загадчык аддзела старажытнабеларускага мастацтва Надзея Высоцкая, — калі актывізавалася царкоўнае жыццё, з’явілася шмат адноўленых храмавых інтэр’ераў. У фондзе музея ёсць іконы і з былых царкоўна-археалагічных музеяў, з царкоўных калекцый, проста знойдзейных “у снезе”. Адну з ікон, напрыклад, якая пасля вайны трапіла ў Кіеў, была прывезена на Беларусь прэзідэнтам Л. Кучмам. І ў пачатку 90-х да нас пацягнуліся святары. Але нам удалося пазбегнуць неабходнасці вяртаць унікальныя помнікі культуры. Усім, хто звяртаўся, мы зрабілі аўтарскія копіі, выкарыстоўваючы сапраўднае ліставое золата. Такая практыка існавала і да рэвалюцыі ў зборах царкоўна-археалагічных музеяў. Але адна ікона ніколі не выратуе інтэр’ер і праз некаторы час мы здолелі гэта давесці царкоўным уладам. Паразуменне даследчыкаў і святароў мела працяг. Так, сёння ўжо адкрыты і асвечаны іканастас, зроблены на навуковай аснове са спісаў XVI ст. у знакамітай Сынкавіцкай царкве”.**

**Выстава ў Нацыянальным мастацкім музеі прадставіла абразы, адрэстаўраваныя ў апошнія гады. На жаль, рэстаўрацыйная справа ў музеі і па рэспубліцы цалкам не адпавядае належнаму ўзроўню. Таму дасюль мы не маем вялікай экспазіцыі старажытнабеларускага мастацтва ў экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея. Але музей час ад часу прадстаўляе выставы іканапісу розных перыядаў, зараз выстава іканапісу Беларусі з вялікім поспехам падарожнічае па Іспаніі. Мяркуецца, што ў будучым павялічаным будынку музея гэтаму раздзелу экспазіцыі будзе адведзена пяць залаў — памяшканне, якое сёння займае ўвесь музей. А пакуль пасля заканчэння выставы яе экспанаты зноў вернуцца ў запаснікі.**

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

МУЗЫКА

# “Званочкі” Валянціны Сярых

***Амаль ніводная творчая вечарына беларускіх паэтаў і кампазітараў ці больш-менш значнае свята музыкі не абыходзяцца без удзелу дзіцячага вакальнага ансамбля “Званочкі”, якім кіруе Валянціна СЯРЫХ.***

Закончыўшы з адзнакай Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі, таленавітая бабруйчанка была накіравана на далейшую вучобу ў Маскву, у Музычна-педагагічны інстытут імя Гнесіных, дзе яна атрымала выдатную падрыхтоўку па класе кампазіцыі ў слынных прафесараў А. Хачатурана і М. Пяйко. Там жа пасляхова скончыла кампазітарскую аспірантуру.

**— Як жа так здарылася, што прафесійны кампазітар, аўтар шэрагу аркестравых і камерна-інструментальных твораў, многіх лірычных песень раптам зрабілася кіраўніцай дзіцячага эстраднага ансамбля (студыі), які вось ужо каля дзесяці гадоў радуе і ўзрушае слухачоў непаўторным вакальным мастацтвам? З чаго ўсё пачалося, што стала штуршком для стварэння гэтага самабытнага нацыянальнага калектыву?**

— Калі я была яшчэ аспіранткай, — прыгадвае Валянціна Сярых, — то жыла ў адным пакоі інстытуцкага інтэрната з маладой піяністкай, нявесткай вядомага латвійскага кампазітара Раймонда Паулса. Яна не раз расказвала мне пра захопленасць свайго знакамітага свёкра ідэяй развіцця эстрадных жанраў у Латвіі і пра створаны ім папулярны дзіцячы ансамбль “Зязюленька”. Гэта выклікала ў мяне цікавасць і адначасова пачуццё зайздрасці. Бо ведала, што ў музычных школах і вучылішчах Беларусі не надаецца дастатковай увагі мастацтву эстрады. Вось тады і ўзнікла думка: а чаму б самой не арганізаваць у Мінску нешта накшталт дзіцячай эстраднай студыі, дзе зусім малыя дзеці і падлеткі вучыліся б спяваць у своеасаблівай эстраднай манеры?

Атрымаўшы аспіранцкі дыплом, не адразу змагла ажыццявіць задуманы творчы эксперымент. Спатрэбіўся час, каб знайсці здольных дзяцей для будучых “Званочкаў” і падрыхтаваць вакальны рэпертуар адпаведнай тэматыкі.

Мне, можна сказаць, пашанцавала ў падборы першага складу ўдзельнікаў ансамбля. Я не шукала іх па музычных школах, дзе вучні ўжо звыкліся з акадэмічнымі традыцыямі ў мастацтве, а звярнулася ў звычайную мінскую агульнаадукацыйную школу N 156, што знаходзіцца насупраць майго дома. (Дарэчы, я і дагэтуль не губляю з ёю творчых сувязей). Дырэктар падтрымаў маю задуму, дапамог наладзіць праслухоўванне вучняў малодшых класаў, з якіх потым адабралі 20 найбольш таленавітых і перспектыўных хлопчыкаў і дзяўчынак для ансамбля-студыі. Напачатку заняткі з дзецьмі былі як бы маім хобі, але вельмі хутка зрабіліся часткай маёй прафесіі, сэнсам усяго творчага жыцця.

**— Вы назвалі лічбу “20”. А чаму ў канцэртах звычайна выступаюць не болей за сем-восем вашых выхаванцаў?**

— Разумееце, “Званочкі” — гэта не хор, а вакальны ансамбль. У ім кожны юны выканаўца павінен быць салістам, здольным падмяніць іншага саліста. У час студыйных заняткаў і вызначаюцца лепшыя ўдзельнікі канцэртнага складу. І калі нехта бянтэжыцца перад выступленнем, недакладна ведае песенную мелодыю, то замена заўсёды знойдзецца з ліку нашых “запасных”.

Спачатку ансамбль існаваў пры школе, потым перайшоў у Рэспубліканскі цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей. А пасля расфарміравання гэтага цэнтра “Званочкі” далучылі як мастацкую адзінку да Белканцэрта, нароўні з “Чараўніцамі”, “Сябрамі” і некаторымі іншымі эстраднымі калектывамі. Мы атрымалі матэрыяльную падтрымку з боку Міністэрства культуры. Два гады таму яно выдзеліла нашаму ансамблю значныя фінансавыя сродкі на новыя сцэнічныя касцюмы і рэкламу. Цяпер ён набыў папулярнасць і грамадскае прызнанне, у яго ўжо ёсць свае паслядоўнікі і перaймальнікі.

**— А які быў канцэртны дэбют “Званочкаў”?**

— Першае самастойнае выступленне ансамбля адбылося на сцэне сталічнай філармоніі на пачатку 90-х гадоў, у адным з абанементных канцэртаў для школьнай аўдыторыі, які вёў лектар-музыказнаўца Анатоль Парэцкі. Дарэчы, у той час выйшаў з друку зборнік маіх дзіцячых песень пад назваю “Певунок”, падрыхтаваны ў выдавецтве “Беларусь”, і некаторыя з іх прагучалі пад раяль на тым памятным дэбютным канцэрце. Таму ў майго калектыву не было яшчэ адметнага выканальніцкага стылю і дакладна вызначанага творчага кірунку, адсутнічалі канцэртныя касцюмы. Усё гэта з’явілася значна пазней, у працэсе настойлівай працы з юнымі артыстамі.



Скажу шчыра: я вельмі патрабавальна і прафесійна строга стаўлюся да сваіх студыйцаў, дамагаюся зладжанасці і высокай культуры спеваў. Тыя, хто вытрымлівае напружаны рытм працы ў ансамблі, надоўга застаюцца яго ўдзельнікамі і сябрамі. Бо займацца ў нас надзвычай цікава і карысна для агульнага культурнага развіцця кожнай юнай асобы.

**— Валянціна Васільеўна, ці можна расказаць пра сам працэс заняткаў?**

— Адна рэпетыцыя не падобная да другой. Спачатку вучым словы новых песень, потым развучваем мелодыі. Шмат увагі ўдзяляецца вакалу. Я ўвесь час нагадваю дзецям, што наш ансамбль **вакальны** і да таго ж з эстрадным ухілам. Даводзіцца клапаціцца і пра знешні выгляд “Званочкаў”, і пра наданне канцэртнаму складу яркай сцэнічнай формы і артыстызму. Раней рэпетыцыі праводзіліся ў арандаваным памяшканні дырэкцыі парку імя Горкага, цяпер вярнуліся ў знаёмую нам школу ў Фрунзенскім раёне: там за арэнду залы не трэба плаціць. Як толькі вывучым тую або іншую песню, адразу выводжу сваіх юных спевакоў

ВЫСТАВЫ

# “Літарт-2000”

***Беларускія мастакі новае тысячагоддзе прывіталі выставай мастацкага шрыфту “Літарт-2000”, такім чынам падсумоўваючы свае здабыткі ў гэтай галіне творчасці.***

### КОЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА ЛІТАРНУЮ ГРАФІКУ

Выстава ў Нацыянальным мастацкім музеі працавала зусім нядоўга. Але паспела ўразіць і запомніцца. Яна ад пачатку была задумана, хутчэй, як гульня творчых магчымасцей і дзіцячай непасрэднасці мастакоў. Але менавіта дзякуючы ўменню непасрэдна і нязмушана ставіцца да тэмы, да самой мастацкай тэхнікі і дазволіла кожнаму зрабіць маленькія шэдэўры, форма якіх найбольш адпавядае ўласным фантазіям і стылю.

“Хаця літарная графіка прысутнічае штокрок і навідавоку, — тлумачыць адзін з арганізатараў выставы і канферэнцыі, прысвечанай пытанням развіцця мастацтва шрыфту, мастацтвазнаўца Міхал Баразна, — ёсць адчуванне, што мы знаходзімся недзе сярод акіяна “тэкстаў”, сапраўдны творчы поспех застаецца выключнай з’яваю. Вулічныя графіці здаюцца некаму найбольш актуальнай формай сучаснай шрыфтавой пластыкі, усеагульны “times” задавальняе патрэбы безаблічнага канцэлярыту. Але ўдумлівы эксперымент лідэраў прафесійнага цэха майстроў шрыфту найбольш тонка адлюстроўвае адносіны грамадства да слова і праблем яго інтэрпрэтацыі. Мастацтва шрыфту часцей разглядаюць у кантэксце тэндэнцый графічнага дызайну, рэкламы, але шрыфт — даволі дасканалы індыкатар развіцця розных бакоў культуры, а не толькі выяўленчага мастацтва і праектнай дзейнасці. Творы сапраўдных майстроў шрыфту вылучаюцца найбольш засяроджаным пераасэнсаваннем традыцый, імкненнем да дасканалага спалучэння элементаў графічнай выразнасці”.



Першы сапраўдны эксперымент беларускіх мастакоў па графічнай інтэрпрэтацыі тэксту адбыўся на 1-й Рэспубліканскай выставе мастацтва шрыфту ў 1988 годзе. Назва “Літарт”, якая тлумачыцца як мастацтва літары, замацавалася ж з 1994 года. Выставы пад такой назваю зрабіліся апошнім часам сталымі, а каліграфічныя творы П. Семчанкі, Г. Мацура, Р. Найдзена, М. Казлова, А. Шоўка, У. Цэслера, С. Войчанкі, У. Цярэнцьева і іншых добра вядомы знаўцам і аматарам мастацтва шрыфту.

### ЧАЛАВЕК СЕМНАЦЦАТАГА СТАГОДДЗЯ...

Асабіста для мяне ўспрыманне шрыфту не як тыпаграфскай гарнітуры, а сапраўднага мастацкага твора пачалося са знаёмства з каліграфічнымі творамі Паўла Семчанкі, пачынальніка і духоўнага натхняльніка беларускай мастацкай каліграфіі. І ўражвала не толькі яго творчасць. Запаміналася яго каларытная знешнасць, мернае цячэнне гамонкі, як у чалавека, які не спяшаецца і ў той жа час усё паспявае. Пасля зразумела, што гэта — не імідж, толькі такі чалавек можа цалкам прысвяціць сваё жыццё некамерцыйнай творчасці. “Мне хопіць тры працы ў год. Я іх не прадаю, раблю для душы, пасля магу падараваць, напрыклад, музею”. Яго майстэрня падалася мне прытулкам ад мітуслівасці горада, тут мастак адчувае сябе цалкам на ўласнай тэрыторыі. Ён называе сябе чалавекам семнаццатага стагоддзя, эпохі барока, ваяром і майстрам адначасова. У майстэрні ён вытачвае свае драўляныя “цацкі”, тут натуральна ўжываюцца вясковыя прылады і прыналежнасці мастака, тут многія рэчы зроблены яго рукамі і ён гэтым вельмі ганарыцца, тут знайшлі прытулак і яго творы, і студэнцкія спробы. Тут ляжыць вялікі рулон паперы, дзе мастак штодня

на сцэну, каб з дапамогай харэографа яны авалодалі пластыкай танцавальных рухаў.

**— Вядома, што на кожным канцэрце і сама Валянціна Сярых абавязкова выступае ў складзе ансамбля як актыўная ўдзельніца. Апрануўшы нацыянальнае адзенне вы выходзіце на сцэну і разам з сямігадовым хлопчыкам спяваеце песню "Я — беларус" на вершы Ніла Гілевіча альбо дапамагаеце маленькай дзяўчынцы выконваць песню "8 Сакавіка" на словы Мікалая Траццякова. Абедзве песні, дарэчы, з вашай музыкай. Удзел кіраўніцы ў канцэртных праграмах — своеасаблівая падтрымка для маленькіх артыстаў. Калі вы побач, дзеці, вядома ж, адчуваюць сябе больш упэўнена і спакойна перад шматлікай публікай. Але ж час ідзе, і за дзесяць гадоў склад ансамбля неаднаразова мяняўся. Як ён фарміруецца, хто ў ім вылучаецца сёння?**

— Так, за час, што мінуў з дня заснавання "Званочкаў", праз нашу вакальную студыю прайшло нямала дзяцей, якія назаўсёды палюбілі музыку і спевы. Некаторыя з іх, пасталеўшы, вырашылі прысвяціць сваё жыццё прафесійнаму мастацтву. Былая мая выхаванка Насця Мазэйка заканчвае факультэт харавога дырыжыравання Беларускай акадэміі музыкі. Дзверы нашай студыі шырока адчынены для ўсіх жадаючых, але, безумоўна, пры наяўнасці ў іх неабходных музычных дадзеных. Праслухоўваючы навічкоў, я нікому не адмаўляю ў прыёме ў наш калектыў. Бо не кожны з іх можа адразу паказаць свае сапраўдныя здольнасці — камусьці для гэтага патрэбен нейкі час і пэўныя абставіны.

Што да лідэраў ансамбля — сёння вылучаюцца сваімі здольнасцямі Яраслаў Казлоўскі, Каця Адамовіч, Юля Гаўрыс. Дзякуючы ім, па сутнасці, "Званочкі" і перамаглі на чарговым Міжнародным конкурсе-фестывалі дзіцячай эстраднай песні, які адбыўся ў канцы мінулага года ў Санкт-Пецярбурзе, на пляцоўцы "Музычнага рынга". Паводле вынікаў гэтага прэстыжнага конкурсу, дзесяцігадовы Яраслаў стаў лаўрэатам за цудоўнае выкананне песні Алега Чыркуна "Сена маладое" і атрымаў прыз — музычны цэнтр; дыпломамі ўзнагародзілі 12-гадовую Кацю і шасцігадовую Юлю.

**— Наколькі я ведаю, ансамбль "Званочкі" даўно супрацоўнічае з Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і поруч з ім пастаянна ўдзельнічае ў традыцыйным Нацыянальным фестывалі беларускай паэзіі і песні, аўтарскіх вечарах нашых паэтаў і кампазітараў. Як нарадзілася гэта сувязь паміж славутым аркестрам і невялічкім дзіцячым ансамблем?**

— Гадоў сем таму Міхал Якаўлевіч прапанаваў мне ўзяць удзел у адным з першых маладзечанскіх фестываляў, галоўны завадатар якіх — сам ён, мастацкі кіраўнік Канцэртнага аркестра. Помню, у 1996 годзе фестывальны канцэрт у Маладзечне адкрывала мая песня "Дзень-залацень" на словы Валянціна Лукшы ў выкананні Іны Афанасьевай, якую публіка прымала ўзрушана, вітала моцнымі апладысментамі. І потым "з лёгкай рукі" нястомнага маэстра ансамбль "Званочкі" пачалі часта ўключаць у аўтарскія праграмы, прысвечаныя творчасці паэтаў Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Уладзіміра Някляева, кампазітараў Ігара Лучанка, Леаніда Захлеўнага, Эдуарда Ханка. Наш дзіцячы калектыў, па сутнасці, першым выйшаў на вялікую сцэну краіны разам з дарослымі зоркамі беларускай эстрады. Дзеці спяваюць пад аркестр толькі "жывым", натуральным гукам, бо карыстанне фанаграмай — дрэнная паслуга для саліста.

**— А ў далёкім замежжы "Званочкам" даводзілася выступаць?**

— Некалькі разоў пабывалі на гастролях у Італіі, Германіі, Польшчы. Аднак, на маю думку, надта захапляцца замежнымі гастрольнымі паездкамі не варта. Трэба ўсяляк захоўваць свой творчы прэстыж у сябе на радзіме. Ёсць такая прымаўка: ад дабра дабра не шукаюць. Навошта ездзіць у далёкае замежжа, калі можна з поспехам выступаць і дома, перад сваімі землякамі?

●

Доўгі час ансамбль "Званочкі" меў магчымасць раз на месяц удзельнічаць у папулярнай дзіцячай перадачы Беларускага радыё "Музычны дамок". Сцэнарыі яе пісала сама Валянціна Сярых. Яна ж была і галоўнай вядучай радыёпраграм, скіраваных на развіццё ў дзіцей і падлеткаў высокіх эстэтычных густаў. І таму зусім незразумела, чаму такая важная перадача раптам перастала існаваць. Магчыма, было б карысна яе ўспомніць і адрадзіць у эфіры гасцёўню "Музычнага дамка", дзе часта па запрашэнні Валянціны Сярых сустракаліся нашы паэты і кампазітары і вялі жывую гутарку з радыёслухачамі пра мастацтва, прадстаўлялі свае новыя песні ў выкананні юных артыстаў.

У народзе слушна гавораць: дзеці, як кветкі, упрыгожваюць наша жыццё. Удзельнікі "Званочкаў" — як "пявучыя кветкі", сваімі звонкімі і пяшчотнымі галасамі ўпрыгожваюць канцэртныя праграмы, захапляюць перш за ўсё дзіцячую аўдыторыю любоўю да музычнага мастацтва і прыносяць эстэтычную асалоду як дарослым, так і маленькім слухачам.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

ТВОРЦА

# Музыка ў фарбах і колерах

Кожны чалавек па сваёй прыродзе — творца. Але далёка не кожнаму ўдаецца сцвердзіць сябе ў жыцці. Пра тых, хто дасягае пэўных вышыняў у той ці іншай галіне дзейнасці, кажуць, што талент іхні ад Бога. Творцы, што шчыруюць на ніве духоўнай культуры, падобныя ў нечым адно да аднаго. Шмат хто з іх надзіва наіўны, часам даверлівы і неспрактыкаваны ў будзённым жыцці. Яны, што тыя дзеці, патрабуюць сталага догляду і ўвагі, каб займацца любімай справай. Няўрымслівыя і апантаныя яны знаходзяцца ў заўсёдным творчым пошуку. Разам з тым кожны творца адметны чымсьці сваім, толькі яму належным. Але ж некаторыя з іх усё жыццё працуюць на адной дзялцы: малююць, пішуць, музіцыруюць, — адным словам, выказваюць сябе ў пэўным мастацтве. Іншыя ж — натуры шматгранныя, выяўляюць сябе ў розных сферах духоўнай культуры.

Нядаўна я неспадзявана для сябе адкрыла рэдкага творцу, які паўстаў перад шматлікай аўдыторыяй адразу аж у трох іпастасях — кампазітар, музыка, мастак. Гэта было днямі ў Нацыянальнай бібліятэцы, дзе прэзентаваў свае жывапісныя і графічныя працы, дэбютаваў як мастак прафесійны кампазітар Усевалад Грыцкевіч. Цягам апошніх гадоў ён паказваў свае творы як у Беларусі на шматлікіх выставах, што ладзіліся мастацкай суполкай "Пагоня", так і за мяжою. Гэтая ж выстава для яго — першая персанальная. І хоць дзень гэты быў нявеtлы, змрочны і дажджлівы, нібы восеньскі, у выставачнай зале панавала святло, утульнасць і чысціня белага колеру. Мы апынуліся ў атмасферы прыгожых гукаў і фарбаў. І не было б у гэтым аніякага дзіва, бо цяпер на адкрыццё ўсіх выставаў запрашаюць артыстаў, спевакоў ды музыкаў, каб тая музыка, што напаўняла залу, не была ўвасоблена ў фарбах на карцінах. Гэта музыка зімы, музыка тэатра, музыка Абуджэння... Адсюль і назва выставы — "Музыка ў колеры".

Як прыйшоў кампазітар у жывапіс? Я пацікавілася пра гэта ў самога аўтара. Спадар Грыцкевіч распавёў, што захапленне жывапісам у яго невыпадковае. Бо колер і музыка — рэчы непадзельныя. І вытокі гэтага захаплення — у дзяцінстве. Ён вырас сярод багацейшай палітры фарбаў. У Баранавічах, дзе ў 1947 годзе ён нарадзіўся, быў бацькоўскі прыватны дом, дзе маці Ліза Пятроўна, біёлаг па адукацыі, займалася развядзеннем кветак. З усіх кветак Усеваладу асабліва запомніўся бэз з багатымі веснавымі адценнямі — ад белага да інтэнсіўна насычанага фіялетава-чырвонага колеру. Гэтая каляровая гама заўсёды ўяўлялася, калі яшчэ хлопчыкам ён сядзеў за раялем. Аднойчы, у 14-гадовым узросце, сузіраючы буйства фарбаў, ён выразна пачуў гукі музыкі. Іграў струнны аркестр. Гэта запала ў душу і сэрца на ўсё жыццё. Пасля была Мінская музычная вучэльня, дзе будучы кампазітар спасцігаў музычнае майстэрства па класе фартэпіяна. Пазней Усевалад скончыў Беларускую акадэмію музыкі па класе кампазіцыі прафесара Дзмітрыя Смольскага. Што да адукацыі мастацкай, дык пра гэта, на мой погляд, вельмі трапна выказаўся Яўген Шунейка, мастацтвазнаўца, які вёў рэй на адкрыцці выставы: "Усевалад Грыцкевіч вучыўся жывапісу па французскіх крытэрыях. Ён атрымаў чыста еўрапейскую адукацыю, не зашораную акадэмічнымі нормамі. Спачатку ён наведаў студыю Саюза архітэктараў, а пасля браў прыватныя ўрокі. Свайму поспеху ён абавязаны двум мастакам, сваім настаўнікам. Гэта Аляксей Зінчук, выкладчык Мінскай мастацкай вучэльні і Аляксей Марачкін, дацэнт Беларускай акадэміі мастацтва.

На трэцім курсе кансерваторыі Усевалад пачаў эксперыментаваць. Валодаючы тонкім пачуццём гармоніі і колеру, ён сур'ёзна заняўся сінтэзам двух мастацтваў — музыкі і жывапісу — на глебе гукавых і каларыстычных асацыяцыяў: элементы верхняга і ніжняга рэгістраў — гэта колеравыя адценні, іхняя працягласць — элементы кампазіцыі, урэшце, аркестроўка — гэта пачарговае напластаванне фарбаў, ускладненне з абавязковай гармоніяй і цэльнасцю кампазіцыі. Для Грыцкевіча аркестравае пісьмо ёсць адна з формаў жывапіснага мыслення, дзе тыя ж адценні, тыя ж фарбы, як халодныя, гэтак і цёплыя. Так асязальны гукавы вобраз кампазітар увасабляе ў фарбах на палатне.

Тое, што Усевалад паказаў на выставе, створана за апошнія 10 гадоў. Тут, акрамя работ толькі колеравых, абстрактных, асацыятыўных, ёсць адкрыта рэалістычныя, з якіх я найперш прыгадваю бэз, той самы бэз, які некалі паланіў душу будучага мастака і кампазітара. У графічных працах Усевалад аддае перавагу архітэктурным кампазіцыям. Можа, таму, што архітэктура — гэта лініі і формы застылай у матэрыяле музыкі, якая адпавядае свайму часу, сваёй эпосе.

Надзвычай багатая і музычная скарбонка кампазітара. Тут творы розных формаў: вакальна-сімфанічная паэма "Свіцязянка" паводле вершаў Адама Міцкевіча, канцэрт для фартэпіяна з акестрам, канцэрт для габоя і камернага аркестра, сюіта для цымбал, музыка да спектакляў. Калегі Усевалада па музычным цэху, што разам завіталі на адкрыццё выставы на чале з Ігарам Лучанком, нібы нанова адкрывалі для сябе чалавека, якога даўно, здавалася б, добра ведалі, з якім працавалі. "Ён заўсёды вылучаўся сваім творчым падыходам да любой справы, — зазначыла ў сваім слове Наталля Гайда. Некаторым гэта не надта падабалася. Але ніхто з нас не думаў, што ён так сур'ёзна займаецца жывапісам. І сёння я прыемна ўражаная адкрыццём мастака. Не здзіўлюся, калі наступным разам Усевалад запросіць нас на выставу скульптуры". А тым часам на выставе гучала музыка, што атрымала новае жыццё ў жывапісных творах. Як мяркуе Аляксей Марачкін, музыка — найвышэйшае мастацтва, саступае толькі каханню. Але і каханне — таксама музыка.

А да ўсяго дадамо, што сустрэчы, прэзентацыі, выставы, якія ладзіць Нацыянальная бібліятэка, — добрая традыцыя, добрая форма адкрыцця новых імёнаў, новых талентаў.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**



*Усевалад ГРЫЦКЕВІЧ: "Гановер"*

адточвае сваё майстэрства каліграфіі — практыкуецца ў рамястве.

А тое, што пасля выходзіць з-пад яго пяра, нясе адчуванне роўнага дыхання, моцнай рукі і дасканалага майстэрства. Яго паэтычныя шрыфтавыя кампазіцыі-фантазіі на самыя розныя тэмы, не абмежаваныя аніякімі рамкамі сталых форм, захапілі і запомніліся. "Мае работы — гэта гук, пластыка і рух, як у балеце. Гэта спроба захаваць код нацыі, выказаць гармонію жыцця. Я заўжды не любіў прамыя вуглы і імкнуўся іх скругліць — такі і характар кожнага беларуса. А сама форма спіралі з'яўляецца нібы кандэнсатарам энергіі".

Нездарма Паўла Семчанку, мастака, прафесара, выкладчыка Беларускай акадэміі мастацтваў, аўтара некалькіх кніг па мастацтве шрыфту і каліграфіі, паважаюць і падтрымліваюць калегі і вучні. Яго энтузіязм пацягнуў за сабою многіх. Магчыма, таму, што ў аснову свайго бачання мастацтва ён паставіў закон прыгажосці. І калі пра завершанасць школы мастацкага шрыфту гаварыць яшчэ ранавата, то можна ганарыцца тымі набыткамі, якія склалі новы этап развіцця мастацтва шрыфту на Беларусі.

## НЯСУМНАЯ ПАДЗЕЯ

На выставу "Літарт-2000" конкурснага адбору не было, тыя, хто захапляецца мастацтвам шрыфтавой графікі, ведаюць адзін аднаго літаральна "ў твар". Амаль усе ўдзельнікі — вядомыя мастакі не ў майстэрстве каліграфіі, а ў іншых галінах мастацтва: жывапісе, графіцы, дызайне. Кожны па-рознаму бачыць прастору, адчувае рух, рысу, кропку, пляму, глыбіню. Зрэшты, кожны разважае ў сваіх межах і сваімі катэгорыямі — і менавіта з гэтага склалася разнастайнасць экспазіцыі, дзе кожны спрабаваў па-свойму "пагуляць" з тымі мастацкімі набыткамі XX стагоддзя, якія падаліся яму найбольш значнымі. Таму выстава была зусім нясумнай падзеяй. Наадварот, яна адзначылася нечаканасцю, здаецца, вакол многа добрых знаёмцаў, але — з кожным новым творам знікаеш у віры накручаных нечаканых вобразаў і непрыхаваных эмоцый. Здаецца, пазнаеш стыль В. Паўлаўца, У. Лукашыка, М. Будавея, Ю. Падоліна, С. Цімохава, У. Правідохіна, але нечакана для сябе адкрываеш у іх віртуозных кампазіцыях нейкія абагульненні, нават філасофскія прачытанні, колеравыя гармоніі і дысгармоніі, суаднесенасць з літаратурай, музыкай, асэнсаванні спадчыны пачатку і канца нашага стагоддзя. Можна паглыбіцца ў гістарычныя і літаратурныя паралелі, а можна проста атрымаць эстэтычнае задавальненне ад па-майстэрску выкручаных ліній літар і словаў. Галоўнае, у кожнага, нават самага непадрыхтаванага гледача магло перавярнуцца разуменне літары як дапаможнай прылады — на ўзровень сапраўднага твора.

Важнасць выставы менавіта як падзеі падкрэсліла і першая навуковая канферэнцыя па праблемах творчых пошукаў і развіцця мастацтва шрыфту. Тым больш пытанні на ёй закраналіся самыя розныя: ад гісторыі кірыліцкіх кніг, ініцыялаў у іх афармленні, гісторыі шрыфту ў кніжнай графіцы 1970—80-х гадоў да праблем сучаснага выкарыстання шрыфту як сродку дызайну і афармлення кніг. Цікава, што эксперыменты са шрыфтам яшчэ ў 20-я гады распачалі Э. Лісіцкі (віцебскі перыяд), "канструктывісты" Б. Малкін, В. Дваркоўскі, А. Тычына, А. Ахола-Вало. Пасля заняпаду 30-х, іх традыцыі пераасэнсоўваў у 70-х Я. Кулік, а найбольш ярка ў 80-х А. Кітаева, якая выдала нават "Супрэматычную азбуку" (1991). Але тым не менш яшчэ ў 70-х у мастацкіх вучальнях Беларусі не было дысцыпліны "Шрыфт", у адрозненні ад маскоўскіх і львоўскіх паліграфічных інстытутаў. Таму пра новыя пластычныя рысы ў мастацтве шрыфту можна гаварыць пачынаючы з 80-х гадоў, калі ў мастакоўскае асяроддзе ўліліся выпускнікі факультэта дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва БелАМ — У. Шоўк, У. Лукашык, А. Кітаева, У. Цэслер, С. Войчанка, У. Цярэнцьеў, Э. Жакевіч, М. Сенькін і іншыя. Таму на сённяшні дзень мы можам гаварыць пра існаванне канцэптуальнага еўрапейскага падыходу да мастацтва шрыфтавой графікі, яе пластыкі. Але і цяпер праблема мастацтва шрыфту на прафесійным узроўні ў рэспубліцы яшчэ даволі вострая і не вырашаная цалкам.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

*На здымку: на адкрыцці выставы. Справа — П. Семчанка.*

*Фота М. ПРУПАСА.*

## Яны прайшлі па той вайне...



**У Музеі вызваленчага руху вёскі Плябань (філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры) прайшла святочная вечарына, гасцьмі якой былі людзі вялікай, светлай і шчырай душы — нашы вядомыя паэты Мікола Аўрамчык і Пятро Прыходзька. На гэты раз сустрэча адбылася з нагоды юбілеяў — Міколу Аўрамчыку 14 студзеня споўнілася 80 гадоў, а Пятру Прыходзьку — 25 лютага.**

**Амаль год у музеі экспануецца выстава "Яны прайшлі па той вайне", якая распавядае пра пісьменнікаў ваеннага пакалення. Мікола Аўрамчык і Пятро Прыходзька таксама ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, прайшлі яе нялёгкімі дарогамі. Вайна пакінула глыбокі след у іх жыцці і творчасці. Ваенная тэма на гэтай вечарыне была галоўнай. Адбывалася размова не паміж байцамі і сынамі, а паміж дзядамі і ўнукамі. Перад моладдзю стаялі жывыя сведкі гісторыі.**

**Мікола Аўрамчык расказваў пра тыя страшныя дні, чытаў вершы, прысвечаныя загінуўшым сябрам. Перажыўшы неймаверныя пакуты ў палоне, ён не страціў дабрыні, шчодрасці, душэўнага характва. Гледзячы на юных слухачоў — вучняў школы в. Краснае — як яму было не ўспомніць свае юнацкія гады, таму і прагучалі радкі пра дзяцінства, пра каханне.**

**Затое "пясняр зямлі Хоцімскай" Пятро Прыходзька, які дайшоў да Берліна і пакінуў свой подпіс на сцяне рэйхстага, пачаў размову са свайго першага верша. Ён яго напісаў у 10 год і не забыў па сённяшні дзень. Верш быў пра коніка, якога вадзіў у начное. Потым паэт звярнуўся да тэмы вайны, барацьбы, перамогі.**

**Сёння на парозе XXI стагоддзя паэты перадаюць маладому пакаленню эстафету любові да роднай зямлі, да матчынай мовы. Гэта перадача адбылася і на сустрэчы ў музеі і як сімвал прагучаў верш Аркадзя Куляшова, які прачытала вучаніца мясцовай школы.**

**Вольга ГУЛЕВА,**

*Фота Валерыя СІБРЫКАВА.*

## Неабходнае выданне

**Мікола Хаўстовіч чытае студэнтам БДУ лекцыі па літаратуры 19-га стагоддзя. Паколькі тэкстаў гэтага перыяду няшмат, то ён праводзіць дадатковую работу — шукае звесткі ў архівах і бібліятэках пра тагачасны літаратурны працэс на Беларусі. У выніку назбіралася шмат матэрыялаў, якія "прасіліся" да выдання. Так выйшаў у свет навукова-літаратурны альманах "19 стагоддзе". Вырашана, што пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ будуць выдавацца і наступныя нумары альманаха.**

**У кнізе першай змешчаны ананімныя паэмы часоў Кастуся Каліноўскага (першапублікацыі) "Гутарка старога дзеда" і "Крыўда і праўда", першы беларускі друкаваны лацінкаю катэхізіс "Кароткі збор хрысціянскай навукі".**

**Асноўную частку альманаха складаюць пераклады з польскай мовы — літаратараў, якія жылі на Беларусі, пісалі <u>пра</u> беларусаў і <u>для</u> беларусаў. Сярод аўтараў, чые творы пераствораны М. Хаўстовічам, — Марцін Асорыя, Ігнат Ходзька, Генрых Равускі, Францішак Карпінскі, Юзаф Ігнат Крашэўскі.**

**Выданне ажыццёўлена за кошт фундатара невялікім накладам. Аўтару давялося не толькі складаць і рэдагаваць яго, але і рабіць вёрстку. Спадзяёмся, што ў наступных выпусках у яго знойдуцца памагатыя з ліку калег і аднадумцаў.**

**Г. З.**

ВІНШУЕМ!

# Рыцар вяльможнага слова

## Да 70-годдзя Паўла СЦЯЦКО

Мова ўдыхнутая ў нас, як душа. Ад яе нельга пазбавіцца, ад яе нельга адмовіцца — хіба што на смяротнай лажніцы. Душу на яе шляху па зямной цвердзі падпільноўвае безліч спакусаў, і апынаецца яна перад брамай вечнасці абцяжараная грахамі, як карабель ракушкамі пасля працяглага марскога плавання. Таму і мусіць прайсці праз чысцец, каб скінуць наносначае, вярнуць сабе першапачатковае аблічча.

Мову таксама стараюцца перакшталціць на свой лад розныя прыбышы-незычліўцы. Нявечаць яе словамі-валацугамі, абціnaюць нязвыклымі да яе спеўных гукаў языкамі, нацкоўваюць на яе чужацкае брыдкаслоўе. І мова павінна абараняцца, ачышчацца, не паддавацца набрыдзі — каб на чарговай паверцы паўстаць перад Мовадаўцам ва ўсёй сваёй першароднай красе.

Але наступ цемрашалаў бывае неадступным, апантаным, і мова, не могучы самаўратавацца, кліча на дапамогу.

Павел Уладзіміравіч Сцяцко — адзін з тых, пакліканых, хто вось ужо амаль паўвека бароніць ад нашэсцяў і падступных замахаў роднае, адвеку вяльможнае беларускае слова.

Не бяруся ацэньваць яговыя падручнікі, дапаможнікі, слоўнікі, акадэмічныя працы — яны даўно заўважаныя і зрэцэнзаваныя з навуковага гледзішча. Толькі нагадаю, што адзін іх пералік складае цэлую кнігібку, выдадзеную *сёлета* Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы. Не маю змогі выначыць у двух словах тую запатрабаванасць сцяцкоўскім наробкам, якая існуе ў беларускім мовазнаўстве. Проста прывяду факт, які засведчыць вялікі *аўтарытэт выбітнага філолага*: у адным толькі пятым томе "Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы" — 186 (!) спасылак на П. Сцяцко. Не адважуся акрэсліць абсягі айчыннага мовазнаўства, дзе не аціхае руплівая пільніца — распачатая прафесарам і працягнутая яго вучнямі — кандыдатамі і дактарамі навук, што відавочна гуртуюцца ў незацвердажанай міністэрскімі пячаткамі, але ў рэальна існуючай школе Паўла Сцяцко.

Хацеў бы запыніцца на дзвюх нядаўніх кнігах доктара філалогіі, загадчыка кафедры беларускай культуры Гродзенскага універсітэта, сябра Міжнародных камітэтаў славістаў і беларусістаў Паўла Уладзіміравіча Сцяцко, якія лічу архіважнымі для сённяшняй Беларусі: "Праблемы нормы, культуры мовы" (1998) і "Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы" (1999).

Гэта — акурат той чысцец, праз які на пачатку трэцяга тысячагоддзя павінна прайсці беларуская мова, каб стрэсці з сябе гвалтоўна накінутыя чужыя апранахі, каб вярнуцца да сваёй спрадвечна беларускай самасці. Інакш не выжыве ў жалезных абдымках лінгвацыду, сточыць яе дарэшты шашаль расейшчыны, пераніцуюць наш *кажух* на іхнюю *целагрейку*, і будзе беларус да сканчэння веку прадаваць дрыжыкі.

У названых кнігах П. Сцяцко падрабязна разгледжаны вынікі засмечвання нашай мовы чужароднай моўнай непатрэбшчынай, на прыкладах традыцыйнага беларускага словаўтварэння паказана, як праўдзіва неабходна пісаць і гаварыць.

Безліч разоў рука пісьменнага чалавека спатыкалася перад напісаннем прапанаваных нашымі нарматыўнымі слоўнікамі словаў *дзецішча, засарэнне, член, узносы, мсцівец, казначэй, прыхожая, паражэнне, завяшчанне, пакупка* і г.д. Безліч разоў вока і вуха несляпога і неглухога беларуса ніякавелі, згледзеўшы-пачуўшы розныя*на самой справе, грэчаскі, прымірыцельны, вярыцельная грамата, ваеннаслужачы, веруючы, пыласос, касцюмерша, лечачы ўрач, мысліцель...*

Як быццам у беларускай мове няма ёмкіх адпаведнікаў: *дзяціна, засмечванне, супольнік, складкі, помснік, скарбнік, вітальня, параза, тастаманту, купленка, насамрэч, грэцкі, прымірэнчы, даверчы ліст, вайсковец, вернік, пыласмок, касцюмерка, лекар, мысляр...*

П. Сцяцко падказвае, нарайвае, растлумачвае — з дапамогай уласнага досведу, а часам і прыклікаўшы на дапамогу класікаў, што здолелі зберагчы сваю адпрыродную мову, — Я. Купалу, М. Гарэцкага, К. Чорнага.

Як жа бракуе гэтых кніжак-даведнікаў на пісьмовых сталах журналістаў і пісьменнікаў! Як жа яны былі б не лішнімі перад вачыма актораў і дыктараў! Як жа прыдаліся б яны настаўнікам! Як жа неабходна мець іх пад рукой усім нам... Але наклад абедзвюх — усяго па 200 асобнікаў. І хоць задушыся — як казаў адзін мой знаёмы археолаг, калі становішча, на яго погляд, рабілася безвыйсцёвым. А дзе ж тое выйсце — не пойдзеш жа сам па бібліятэках, каб збіраць па слоўку у Насовіча і Гарэцкага, Ластоўскага і Станкевіча, Байкова і Некрашэвіча, Каспяровіча і Шатэрніка... П. Сцяцко трыццаць пяць гадоў назапашваў матэрыял, ездзіў падвышаць свой філалагічны досвед у Варшаву і Прагу, выявіў свае подумкі на міжнародных канферэнцыях і сімпозіумах, а ўжо затым сеў і напісаў кнігі.

"Праблемы нормы, культуры мовы" ў мяне пазычала адзінаццаць чалавек. Ад Уладзіміра Арлова кніга вярнулася ў вартым жалю выглядзе — не вытрымаў клееныя карэньчык. Я здаў мовазнаўчы бестселер у пераплёт. Пасля невялікай рэцэнзіі на яе ў часопісе "Роднае слова" ў рэдакцыю патэлефанавалі з нацыянальнага тэлебачання: хочам замовіць пяцьдзесят асобнікаў, падкажыце, *як гэта зрабіць*? А зрабіць трэба адну нескладаную рэч — узяць кнігі П. Сцяцко і перавыдаць іх стотысячным накладам. Менавіта ў такой колькасці выдаваліся ў 1943 годзе граматыка Б. Тарашкевіча і правапіс А. Лёсіка — то хіба беларусаў пад немцамі было болей, чымся ва ўласнай незалежнай дзяржаве? Вось тады хопіць усім.



Пішу гэта на прымружанай ад сонца напрадвесневай Зэльвеншчыне, у матчынай хаце, з вакна якое відзён белы і доўгі, як цягнік, будынак Дзярэчынскай сярэдняй школы, што ў 1947 годзе закончыў будучы слынны навуковец. За ўсю сваю гісторыю школа наўрад ці прыгадае больш здольнага вучня — першы клас Павел адолеў усяго за два месяцы, з трэцяга перакрочыў адразу ў пяты, а з пятага сягнуў з ходу ў сёмы! Перад гэткім drang und sturm падкага да навукі юнака здаўся без бою (без іспытаў) фізіка-матэматычны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута. І тут мне робіцца непамысна, як і тады, калі чытаю ў якім-небудзь даведніку, што Васіль Быкаў марыўся стаць мастаком і адмыслова вучыўся ў мастацкай вучэльні... Але дзякуй Богу, які зрэдку ўсё ж умешваецца ў беларускае жыццё, адбыўся Быкаў-пісьменнік і спраўдзіўся Сцяцко-мовазнавец.

Павел Сцяцко нарадзіўся ў дзень смерці Сталіна і паўжыцця паклаў, каб сарваць бальшавіцка-імперскую зашмаргу з беларускай мовы. І зашмарга тая, дзякуючы яго высілкам, адчувальна паслабла. Паклон Вам за гэта, мовазнавец-дзяржаўнік, рыцар-абаронца вяльможнага беларускага слова!

**Міхась СКОБЛА**

# Судакрананне...

*(Праця г. Пачатак на стар. 5)*

**— Даруйце, Ганна Вячаславаўна, але хочацца спытаць вось пра што: якія паступленні зацікавілі, абрадавалі, выклікалі радасць у вас асабіста?**

— Кожная па-сапраўднаму цікавая знаходка — гэта наша агульная радасць. У такім выпадку ў мой кабінет збягаюцца ці не ўсе супрацоўнікі, і тады тут можна назіраць вельмі эмацыянальныя сцэны. А што да мяне асабіста, дык апошняя мая радасць — паступленне дакументаў з архіва Адама Бабарэкі. З дачкой пісьменніка Алесяй Адамаўнай я пазнаёмілася ў 1996 годзе — дзякуючы вядомаму руплііўцу на ніве нашай гістарычнай навукі Аляксею Канстанцінавічу Каўку. Я вельмі задаволена, што пазнаёмілася з ёю. Такія людзі, як Алеся Адамаўна Бабарэка, не толькі натхняюць, але і акрыляюць. Яна прывезла бацькавы рукапісы, многія з іх дагэтуль не апублікаваны. У ліпені 1930 года, калі "чорны воран" прыехаў па бацьку, маці загадала малой Алесі легчы ў ложак (сярод белага дня). Дачка не хацела класціся, не разумела, што ў матрац не дзіцячага ложка маці схавала татавы рукапісы. *Так яны былі ўратаваны.* Другі раз я сустрэла Алесю Адамаўну летась у Пінску, на чарговых Гарэцкіх чытаннях. Была там і дачка Гарэцкага Галіна Максімаўна. І абедзве яны прыехалі не з пустымі рукамі. Галіна Максімаўна перадала ў архіў апошнія турэмныя лісты бацькі да сям'і, а Алеся Адамаўна — некалькі бацькавых лістоў, таксама з турмы.

*Дарэчы, 100-годдзе з дня нараджэння* А. Бабарэкі мы адзначылі тут, у нашым архіве-музеі: іншыя ўстановы, якія павінны былі б зрабіць гэта па сваім абавязку, чамусьці маўчалі. Ідэя адсвяткаваць юбілей вылілася ў шэраг цудоўных мерапрыемстваў, у тым ліку ў выставу "У душы гарэў святы агонь..." і навуковую канферэнцыю, якая прыцягнула шмат удзельнікаў, на якой выступалі Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, М. Мушынскі, Алеся Бабарэка, У. Конан, супрацоўнікі архіва, навукоўцы. Мы змаглі нават пабываць у роднай вёсцы Адама Антонавіча — Слабадзе-Кучынцы Капыльскага раёна. Алеся Адамаўна зноў парадавала нас: перадала нам унікальныя фотаздымкі бацькі, пісьмы У. Дубоўкі да яго 20—30-х гадоў, пісьмы К. Чорнага, Я. Пушчы, многіх іншых узвышаўцаў, фотаздымак М. Лужаніна, П. Труса і К. Чорнага, рукапісы бацькі, ягоны пераклад "Шыльёнскага вязня" Дж. Байрана, які Адам Антонавіч зрабіў у турме на Валадарцы, камплект часопіса "Узвышша", некалькі асобнікаў газеты "Савецкая Беларусь" з артыкуламі, з якіх пачался надта ж актыўная "крытыка" ўзвышаўцаў.

**— Вы ўжо згадвалі беларускую дыяспару. Шмат гадоў яна была адгароджана ад бацькаўшчыны высачэзнай сцяной, і толькі ў пачатку 90-х гадоў у нас наладзіліся з ёю сувязі. У якім стане яны сёння?**

— Колішні савецкі час мы скарысталі досыць плённа. Шмат у нас дакументаў з Вільні, хоць бы архіў незабыўнай Зоські Верас, маем многія асабістыя архівы з Масквы — У. Дубоўкі, К. Буйло, атрымалі мы дакументы з *Яраслаўля ад нашчадкаў сям'і* М. Багдановіча, з Якуцка — архіў І. Ласкова, з Пяцігорска — В. Гарбука, з Казахстана — С. Ліхадзіеўскага, з Пецярбурга — Л. Бэндэ і г. д. Адшуканы матэрыялы М. Мялешкі ў Пецярбурзе і Новасібірску знойдзены родныя М. Каспяровіча і ягоныя матэрыялы. Плённа супрацоўнічаем з С. Яновічам, які жыве на Беласточчыне ў *Польшчы. Ягоны архіўны фонд у* нас досыць вялікі. З Прагі ў свой час прывезены архіў М. Забэйды-Суміцкага. У сувязі з гэтым хацелася б згадаць светлай памяці Надзею Кастэцкую, якая паспрыяла гэтаму і маральна, і матэрыяльна.

З больш далёкай дыяспарай сёння падтрымліваць сувязі цяжкавата, але сёе-тое робім, вядома. Ёсць самаахвярныя людзі, якія нам шчыра дапамагаюць. Напрыклад, у Якуцку жыве Алесь Баркоўскі, які дапамог нам атрымаць архіў згаданага І. Ласкова і асобныя дакументы С. Новіка-Пеюна, ім жа адшуканы цікавыя звесткі пра А. Вярыгу-Дарэўскага. С. Панізнік перадаў нам дакументы Пятра Сакола і мастака Міхася Калініна. Вельмі спрыяе нам А. Мальдзіс. Хацелася б сказаць і пра сапраўдную самаахвярнасць Вітаўта і Зоры Кіпеляў з ЗША, якія прыслалі нам поўны збор запісаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Дзякуючы ім маем мы і эміграцкія выданні А. Салаўя, Н. Арсенневай, успаміны Л. Савёнка і Я. Кіпеля, многія іншыя дакументы, рукапісы, выданні.

**— Ганна Вячаславаўна, а як прапагандуецца дзейнасць архіва-музея? Уласнай выдавецкай справай вы не займаецеся?**

— На жаль, такой магчымасці не маем — на гэта адсутнічаюць сродкі. Аб тым жа, што робім, друкуем інфармацыйныя паведамленні ў газетах, у тым ліку і мо найперш — у вашым "ЛіМе".

**— З сённяшніх, так бы мовіць, дзейных творцаў хто-небудзь перадаў вам свае фонды?**

— На шчасце, перадалі. І многія. Назаву шаноўнага Івана Антонавіча — Янку Брыля, Аляксея Каўку, Ніла Гілевіча. Ніл Сымонавіч перадаў нам сваю унікальную бібліятэку. Я лічу, што ўпарадкаваць, сабраць свой архіў гэта адзнака найвышэйшай культуры творцы. Карыстаючыся нагодаю, звяртаюся да ўсіх пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў, кампазітараў, людзей іншых галін творчасці: калі ласка, не забывайце пра гэта, паклапаціцеся аб сваім асабістым архіве, прывязіце яго ў парадак і перадайце нам на захоўванне. Ведайце: гэты ваш скарб — ён адначасова і скарб грамадскі, народны, дзяржаўны. Беражыце кожны свой дакумент, кожны рукапісны ліст, *нават запіску* і аўтограф, запрашальны білет і фотаздымак — усё гэта з цягам часу набывае неацэнную вартасць для гісторыі літаратуры ці іншай галіны мастацкай творчасці. Кожны творца — з'ява унікальная, непаўторная, і таму вялікі грэх знішчаць дакументы, звязаныя з уласным жыццём і творчасцю. Захавайце іх для нашчадкаў!

**— Дзякуй, Ганна Вячаславаўна, за цікавую, шчырую гутарку!**

**Марыя МІХАЙЛАВА**

# Голас і слова

## З КНІГІ АФАРЫЗМАЎ

Я не пазнаў цябе, будзеш багатай. Багатай — не хачу, хачу быць шчаслівай.

Рай — калі ёсць выбар, а пекла — калі выбару няма.

Для закаханага чалавека час прыпыняецца, ён, чалавек, не старэе.

Шчаслівы той, хто не зайздросіць поспеху іншага, а дапамагае яму.

Шмат хто і харошы і добры, калі гэта яму неабходна.

Свабода нашай дэмакратыі гэта — свабода Агню, а дзе ж свабода Вады?

Літаратура — гэта публічнае прызнанне ў слабасці і нежыццяздольнасці свайго народа ці сцвярджэнне веры ў яго розум і бессмяротнасць.

Што стварае літаратура? Свядомасць. Схіляе сумленне да актыўнага процістаяння злу, умацоўвае дух.

Бог ёсць, вучэнне аб ім прыдумана. Праўда, прыдумана выдатна. Кожны можа прыняць удзел у дасканаласці гэтага.

Для бездухоўнага чалавека не існуе панняццяў радзіма, народ.

Пры сацыялізме грошы ганяліся за таварам, пры капіталізме — тавар ганяецца за грашыма.

Радасць нават мільёнаў не зменшыць гора аднаго чалавека.

Культура — гэта матэрыялізацыя духоўнасці праз мастацтва, літаратуру, этыку і эстэтыку.

Калі ёсць у сэрцы любоў да ўсяго жывога — вось пачатак шчасця.

Не трэба шукаць апраўдання сваёй безадказнасці.

Што ўтрымлівае чалавека на зямлі? Абавязак перад бацькамі і радзімай, любоў да дзяцей, і здавальненне цікаўнасці.

Старасць наступае тады, калі ты ўсё больш і больш знаходзіш знаёмых прозвішчаў на надмагільных помніках.

Камунізм яшчэ доўга будзе паміраць у назвах вуліц.

Напісанае застаецца, а ненапісанае збываецца.

Калі няма калі думаць пра шчасце — гэта і ёсць шчасце.

Не так жыць, як дажываць.

Вайна і смерць — самыя родныя і блізкія сваякі і, у адрозненні ад людзей-сваякоў, адна без адной жыць не могуць.

З гневам і злосцю ў душы часам удаецца ўтварыць значны твор. Але дабра ў ім няма.

Каханне — свята душы, работа — свята розуму, смерць — свята цела.

Хаос нічога не знішчае, а толькі пераводзіць у іншы стан.

Усе мы яшчэ вельмі слабыя, зайздросныя, злыя, каб разгадаць усе таямніцы да канца.

Аб'ядаць спонсара недальнабачна.

Душа — маці характару.

Удалы чалавек і чорта запражэ ў воз.

У добрай гаспадыні і на лёдзе жыта расце.

Як любіш жыць? Люблю жыць, каб мне зайздросцілі, а не каб я зайздросціла.

Успомнім: што ёсць жыццё? Мітусня мітусні. Дык і гэта добра. Мітусня — тканіна, на якой чалавек страсцямі, звычкамі, учынкамі, абавязкам вышывае малюнак свайго лёсу.

Філосаф пра простых людзей кажа так: *Яны зведалі ўсё і не спазналі нічога ў гэтым свеце* — няшчасныя людзі. Звычайны чалавек адзначыць: Яны былі, зведалі гора і нястачу, каханне, радасць і сум — шчаслівыя людзі.
Вось яшчэ адно пацвярджэнне, што ўяўленне пра шчасце ў кожнага сваё.

Нікому не хочацца быць ні ахвярай, ні катам. Ды ўсё ніяк не атрымоўваецца.

Шмат каго з людзей можна назваць унікальнай з'явай у свеце жывёл.

Напад ільва на зебру ўспрымаецца як адна з граняў гарманічнай жывой прыроды. Адзін стрэл — і адразу парушаны парадак, правы чалавека і жывёлы, законнасць і гармонія. Гэта да пытання, што ўсё адносна.

Няма ціхага алкаголіка. У п'яніцы заўсёды буйны нораў: альбо нораў гэты праяўляецца перад тым, як выпіць, альбо пасля выпіўкі.

Афарызмы — гэта тэрміновыя тэлеграмы розуму.

Тэлевізійныя прыкметы нашага часу: прастытутка на джыпе, бандыт на мерседэсе, чыноўнік на вольве, паяц-дэпутат, п'юць бацька, маці, крадзе дачка і брат.

Доктар доктару вока не выклюе.

Быў бы юнак, а надзея знойдзецца.

Няма такога пісьменніка, які б не жадаў мець музей свайго імя. І лепш яшчэ пры жыцці.

Надзіва наіўныя людзі каторае стагоддзе ўсё яшчэ патрабуюць справядлівасці і законных падстаў вядзення вайны. Гэта ўсё адно, што патрабаваць пазбаўленне болю пры родах.

Думкі пра Бога, маці, дзіця, радзіму — заўсёды надаюць сілу.

Афарызмы ніколі не характарызуюць аднаго чалавека. Яны здольны ахапіць усё чалавецтва. Але ж, як ні дзіўна, і ў іх



*Фота А. ЗАХАРАВА.*

Чалавек моцнай волі?
Чалавек, які можа памерці, калі захоча, і які ніколі не памрэ сам, як бы да гэтага ні прымушалі абставіны.

Зайздрасць усеабдымная. Кату і таму зайздросцяць!

У злога царкоўнага старасты і мышы злыя, свечкі ядуць.

Памёр вядомы ў горадзе чалавек. Няўжо? Гэта вялікая страта. А для каго? Для Бога, Сатаны?

Нічога так не ўзнімае дух, як нечака-

Я НІКОЛІ НЕ ШУКАЮ і не чакаю натхнення, любоў да радзімы — маё пастаяннае натхненне.

Калі ты патрэбны хоць аднаму чалавеку, можаш лічыць сябе шчаслівым.

Не ўсё згубленае безнадзейна, але ўсё безнадзейнае згублена.

Пытаеш, дзе радзіма? Дзе пахавана твая маці, там і радзіма.

Без дабрыні мы не людзі, а голыя дрэвы.

Сумненні — асноўная і нябачная сіла жыцця. А раптам зменіцца? А калі ўсё перайначыцца? А можа, пашанцуе?

Рацыяналіст забірае сваё і для сябе ад кожнага дня.

Трэба знаходзіць сілы і смеласць насіць у сабе мінулае і яно дапаможа не баяцца смерці.

Жыццё — цудоўная мажлівасць выбраць сабе спадарожнікаў, з якімі хацелася б прадоўжыць існаванне і ў іншым свеце.

прысутнічае нацыянальны каларыт аўтараў.

Жанчына здараецца ратуе мужчыну ад самагубства, але часцей даводзіць яго да гэтага.

І палюбоўніца патрэбна... па ёй вывучаюць прытворства і падман уласнай жонкі.

Аб пастаянстве жаночых жаданняў. Ператварэнне папялушкі ў прынцэсу, бабыягі ў прыгажуню, жабы — у царэўну і ніколі наадварот. А па сутнасці назіраецца адваротны працэс.

на знойдзены на вуліцы рубель.

Настойлівасць — твар упартасці, настырнасць — яе рукі.

Калі пісьменнік хоча зняважыць свайго калегу, ён дае яго прозвішча сваім героям, як правіла — адмоўным.

Доўг перад радзімай, войскам, сям'ёй, дзецьмі, бацькамі, жонкаю, роднай школаю, аднагодкамі, сваякамі, стрыечнымі братамі і сёстрамі, знаёмымі добрых знаёмых, аднакурснікамі, настаўнікамі, царквою ў рэшце рэшт надакучвае і пакідаем адзін доўг перад самім сабой, на які ўжо не хапае сіл. Пакінь нам даўгі нашыя.

Палюбоўнік трэба, калі жанчына хоча даведацца аб сапраўдных лічбах свайго сямейнага бюджэту. Палюбоўніца трэба, калі мужчына хоча даведацца пра хітрыкі і падманы ўласнай жонкі.

Філосафы любяць пачынаць свае разважанні тэмаю пра пачатак існага, але аб самім існым нічога зразумелага не скажуць.

У таго, хто есць лежачы, продкі былі касманаўтамі.

Чым разумнейшы чалавек, тым больш у яго сяброў. У добрага ж чалавека — увесь свет сябры.

Забава заўсёды небяспечная для жыцця.

Без Бога жыць можна, але з Богам у душы надзейней і спакайней.

Георгій МАРЧУК

## Семнаццаць зім Вашчанкі



**У Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка паказвае семнаццаць зімовых пейзажаў. Яны ўвасабляюць не проста зіму розных гадоў яго творчага жыцця. У іх — настраёвае адчуванне яе прыгажосці.**

**Стаім з Гаўрылам Харытонавічам ля карціны "Іардан на Палессі". Ён расказвае: "Гэта я паспрабаваў узнавіць тое, што памятаецца з маленства. Жылі мы тады ў вёсцы Чыкалавічы, што на Брагіншчыне. Звычайна напярэдадні Вадохрышча нехта выразаў на рацэ з лёду вялікі крыж. Потым яго асцярожна ўзнімалі, неяк умацоўвалі і аблівалі бураковым расолам. Раніцай крыж ззяў пералівамі колераў ад смарагдавага да ружовага. Прыгажосць — святочная! Прыходзіў святар, свянціў людзей, спраўляў малебен. Людзі запальвалі свечкі, бралі ваду з таго месца, адкуль быў выразаны крыж. І вось дзіва: вада заставалася чыстай, крынічнай аж да самага Вялікадня..."**

**Усё гэта мы і сапраўды бачым на палатне: і ледзяны крыж, і натоўп вяскоўцаў, і святара, і крыжападобную ваду ў рачным лёдзе.**

**Экспазіцыя ў Светлагорску атрымалася незвычайнай не толькі па задуме, але і па ўвасабленні. Кожная з семнаццаці карцін, нягледзячы на аднолькавую зімовую прыналежнасць, унікальная сама па сабе. Яны быццам бы пазбаўлены ў большасці сваёй самай характэрнай зімовай прыкметы — снежнай белізны. Нават снег у Вашчанкі — настраёвы. А таму — то сінявата-блакітны, то блакітна-сіні, то з рэштакамі восеньскай жаўцізны, вечаровай ружовасці, марознай сівізны... Гэта цудоўным чынам пазбаўляе тэматычную экспазіцыю, здавалася б, непазбежнай каляровай аднастайнасці. Уся яна глядзіцца па-сапраўднаму святочна, у адзіным сугуччы непаўторнага вашчанкаўскага каларыту.**

**Гаўрыла Вашчанка менш за ўсё імкнецца перадаць знешнюю сутнасць зімы. Зіма ў яго творах — псіхалагічна-побытавая, затоеная, неілюстрацыйная. У карціне "Добрай раніцы" мы бачым толькі яе пачатак. Бярозы не паспелі скінуць жаўцізну восеньскага ўбрання — і снег зіхціць залацістымі пералівамі. Прастора абмежавана цёмным вясковым плотам, дзе дзве жанчыны, хутаючыся ў апінахі, набліжаюцца прыветна адна да адной. Зусім па-іншаму ідуць праз зіму святочна апранутыя кабеты. Адчуваецца, што перайсці халоднае, прадзьмутае снежным ветрам поле, ім нялёгка. Нават дуб з магутнымі раскідзістымі галінамі нібыта змярзае на марозным цаліку. Карціна называецца крыху нечакана: "З фэсту".**

**Асабліва моцнае ўражанне сваім сканцэнтраваным настроем пакідае карціна "Ноччу". Сіні, густа-сіні снег. Цёмныя, паніклыя цені. Сумнаватае святло ў вокнах хат. А на ўсю карціну — разгалісты дуб...**

**Тры гады таму Вашчанка паказаў у Светлагорску сваю акварэльную экспазіцыю. І гэта было ўпершыню ў яго багатым творчымі падзеямі жыцці. Цяпер вось таксама ўпершыню паказвае ў Светлагорску зімовыя творы.**

**Прыхільнасць слыннага мастака да гэтага горада пачалася яшчэ ў 1972 годзе, калі ён рабіў тут манументальны роспіс Палаца культуры хімікаў "Зямля светлагорская". Аб гэтым прыгадваў сам мастак на ўрачыстым адкрыцці выставы, ён выказаў шмат удзячных слоў мясцовым прыхільнікам яго таленту. І яшчэ больш іх — прачулых, усхваляваных, захопленых — пачуў у адказ.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: кветкі мастаку ўручае старшыня гарвыканкама Б. ПІРШТУК.*

*Фота Д. КАМІЦЭВІЧА*

ПАМЯЦЬ

# Хмарка

## ЗАБЫТАЯ ПАЭТКА 20-х ГАДОЎ Наталля ПАНАМАРОВА

У ПРАЦЭСЕ пошуку і даследавання дакументаў пра спробу стварэння першай літаратурнай суполкі "Вір" (гл. публікацыю "Вір", які так і не завіраваў" у "ЛіМе" 27 снежня 1996 г., N 52) сярод заснавальнікаў, імёны якіх былі добра вядомыя (Янка Купала, М. Чарот, З. Жылуновіч, С. Некрашэвіч, А. Смоліч, Я. Нёманскі, А. Александровіч і іншыя), сустрэлася прозвішча Н. Панамарова. Ні ў адным літаратурным даведніку яно не ўпаміналася. Не было яго і сярод жанчын 20-х гадоў, якія займаліся літаратурнай творчасцю. Таму нічога дзіўнага ў тым, што сакрэтны аддзел ДПУ яе "палітфізіяномію" не змог выявіць.

Пасля знаёмства з архіўнымі дакументамі аказалася, што Наталля Панамарова не такая ўжо і таямнічая асоба. Працавала яна сярод беларускай інтэлігенцыі, актыўна ўдзельнічала ў грамадска-палітычным жыцці.

Нарадзілася Наталля Панамарова 26 лістапада (ст. ст.) у Мінску ў сям'і служачага Лібава-Роменскай чыгункі, які меў дваранскае паходжанне. Бацькі яе Васіль Георгіевіч і Лідзія Мікалаеўна былі праваслаўнай веры. 25 студзеня 1898 г. адбылося хрышчэнне нованароджанай. "Восприемниками" сталі "статский советник" Аляксандр Дзмітрыевіч Калюжын і "вдова надворного советника" Вольга Аляксандраўна Радзёнава (бабуля хрышчонай).

У 1915 г. Наташа скончыла агульны курс Мінскай Марыінскай жаночай гімназіі і дадатковы ("словесное отделение") педагагічны клас, атрымала званне хатняй настаўніцы. У атэстаце адзначаны поспехі "отличные" і "очень хорошие".

Ішла першая сусветная вайна. Бацькі вымушаны былі выехаць у эвакуацыю. Аселі ў Калузе. З кастрычніка 1917 па верасень 1920 г. Наталля працавала ва ўпраўленні Сызраньска-Вяземскай чыгункі і давала прыватныя ўрокі. У Калузе памёр бацька. Восенню 1920 г. сям'я (маці, бабуля і цётка) вярнулася ў Мінск. Вяртанне паскорылася запрашэннем Сцяпана Некрашэвіча, загадчыка літаратурна-выдавецкага аддзела, на працу ў Наркамасветы, якое атрымала Н. Панамарова яшчэ ў жніўні.

З 1-га снежня 1920 г. была залічана на працу. Прыняў яе сам Янка Купала. На заяве можна прачытаць наступны аўтограф: "Прымаючы пад увагу, што ў Літаратурна-Выдавецкім аддзеле няма дзелаводу, дзеля гэтага прашу залічыць т. Панамарову дзелаводам Літаратурна-Выдавецкага аддзелу Компроса Беларусі. Зам. зав. літ.-выд. аддзелу Ів. Луцэвіч. 30 лістапада 1920 г. г. Менск".

Размяшчаўся Камісарыят на Скобелеўскай вуліцы, у былым Архірэйскім доме. Запаўняючы анкету, Н. Панамарова запісала: "родной язык — русский". Але ў асабовай картачцы, запоўненай праз паўгода, 8 чэрвеня 1921 г. гэты радок змяняецца: родная — беларуская мова, па нацыянальнасці — беларуска.

Як жа адбылася гэтая змена? Найперш, трэба прыняць пад увагу, што трапіла Н. Панамарова выключна ў беларускамоўны асяродак. Па-другое, з самага пачатку яе накіроўваюць на курсы беларусазнаўства, ці дакладней на беларускія лектарa-інструктарскія і настаўніцкія пры беларускім аддзеле Камасветы. Адчынены яны былі ў снежні 1920 г. На курсах выкладалі Язэп Лёсік (ён жа загадчык курсаў), Іпаліт Поляк, Палута Бадунова, Чэслаў Радзевіч і іншыя. Беларускія спевы выкладаў Мікола Равенскі.

Кіраўнік курсаў і выкладчык беларускай мовы Язэп Лёсік задаў курсантам сачыненне на тэму "Як я пазнаў сябе беларусінам". Некаторыя сачыненні былі змешчаны ў часопісе "Вольны сцяг". Н. Панамарова не ўхілілася ад адказу. Вось радкі з яе пісьмовай работы: "Калі я пазнала сябе беларусінкай? Сорамна казаць, але гэта здарылася толькі ў пачатку 1921 г.

Радзілася я, як і мая маці і бабка, у Менску. Усе свае дзіцячыя годы правяла я тутака, выяжджаючы ўлетку на нашую вёску ў Вяслаўскім павеце. Тамака, у вёсцы, я чула мову простага народу і добра разумела яе...

Паступіўшы ў гімназію, я там нічога не магла пачуць пра сваю бацькаўшчыну. Вучылі мы аб Полацкім княжастве, аб князёх, аб змаганні іх з Кіеўшчынай, але ўсё гэта малявалася іншымі хваробамі, у асвятленні аднабокім, маскоўскім...

Скончыўшы гімназію, я апынулася, дзякуючы эвакуацыі, у цэнтральнай Расіі. Увосень, летась у 1920 г., я зноў вярнулася ў Менск. Тутака папала ў гурток шчырых беларусаў і першы раз пачула праўдзівае слова аб сваёй бацькаўшчыне...

Сорамна мне ўспомніць цяпер, што я яшчэ ня так даўно казала: "Які беларускі язык? Якая мова? Яе ня было і ня можа быць! Гэта збор пераблутаных расійскіх слоў з значнаю часткай сапсованых польскіх і ўкраінскіх". Аж чырванею я цяпер, пішучы гэтыя словы!..

Чую душой і свята веру, што мінулі ліхія часы, што народ наш — зойме "свой пачэсны пасад між славянамі".

31 мая 1921 г. Н. Панамарова вытрымала, як тады казалі, "калёквіум" і атрымала званне настаўніцы пачатковай школы.

Між тым, "кар'ера" яе паспяхова ішла ўверх. Яна сакратар навукова-літаратурнага аддзела з чэрвеня 1921 г., а з 10 верасня 1921 г. — загадчык агульнай канцылярыі, ці кіраўніца справамі Акадэмічнага цэнтра Наркамата асветы Беларусі.

Акадэмічнаму цэнтру былі падведамасныя наступныя ўстановы: Інбелкульт, музей, архіў, дзяржаўная бібліятэка, навукова-літаратурная калегія, яўрэйская гістарычная камісія, а пазней — Акадэмічны тэатр і оперна-драматычная студыя. Такім чынам, Акадэмцэнтр аб'ядноўваў усе ўстановы навукі і культуры, акрамя навучальных. У гэтых установах працавалі такія знакамітыя беларусы, як Янка Купала, Якуб Колас, С. Некрашэвіч, А. Баліцкі, З. Бядуля, Я. Лёсік, М. Грамыка, У. Чаржынскі, А. Круталевіч, І. Барашка, М. Азбукін, М. Піятуховіч, М. Байкоў.

На многіх дакументах Акадэмцэнтра стаіць подпіс загадчыка канцылярыі Н. Панамаровай. Упэўнены, прыгожы почырк. Гэта былі паперы, якія паведамлялі пра розныя мерапрыемствы: сустрэчы пісьменнікаў, творчыя вечары, выступленні хору У. Тэраўскага, прэм'еры БДТ, адчыненне "Беларускай хаткі". Таксама і выдавецкія планы, спісы супрацоўнікаў на выдачу пайка, дроў і інш.

Наталля Панамарова не стаяла ў баку ад грамадскага жыцця. У чэрвені 1922 г. сярод беларускай праваслаўнай інтэлігенцыі была распаўсюджана "Адозва да праваслаўных вернікаў". Падпісалі яе протаіерэі Сцяфан Кульчыцкі і Уладзімір Біруля, навукоўцы і пісьменнікі Якуб Колас, С. Некрашэвіч, М. Грамыка, А. Круталевіч, А. Савіч, П. Дземідовіч. Сярод іх — прозвішча Н. Панамаровай. Да адбудовы роднай царквы, да сцверджання яе на аўтаномных пачатках і захаванне яе нацыянальнага аблічча заклікалася ў адозве.

Многа загадкавага ў біяграфіі Н. Панамаровай. Адна з іх наступная. У 1922 г. яна паступіла на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ, затым з І курса "выбыла по личному заявлению". У чым прычына? Не было магчымасці сумяшчаць працу і вучобу (а гэта рабілі многія студэнты)? Ці што іншае? Веды былі ёй вельмі патрэбныя, таму што, акрамя асноўнай працы, яна была лектарам і загадчыкам курсаў для супрацоўнікаў наркамата асветы і лектарам на 12-месячных курсах дашкольнага выхавання. З чэрвеня 1922 г. з'яўлялася сакратаром інспекцыі навуковых устаноў Наркамасветы, памочнікам сакратара Галоўпрафасветы.

Творчая біяграфія Наталлі Панамаровай пачынаецца ў 1921 г. Са студзеня яна сакратар дзіцячага часопіса "Зоркі", які выходзіў на беларускай мове ў 1921—1922 гг. У ім працавалі Янка Купала, яго жонка Уладзіслава Францаўна, Я. Лёсік, З. Бядуля, М. Чарот. Пачынаючы з N 2, Н. Панамарова друкуе ў часопісе спачатку апавяданне "Сон малой Ганкі", затым — вершы для дзяцей: "Няпрызнаны пясняр", "Сенажаць" (N 3), "Старая хатка" і "Восень" (N 5), "Зімовы лес" і "Хворы Алесік" (N 6). Падпісваецца пад вершамі крыптанімам Н. П. У яе творах любоў да роднай прыроды, замілаванне яе харастам.

*Пасціхалі птушак спевы,*
*Паскідалі лісце дрэвы,*
*Зніклі кветкі на палёх.*
*Пахаваліс людзі у хаты*
*Сумна лес глядзіць кашлаты,*
*Жоўты ліст увесь палёг.*

*("Восень")*

У той самы час, як і "Зоркі", пачаў выходзіць часопіс для дарослых "Вольны сцяг", першы нумар якога з'явіўся 15 мая 1921 г. Гэта быў часопіс навукова-літаратурнага камітэта (затым літаратурнай камісіі Акадэмцэнтра) НКА Беларусі (у часопісе — БРСР, што азначала Беларуская Радавая сацыялістычная рэспубліка). Таксама з N 2 часопіс друкуе вершы Н. Панамаровай пад крыптанімам Н. П.: "Зоркі", "Каб магла" (N 2), "Да яе" (N 3), "Я пайду" (N 4).

Вось радкі з аднаго з іх "Зоркі":

*Зоркі мае мілыя, зоркі прамяністыя,*
*З вамі ўночку цёплую ціха гаманю:*
*Мо, вы зразумееце, зорачкі агністыя*
*Думкі, што замучвалі ўсю душу маю?*

Пачынаючы з верша "На могілках" ("Вольны сцяг", N 6), яна падпісвае свае творы толькі псеўданімам Хмарка. Чым навеяны гэты псеўданім? Магчыма, рамантычная сакратарка прачытала глыбока лірычны верш Янкі Купалы "Хмарка і маладзік" і захапілася ім. А магчыма, штонебудзь іншае. Дарэчы сказаць, верш Хмаркі "На могілках" быў заўважаны слынным вучоным Я. Карскім, які ў сваёй працы "Белорусы" адзначае яго, не раскрываючы псеўданіма.

*Ціхія могілкі, могілкі смутныя,*
*Вабіце вы маё сэрца бязсільнае: —*
*Кветкі задумныя, дрэвы магутныя,*
*Неба над гэтым*
*блакітна-прыхільнае.*

У 1922 г. верш "Развітанне" Н. Панамарова друкуе ў альманаху "Адраджэнне", лёс якога не быў шчаслівейшым, чым лёс "Вольнага сцяга" (па спецыяльным рашэнні ЦБ КП(б)Б зачынены):

*Пры дарозе, у знямозе*
*Дзеўчына стаяла,*
*Твар збялелы хусткай белай*
*Ціха абцірала.*
*Слёзы ліла, ня лічыла.*
*Сасляпіла вочы.*
*Шла па полі, мімаволі,*
*Як у цёмнай ночы.*

У 1923—1925 гг. Н. Панамарова актыўна супрацоўнічае з часопісам "Полымя". Гэта грамадзянская і любоўная лірыка, вершы пра прыроду, надзеі: "Ты ўзбудзіў", "Вясняны кліч", "Закутаму", "Волі спеў", "Каб я мела" і апошні з вядомых — "Сакавіку", які перадрукавала летась "Наша Ніва":

*Сакавіку мы шлем вітанне!*
*Зімы сярдзітае кананне,*
*Не напалохае больш нас. —*
*Яе мінуўся час і сіла,*
*Зіму чакае ўжо магіла*
*І блізкі к нам вясновы час!*

І нарэшце ў 1928 г. Н. Панамарова выдае кніжку для дзяцей "Апавяданне старога вожыка", у якую, акрамя вышэйназванага, ўваходзіць апавяданне "Жыхары зрэзанага дрэва", з рысункамі мастачкі Н. Ясінскай.

Вернемся да біяграфіі Н. Панамаровай. З кастрычніка 1924 г. яна — справавод Інстытута беларускай культуры. Праз месяц піша заяву аб пераходзе ў Белдзяржвыдавецтва на пасаду карэктара, адкуль у канцы 1925 г. звальняецца "ў сувязі з пераходам на іншую працу". На якую іменна — высветліць пакуль не атрымалася.

Вясной 1925 г. у Беларусі адзначаліся 20-я ўгодкі пачатку паэтычнай творчасці Янкі Купалы. Сярод іншых віншаванняў, якія друкаваліся ў газеце "Савецкая Беларусь", прыцягвае ўвагу наступнае: "З слаўнымі ўгодкамі 20-гадовай песнярскай працы шчыра вітаем беларускага Баяна — Янку Купалу. Карэкторыя БДВ". І адразу ўзнікае надзея, што ў складанні гэтага тэксту прымала ўдзел, сярод іншых супрацоўнікаў БДВ, і Н. Панамарова.

Намі знойдзены дзве запіскі, адна з якіх датавана 1928-м, другая — 1930 гадамі. Першая з іх да А. Смоліча: "Паважаны Аркадзь Антонавіч, пабачыць Вас у вольную хвіліну для прыватнай размовы — немагчыма, а таму я пішу Вам...". У канцы: "Прашу прабачэння, што турбую, але трэба ж дапамагчы людзям у цяжкім становішчы. З шчырай пашанай Н. Янчанка. 12. IV. 1928 г.".

Просіць яна за аднаго старога беларуса Малібошку, добрага канцылярыста, рахункавода, бухгалтара. Хто ён, гэты "наогул сталы і сумленны працаўнік" — устанавіць не ўдалося. Падпісана Н. Панамарова новым прозвішчам Янчанка, але па почырку пазнаецца яе рука. Значыць, выйшла замуж? Хто такі Янчанка? Толькі пытанні...

Другая запіска датаваная 14 сакавіка 1930 г.: "Паважаны Усевалад Макаравіч! Выбачайце, што турбую Вас, але асабіста ніяк не магу пабачыць. Да Вас вялікая просьба ад імя Кастравіцкай (Каганцовай жонкі). Яна сама ніяк ня можа дабіцца, у якім стане яе справа — нэрвуецца, плача і больш нічога. Можа, Вы будзеце ласкавы, даведаўшыся, перадаць ёй праз мяне адказ. З пашанаю Н. Панамарова".

Па стылі і почырку аўтар гэтых запісак той самы, хоць прозвішчы розныя. А можа, для Смоліча больш знаёмым было прозвішча Янчанка, а для Ігнатоўскага, наркама асветы і старшыні Інбелкульта, дзявочае Панамарова? Невядома, ці выканаў просьбу Усевалад Макаравіч, але 13 студзеня 1931 г., калі ўлады збіралі кампрамат на "нацдэмаў", працаўнік Наркамасветы В. Серафімаў перадаў запіску А. Рыськіну, у партыйную кантрольную камісію з наступным суправаджэннем: "Дасылаю табе яшчэ адзін дакумант, які характарызуе Ігнатоўскага ў яго спачуванні і сувязі з арыштаванымі нацдэмамі (Каганец)".

На гэтым сляды Н. Панамаровай губляюцца. Звестак пра далейшы яе лёс намі не выяўлена.

Ацэньваць мастацкія якасці твораў Н. Панамаровай будуць крытыкі і літаратуразнаўцы. Нам жа дастаткова таго, што публікавала яна свае вершы ў прэстыжных часопісах, у "Полымі" лічылася адным з актыўных супрацоўнікаў.

Просьба да чытачоў. Можа, чые родныя ці знаёмыя ведаюць лёс Наталлі Панамаровай, паведаміце аўтару гэтага артыкула.

**Аляксандра ГЕСЬ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь**

ДРУК

# Успамін... аб будучым

Да добра забытага старога ніколі не позна лішні раз вярнуцца. Асабліва, калі гэта — падзея, якая з цягам часу не страціла свайго значэння. А менавіта толькі так трэба ставіцца да Першай усебеларускай канферэнцыі архіўных работнікаў, што праходзіла ў Мінску 12—15 мая 1924 года. Якраз на ёй па сутнасці былі закладзены асновы сучаснай архіўнай справы, у нашай рэспубліцы вызначаны задачы на перспектыву, а паколькі склалася так, што асобныя з іх, на жаль, так і не былі ажыццёўлены, дык не выклікае сумнення неабходнасць вяртання да тых падзей, каб з улікам задач сённяшняга дня, працягваць рабіць тое, без чаго немагчыма зберажэнне багатай духоўнай спадчыны народа.

Таму застаецца вітаць выпуск матэрыялаў і дакументаў гэтай канферэнцыі пад эгідай Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы і Археаграфічнай камісіі Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь. А паколькі зборнік выйшаў летась (у канцы 1999-га дык і быў прымеркаваны да 75-годдзя гэтай канферэнцыі.

Укладальнік Міхаіл Шумейка паклапаціўся, каб чытач атрымаў як мага больш поўнае ўяўленне аб тым, як праходзіў гэты форум беларускіх архівістаў, хто выступаў на ім і аб чым гаварыў. І гэта відаць не толькі з саміх апублікаваных матэрыялаў. Шмат дае для разумення духу канферэнцыі і задач, што стаялі перад ёй, уступ да зборніка. Гэта быў час, калі многае стваралася на новым месцы. Ліквідоўвалася ведамаснае захоўванне архіваў. Паводле пастановы "Аб рэарганізацыі і цэнтралізацыі архіўнай справы ў РСФСР" ад 1 чэрвеня 1918 года, ствараўся самастойны орган па кіраванні цэнтральнымі і мясцовымі архівамі. Але да выканання згаданых задач на тэрыторыі Беларусі змаглі прыступіць значна пазней і на тое, як вядома, паўплывалі многія прычыны. Гэта і акупацыя беларускіх земляў, і адміністрацыйнае рэгуляванне, паводле якога Беларусь у пачатку 1920-х гадоў была ўрэзана да шасці паветаў Мінскай губерні. Але вясной 1924 года пачаўся працэс вяртання са складу Расіі тэрыторыі Віцебскай і Гомельскай губерняў.

Можна было прыступіць і да вырашэння важных архіўных задач. У тым ліку і тых, якія надзённыя і сёння: размеркаванне дакументальных збораў паміж архівасховішчамі; вяртанне назад архіваў, якія ў розны час былі вывезены з Беларусі, падрыхтоўка прафесіянальных кадраў архівістаў, выданне архіўных дакументальных матэрыялаў і іншыя. У прыватнасці, прапаноўвалася стварыць пры Беларускім дзяржаўным універсітэце археалагічны інстытут — па аналогіі з раней існуючымі пры Пецярбургскім і Маскоўскім універсітэтах.

Матэрыялы зборніка "Першая ўсебеларуская канферэнцыя архіўных работнікаў" — гэта і свайго роду ўспамін... аб будучым. Яны карысныя не толькі для кожнага, хто цікавіцца згаданымі праблемамі, а і для любога чытача будучь падказкай, што трэба рабіць, каб унікальныя матэрыялы не згубіліся, а саслужылі добрую справу нашчадкам.

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

# Мікола КАПЫЛОВІЧ



Пасля цяжкай хваробы 24 лютага 2000 года памёр вядомы беларускі пісьменнік Мікола Капыловіч.

Мікалай Фаміч Капыловіч нарадзіўся 10 ліпеня 1937 года ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў загадчыкам сельскага клуба, інструктарам Лельчыцкага райкома камсамола. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. Леніна (1963). Быў рэдактарам Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач на Беларускім радыё. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Цудзенішскай сярэдняй школе Ашмянскага раёна. У 1964—1967 гг. — рэдактар выдавецтва "Беларусь". Працаваў літаратурным сакратаром газеты "Звязда", у Дзяржаўным камітэце Савета Міністраў па друку, у выдавецтвах "Навука і тэхніка", "Мастацкая літаратура". У 1989—1990 гг. — загадчык аддзела пісьмаў газеты "Маяк Палесся" Брагінскага раёна. З 1983 г. жыў у Маладзечне.

У рэспубліканскім друку ўпершыню выступіў у 1960 г. Аўтар зборнікаў аповесцей і апавяданняў "Скрозь жывуць людзі" (1973), "Дні ціхай восені" (1968), "Засада" (1979), "Чужы сваяк" (1987) і інш.

Памёр зычлівы, добры чалавек, таленавіты пісьменнік. Памяць аб ім застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# КСЁНДЗ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

— Па ксяндза трэба бегчы. Па ксяндза! — Леакадзія лёгка падкінула пад паху фанерны чамаданчык, абвіла яго белаю поўнаю рукою, на якой ажно хавалася вострая костачка локця. — Я падышла б да іх сама, але пад ліхату і мяне застрэляць, ці благое што ўчыняць. Яны ж п'яныя. Набраліся, як мурза гароху. — Яна крутнулася на сваіх чорных, лакаваных, з замшавымі дзюбкамі, цяпер даношаных, а некалі, пэўна, дарагіх туфлях. — Трэба клікць ксяндза. Дзіця ж яго. Яна, Броня, яму...

Але выратаваў Броню і дзіця не ксёндз, а дурнаваты Васіль, што выпадкова, як і ўсе мы, надарыўся тут. Замурзаны, нямыты, у вайсковай фуражцы з малінавым акольшам, але без брыля, у вайсковых галіфэ з незавязанымі матузкамі — усё знятае ці не з забітага байца, — Васіль раптам выскачыў з-за плота і, набліжаючыся да афіцэраў, голасна, трохі гаркава прагудзеў:

— У-у, немчура!

Не думаю, што ў гэтым гаркавым выгуку афіцэры маглі ўлавіць нешта зняважлівае, але тое, што перад імі прабег нягеглы і падазрона дурнаваты, прыбраны ва ўсё рускае вайсковае, і што можа ён, пад выглядам хворага, падасланы партызан, напэўна, западзрылі. Бо тут жа пачулася кароткае, як стрэл:

— Halt! Стой!

Васіль таксама, мусіць, ведаў гэтае нямецкае страхатлівае слова, бо тут жа даў у ногі. Я бачыў, як замільгалі яго ружаватыя пяты. Яны і паддалі нямецкім афіцэрам раз'юшанай злосці. Афіцэры ўскрыкнулі ўжо разам ад дзіва і нечаканай разгубленасці. Яны рвануліся ўслед за Васілём, забыўшыся пра юдэн кляйн і яго лупавацецькую маці. "Дагнаць і застрэліць" — вось што ўжо зваблівала іх. І мне помніцца іхнія боты з гранёнымі шыпамі на падэшвах і блішчастымі жалезнымі падкоўкамі на абцасах. А, можа, і не іхнія, не афіцэраў, а радавых нямецкіх салдатаў боты. Можа, мне помніцца боты, якія насіў сам, знятыя з двух забітых нямецкіх салдатаў — адзін большы, з шырокаю ўверсе халяваю, другі — меншы. Як яны іскрыста і шыпуча рэзалі лёд... А тады гэтакія боты несліся ўпагон за нямытым, малахольным Васілём. У той дзень на местачковай, як і цяпер, пясчанай вуліцы я стаяў босы, чуючы цяпло мяккага, як попел, перацёртага пяску. А Васіль, прыгнуўшыся, матляючы доўгімі рукамі, напорыста бег. І, неразважны, неразумны дзівак, якраз сярэдзінаю вуліцы.

Я ажно прысеў і зажмурыўся ад страху, бачачы, як даўгашыі, у акулярах, афіцэр прыкленчыў і на ўскінутую левую руку паклаў свой кароткі чорны вальтэр. Не вельмі гучны стрэл падняў толькі з блізкага куста бэзу малады шчабятлівых вераб'ёў, што спуджана разляцеліся ў розныя бакі, а Васіля пакінуў жывым. Тады стрэліў другі, і Васіль трохі пахіснуўся. З галавы ў яго зляцела і, робячы круг, упала сярод вуліцы ў сухі шэры пясок круглая, без брыля, фуражка з малінавым акольшам. А трэці стрэл нібы пранізаў маё сэрца — Васіль падае. Прыглядаюся лепш — не. Гэта ён заварочвае ў завулак, ажно сустрэчны вецер задзірае стрэшкаю яго рыжавата-сонечныя валасы.

"Уцёк", — з палёгкаю ўздыхаю я. Але нямецкія афіцэры, нібы не верачы, яшчэ бягуць упагон.

Беражонага, як кажуць, Бог беражэ. Але і неразважнага, хворага на галаву Васіля, што не вельмі бярогся, асцерагаў таксама. І не толькі тут, на пясчанай местачковай вуліцы, але і ў нязнанай, чужой для яго Нямеччыне. Бярог праз усю вайну, каб вярнуць дадому дагледжанага, у новым касцюмчыку, які тут, у родным мястэчку, неўзабаве абнасіўся, сцёрся, і Васіль у ім стаў тым самым знаёмым, нямытым, недагледжаным, малахольным Васілём. А было, сталася тое, што нехта з местачковай управы выкрасліў са спіса прозвішча свайго знаёмага ці падкупленага, і ў таварным цягніку, што стаяў недалёка ад вакзала, у карычневым вагоне апынуўся ён, хворы на галаву Васіль Таўкун. Мне прыгадваецца, як яго маці, рослая, худая, касцістая кабета з касаватым вокам, што ўсё бліскала вялікім бялком, стаяла зводдаль закрытых вагонаў з белым клуначкам у руцэ — падаянкаю, як кажуць у нас, і ніяк праз варту злосных і няўмольных паліцыянтаў не магла прабіцца да вагона.

Выратаваны Васілём хлопчык, што ляжаў у калясцы, блаславёна і шчасліва рос — Броню з дзіцём ці то за пакаёўку, наймічку, ці, праўдзівай, каханку забраў да сябе Яблонскі, той самы арганісты з местачковага касцёла. А ксёндз, як закрылі касцёл, зрабіўшы там склад солі, пераехаў у Польшчу. Яблонскі тады пры сваім доме, адкрыўшы малітоўню, прытуліў веруючых, асабліва старых адзінокіх бабулек, што даверылі яму не толькі душу, але і прыхаваныя на чорны дзень, на смерць дробныя залатнікі. Колькі іх сабраў Яблонскі — невядома, але нехта ў знакамітую пару барацьбы з валютчыкамі падказаў. Забраўшы тыя залатнікі, Яблонскага, вядома ж, судзілі. І там, у турме, ён нібы загавеў...

Ціха паходжваю ўздоўж нізкага плота, што падпірае навіслыя, яшчэ неасыпаныя кусты акацыі. Нада мною суха шапоча высокі, як вулканічны фантан, стары шурпаты сахарань. Вецер, што пачынае ўсходжвацца, прадказваючы змену надвор'я і дождж, сыпле, рве на дрэве пажухлае лісце. Сахараня, дарэчы, я не помню, помню толькі крывую, нахіленую, як неапалітанскую, ружовую сасну. Я туліўся за яе, калі рослы, сіпаты паліцыянт няшчадна сек гумаю старэйшых хлопцаў, выпусціўшы з магістрата толькі мяне.

Аднак ужо шчоўкае замок. На цэментавых прыступках стаіць прывабна-спакуслівая стройная маладзіца.

Я ўслед за ёю ўваходжу ў былы магістрат, а цяпер адміністрацыю мястэчка. Той самы калідорчык з дзвюма бела-ружовымі грубкамі. Дзверы, якія адчыняю, папярэдне пастукаўшыся, здаецца, таксама тыя ж самыя. За імі — ніжэйшы і нашмат паменшаны кабінет. Вялікага стала з зялёным сукном і белым тэлефонным апаратам, на нікеляванай вілцы якой ляжала галаватая слухаўка, таксама няма, як няма і круглага століка з вышыванай сурвэткай, на якой стаяў дзюбаты сіфон і разбыяная крышталёвая шклянка.

Сталы два: адзін пры акне, заслонены малочнымі палоскамі модных цяпер вертыкальных жалюзі, з бэжавым камп'ютэрам на ім, другі — насупраць дзвярэй, са стосам папак, настольнаю, як нага коніка, востраю ў каленцы лямпаю і... бялявай, кучарава-прыгожаю галоўкаю пад ёй.

Кучаравая галоўка падымаецца і варушацца спакуслівa поўныя губкі:

— Не, вугаль мы яшчэ не выпісваем.

Я ўсміхаюся і дастаю з нагруднае кішэні камандзіровачны бланк:

— У мяне іншая да вас справа.

— Ой, я ж пераблытала вас бог ведае з кім.

— Бывае... Я таксама аднаго, што круціўся тут на веласіпедзе, таксама пераблытаў... Дарэчы, ён і напытваў пра вугаль і дровы.

— Гэта, мусіць, ксёндз, як мы кажам, — пухлыя губкі хукаюць на пячатку і на адвароце бланка застаюцца два фіялетавыя кружкі.

— Ксёндз, кажаце?..

— Ну, гэта мы смяёмся. Бацька ў яго быў ксёндз. А мо выдумляюць.

— А маці яго жывe?

— Ды хіба вы яе знаеце? Ой, нагаварыла я тут... — чырванее і сарамяжа хавае свае шэрыя вялікія вочы мілавідная сакратарка. А потым, перавярнуўшы мой камандзіровачны бланк, нарэшце чытае, хто і адкуль я. — А прозвішча ў вас, як нашае.

— Скажэце, а вы часам не дачка Леакадзіі? — нарэшце смялею і пытаюся я.

— Бабуля ў мяне была Леакадзія. А што? — На мяне зноў падымаюцца вялікія шэрыя вочы. І на адным з іх я бачу трохі нібы ўсечаную зрэнку. Як помніцца, такая зрэнка была ў нашай местачковай гандляркі Леакадзіі Чарток.

— Паўміралі нашыя бабулі. І ўсе на рак хварэлі. Пад намі знайшлі радон, а ён, кажуць, радыеактыўны. Аблучае. Але санаторыю будуюць, вялікую — на тысячу семсот месцаў. Гоняцца за грашыма, а што ім рак.

— А вы мне пра ксяндзову маці, — перабіваю сакратарку, — так нічога і не сказалі: жывe ці не?

— Гады чатыры назад, як памерла. Адмучылася, застаўшыся без ног. Не глядзеў яе гэты арганісты. Кіне адну, хворую, у хаце, а сам — то на пахаванне, то на малебны.

— А ён, арганісты, як?

— Ого, які спраўны дзед. Касцёл адваявау, а цяпер на харах так іграе, ажно касцёл разлягаецца.

— Хіба ўцалеў там арган?

— Ёніку купіў.

Дзверы прыадчыняюцца, і ў кабінет зазірае мужчына ў пляскатай кепачцы. Ён — "ксёндз". Сакратарка нагінае галаву ў бела-залацістых, як у баранчыка, кудзерках, і чувáць, як яна нястрымана пырскае смяшком. І мае вусны торгае нечаканая ўхмылка. Я згортваю і хаваю ў пацёрты, яшчэ не абмяняны пашпарт камандзіровачны бланк.

У калідоры размінаюся з чарнявым, прыкметна пасівелым на скронях мужчынам. І нават пачынаю сумнявацца, што менавіта ён, ужо абсыпаны срэбрам на скронях, ляжаў у блакітнай калясцы недалёка адсюль, даўнейшага магістрата альбо цяперашняга будынка адміністрацыі, і яго, як і яго маці, нечакана выратаваў ад смерці, трапіўшы пад кулі, хворы на галаву Васіль...

Нарэшце, як з глыбокага віру, выплываю на сонечна-мройны, успенены ветрам дзень. На душы бруіцца, кіпіць незразумелае, дваістае пачуццё: як радасна, як шчасліва, што таго страшнага і даўняга няма, і як шкода, і як тужліва, што няма і болей не будзе мае светлае пары — майго ўжо забытага дзяцінства.

